# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 31 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2005 г.


## У НУМАРЫ:



## Тут Віленшчына цяпер

*Пасля перадачы Вільні Літве Ліда фактычна засталася цэнтрам той часткі Віленскага краю, якая аказалася ў межах Беларусі*



**На самым краі, на краі,**
**на даўняй Віленскай зямлі**
**Стаіць наш слаўны горад мілы.**
**Шумяць праносяцца вятры,**
**гудуць і ўнізе, і ўгары,**
**Ды што яму да іх няй сілы.**

**Не тое тут калісь шумела,**
**не тое громамі грымела,**
**А ён стаяў, як стоўп каменны.**
**Пылалі ярка пажарышчы,**
**дымелі курна папялішчы,**
**А ён адроджваўся нязменна.**

**І вось як Вільню з горкай долі**
**аддалі ў жмудскую няволю,**
**Тут цэнтр Віленшчыны застаўся.**
**Зіяюць фарбы краявідаў,**
**гарыць агнямі горад Ліда,**
**Красуе, як і красаваўся.**

**Сюды ідзіце, госці-браце**
**мы вас тут рады прывітаці,**
**Нальём за грошы й напавер.**
**І гэта праўда, бо вядома,**
**што ў нашай Лідзе кожны дома,**
**Бо тут Віленшчына цяпер.**

*Станіслаў Суднік.*





**Францішак Багушэвіч (21.03.1840 - 28.04.1900),**
адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры, аўтар словаў: ***“Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі”***, жыццём і творчасцю цесна звязаны з Лідчынай

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 31 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2005 г.


# Лідскі замак ажыў



17 - 18 верасня ў Лідзе прайшоў Міжнародны рыцарскі турнір "Замак Гедзіміна". Турнір ладзілі Лідскі райвыканкам і Рэспубліканскае моладзевае аб'яднанне "Рыцары Вялікага Княства".

Усяго ў турніры брали ўдзел 48 рыцарскіх клубаў (за 460 удзельнікаў).

Разыгрываліся: конны турнір, пешы турнір, турнір лучнікаў, групавы турнір (бугурт) і штурм замка. Упершыню ў но-вай гісторыі Беларусі турнір праходзіў ўнутры сярэднявеч-нага замка, ды яшчэ самага старажытнага ў краіне.

На думку многіх рыцараў Лідскі замак найбольш аптымальнае месца для правядзення такіх мерапрыемстваў. І гэтая думка супадае з пазіцыяй лідска-га кіраўніцтва зрабіць гэты тур-нір штогадовым.

*(Працяг тэмы на ст. 20.)*



Мы просім ўсіх,
хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі
Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:
Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.


ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ Г 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 350 асобнікаў**
**друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.
Замова № 4
Часопіс падпісаны да друку 15. 11. 2005 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1150 руб.
індывід. 6 мес.- 2300 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# КРОНІКА ЛІДЫ





1 - 3 ліпеня ў Лідзе праведзена выстава “Прамысловы комплекс Лідскага рэгіёну”.
Выставу наведалі дэлегацыі 7 краін.




У ліпені Лідскі райвыканкам выдаў ілюстраваны буклет “Лідскі раён. Даведачна - інфармацыйныя матэрыялы”.

9 ліпеня г. Бярозаўку і шклозавод “Нёман” наведаў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка.



***Шклозавод “Нёман”***



14 ліпеня ў Лідзе прайшоў навукова - інавацыйны семінар “Аб узаемадзеенні Нацыянальнай акадэміі навук з прадпрыемствамі і арганізацыямі Лідскага раёна. У семінары ўзялі ўдзел 40 навукоўцаў НАН.



9 жніўня старшынём Бярозаўскага гарвыканкаму абраны Яводзік Валеры Анатолевіч



У жніўні на беразе Лідскага возера адкрылася выратавальная станцыя новага тыпу, трэцяя ў Беларусі пасля Мазыра і Лоева




У жніўні пабачыла свет на беларускай мове кніга беларускага польскамоўнага пісьменніка Сяргея Пясецкага “Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі” ў перакладзе лідскага пісьменніка і перакладчыка Алеся Астраўцова.



У жніўні рэктарам Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы прызначаны ўраджэнец вёскі Андрашоўшчына Лідскага раёна, выпускнік Моцевіцкай школы Роўба Яўген Аляксеевіч.



1 верасня адкрыта новая сярэдняя школа ў вёсцы Пескаўцы Лідскага раёна.

У пачатку верасня ў Мазыры ў выдавецтве ТАА ВД “Белы Вецер” выйшла кніга выкладчыцы Лідскага педкаледжа Вольгі Сяргееўны Рудзік “Планаванне работы па развіцці маўлення дашкольнікаў у вольны ад заняткаў час. Дапаможнік для педагогаў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне дашкольнай адукацыі.” 100 стар. Наклад 1800 асобнікаў.





***“Юнацтва” - Ліда***

7 - 10 верасня ў Лідзе прайшоў рэспубліканскі турнір “Скураны мяч”. Пераможцамі турніру сталі падлеткі каманды “Юнацтва” г. Ліды.

8 верасня ў Лідзе прайшла прэзентацыя фотаальбома “Ліда” лідскага фотамастака Ігара Пешахонава. Аўтар тэксту Валеры Сліўкін. Альбом выдадзены на трох мовах: беларускай, англійскай і польскай.
Выдавецтва “Беларусь”. Наклад 2000 асобнікаў.






***Руслан Жвірко з трэнерам***

На чэмпіянаце свету па цяжкай атлетыцы сярод кадэтаў у Сафіі (Балгарыя) Руслан Жвірко з Ліды ў вазе да 85 кг. заваяваў 3 бронзавыя медалі і заняў агульнае 3-е месца.

# Кроніка айкумены

## Лідскі гістарычны каляндар

## ліпень – верасень

**1415 год, ліпень.** Польскі кароль Уладзіслаў Ягайла наведаў Ліду, спыняўся ў Мыто.

**1435 год, 1 верасня.** Вілкамірская бітва на р. Святой. Параза войскаў князя Свідрыгайлы.

**1525 год, 22 жніўня.** Кароль Жыгімонт выдаў дазвол лідскім мяшчанам Сеньку Янковічу і Анопрыю Пацярэйкавічу "віном гарэлым шынкаваці" за 7 коп грошаў у год. І нікому больш, толькі ім дазволена "шынкаваці".

**1655 год, 28 ліпеня.** Бітва пад Ашмяной рускіх і польскіх войскаў, у якой удзельнічалі лідскія харугвы гусараў і казакоў.

**1655 год, жнівень.** Украінскія казакі пад камандаваннем Залатарэнкі прайшлі ўздоўж Нёмана, пусцілі Ліду і Лідчыну пад шаблю.

**1705 год, 28-30 жніўня.** Расійскі цар Пётр 1 спыняўся ў Трабушках у хаце Льва Ільцэвіча пры пераходзе расійскіх войскаў з Вільні ў Гародню.



**Ягайла**

**1765 год, 30 верасня.** Фундушавы запіс Лідскаму піярскаму касцёлу ад лідскага старасты Ігната Сцыпіёна і яго жонкі на 20 тысяч злотых у маёнтку Мерач.

**1825 год, 4 ліпеня.** Урачыста асвечаны піярскі касцёл Язэпа Каласанты (Язэпаўскі) пры шматлікім зборы абываццеляў і службоўцаў.

**1845 год, восень.** У Лідскай дваранскай навучальні вучыўся Людвік Нарбут.

**1865 год, восень.** Адчынена Дакудаўская народная навучальня.



**Людвік Нарбут**

**1885 год, восень.** Адчыненыя школы пісьменства ў Далекіх і Ольжаве ад Лідскага прыходу, у Чырвонай - ад Зблянскага, у Восаве, Сяльцы і Табале - ад Беліцкага.

Саборная царква атрымала за арэнду вадзянога млына 450 рублёў.

У Лідскім прыходзе 4 школы пісьменства, у якіх навучаюцца 70 дзяцей: 49 хлопчыкаў і 21 дзяўчынка, 59 праваслаўных, 8 католікаў і 3 юдзеі. Настаўнікі: у Ольжаве - селянін Восіп Ганевіч, у Далекіх - унтар-афіцэр Восіп Янчэўскі, у Курасоўшчыне - селянін Міхась Хітрун , у Раклёўцах - селянін Восіп Кузюта.

**1895 год, 6 жніўня.** У ляску пад Лідай адбылася маёўка, на якой прысутнічалі каля 500 чалавек.

**1895 год.** У Ольгаўцах ад Голдаўскага, у Пескаўцах ад Зблянскага, у Шпільках ад Малажэйкаўскага прыходаў адчыненыя школы пісьменства.

**1905 год, 7 жніўня.** Застрайкавалі прыказчыкі і прадаўцы багатых крам і мануфактурных складоў.

**1905 год, верасень.** Уладальнік Геранёнаў Лідскага павету Іпаліт Корвін-Мілеўскі аднавіў у Вільні выданне часопіса "Kuryer Litewski".



No 2

KURYER LITEWSKI

MY ALEXANDER PIERWSZY,

**1905 год, восень.** Лідскі рабін Іцхак Якаў Райнес пры фінансавай дапамозе барона Д. Гінцбурга адчыніў у Лідзе рэфармаваны ешыбот з тэрмінам навучання ў 6 гадоў.

**1905 год, восень.** У з. Цвербуты адчыненая царкоўна-прыходская школа

**1915 год, ліпень.** З Яблонна (пад Варшавай) на Лідскі аэрадром пераводзяць эскадру самалётаў Ілья Мурамец" (10 самалётаў, з іх 2 вучэбныя) цяжкай авіяцыі, падпарадкаванай Вярхоўнаму Галоўнакамандаванню рускага войска.



*"Ілья Мурамец" на Лідскім аэрадроме*

**1915 год, жнівень.** Лідскія жанчыны пабудавалі чыгуначную каляю ў Паўднёвы гарадок.

**1915 год, 27 жніўня.** Эскадра паветраных караблёў "Ілья Мурамец" - 7 самалётаў (ІМ 1-6 і ІМ Кіеўскі) з Ліды выляцела ў Пскоў. Частка эскадры - пашкоджаныя і няздольныя да палёту "Мурамцы", штаб, частка персаналу і 75 мм батарэя заставаліся ў Лідзе.

**1915 год, 9 верасня.** Першы дзень Свянцянскага прарыву. У раён Ліды накіраваныя два карпусы з 1-й арміі.

**1915 год, 20 верасня.** Вадзяны млын пры вул. Гражыны спалены рускімі войскамі пры адступленні. Лідскі павет акупаваны кайзераўскімі войскамі.

**1915 год, восень** На акупаваных землях арганізаваны Ober-Ost. Лідскі павет падзелены на тры меншыя: Лідскі (Kreisamt Lida), Радуньскі -з цэнтрам у маёнтку Пагародна і Планты -з цэнтрам у Шчучыне.

**1925 год, ліпень.** Польскі Сойм прыняў закон аб парцаляцыі і асадніцтве, паводле якога невялікія ўчасткі (парцэлы) абшарніцкай і дзяржаўнай зямлі пачалі прадавацца. Уводзілася хутарызацыя сялянскіх гаспадарак.

**1925 год, лета.** У Наваградскім ваяводстве ўводзілася аблогавае становішча.

**1945 год, 3 ліпеня.** Лідзяне святкавалі свой першы дзень вызвалення Беларусі.

**11 ліпеня.** У Лідзе размешчаная вайсковая частка 26213. Начальнік залогі райваенкам п/п Буторын.

**1945 год, 20 ліпеня.** 30-ці выпускнікам Лідскай педнавучальні прысвоеная кваліфікацыя "Настаўнік пачатковых класаў".

**1945 год, 30 ліпеня.** Прынята рашэнне райвыканкаму аб аднаўленні цагельняў “Прыдыбайлы” і “Перапечыца”.

**5 жніўня.** Гарадской бібліятэцы прысвоена імя Я. Купалы.

**28 жніўня.** Польская НСШ № 3 пératворана ў рускую няпоўнасярэднюю школу № 3.

**1945 год, восень.** У Лідскім раёне ў 43 пачатковых і 2 няпоўнасярэдніх школах навучаліся 3200 дзяцей.

**1955 год, 1 верасня.** Пачаліся заняткі ў музычнай школе і новай СШ № 8.

**1985 год, 11 ліпеня.** На паседжанні выканкаму гарсавету вырашана пераназваць вул. Ураджайную ў вул. імя Булату Барыса Адамавіча.

**1985 год, 25 жніўня.** У горадзе адбылося “Свята працы”.

**1995 год, 6 верасня.** Урачыста асвечана Гудская капліца.



***Гудская капліца***

# Лідскія юбіляры 2005 года

**ДОГЕЛЬ Мацей** (6.8.1715, в. Гембулы Лідскага пав.—24.2.1760), гісторык-архівіст, праваед. Пасля заканчэння Шчучынскага піярскага калегіюма ўступіў у ордэн піяраў і займаўся выкладчыцкай дзейнасцю. Надворны маршалак ВКЛ, уладальнік мястэчка Шчучын Ю. Сцыпіён даручыў яму выхаванне свайго сына, разам з якім Догель выязджаў за мяжу, наведваў лекцыі ў Ляйпцыгскім і Парыжскім універсітэтах, удасканальваў свае веды ў філасофіі, міжнародным праве і матэматыцы. З канца 1740-х г. рэктар піярскага калегіюма ў Вільні, заснаваў школу з асобным інтэрнатам для шляхецкай моладзі. У апублікаваным «Паведамленні» пра адкрыццё гэтай школы падкрэсліваў вялікую ролю асветы ў справе маральнага ўдасканалення народа. Шмат падарожнічаў, у 1748 як пасол Рэчы Паспалітай меў магчымасць працаваць у архівах і бібліятэках Германіі, Францыі, Галандыі, дзе сабраў шмат гіст. і дыпламатычных дакументаў. Выкарыстоўваў таксама рэдкія, малавядомыя або, нават, сакрэтныя афіцыйныя дакументы, што захоўваліся ў каралеўскім архіве Кракава і Нясвіжскім архіве Радзівілаў. Асноўным навуковым і наватарскім на той час выданнем Догеля быў збор міжнародных трактатаў. З 8 запланаваных тамоў выйшлі толькі 3 пад назвай «Дыпламатычны кодэкс Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага» (т. 1,1758, т. 4, 1764, т. 5, 1759). Нявыдадзеныя матэрыялы (5 тамоў) у рукапісах паступілі ў Каралеўскую бібліятэку (Варшава), потым у Віленскі універсітэтт, адкуль у Пецярбургскую публічную бібліятэку. Выдаў таксама збор дакументаў «Межы Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага» (1758) па вызначэнні дзяржаўнай мяжы ВКЛ з Польшчай у сярэдзіне 16 ст. Яго зборнікі матэрыялаў па гісторыі міжнародных адносінаў Польшчы, Літвы і Беларусі за 13—18 ст. як гістарычныя крыніцы не страцілі свайго значэння да гэтага часу.



***Мацей Догель***



CODEX
DIPLOMATICVS
REGNI POLONIAE
ET
MAGNI DVCATVS LITVANIAE
PACTA, FOEDERA, TRACTATVS PACIS,
CONVENTIONES, PACTIONES, CONCORDATA,
LITERAE ITEM REVERSALES, CONCESSIONVM,
MONVMENTA
VILNAE

**СТОЛЕ Юліюш** (1855-1927) – уладальнік аднаго з буйнейшых у Еўропе шклянога завода “Нёман” у Бярозаўцы. Пахаваны ў Бярозаўцы. Дзеці Столе: Браніслаў (Станіслаў), Фелікс і Юзэфа. Сын Антоні загінуў за Айчыну ў 1920 г., пахаваны ў Бярозаўцы.



*Юліюш Столе*

**ГАРДОН Шмуэль (Шмуль) Лейба** (акронім Шалаг, 1865-1955). Нарадзіўся ў Лідзе. Яўрэйскі пісьменнік, паэт, перакладчык, бібліёграф. У 1898 г. выехаў у Палестыну дзе выкладаў у яўрэйскай мужчынскай школе ў Яфе. З 1901 г. у Варшаве, дзе стварыў школу з выкладаннем на іўрыце. Рэдагаваў часопісы для дзяцей і моладзі “Олам патон” (1901-05), “Га-неўрым” (1904-05), настаўніцкі штомесячнік “Га-педагог” (1903-04). У 1924 г. канчаткова пераехаў у Палестыну. Выпусціў кнігу вершаў “Арфа Ізраіля” Т. 1-3 (1891-93) . “Тэорыя літаратуры” т. 1-2 (1900). У 59 гадоў выдаў шматтомны каментар да Танаха (Бібліі), які з’яўляецца асноўным навучальным дапаможнікам у свецкіх школах Ізраіля. Пісаў на іўрыце. Шырокую вядомасць атрымалі яго падручнікі іўрыту, а таксама пераклады на іўрыт байкаў Лефантэна і “Караля Ліра” У. Шэкспіра.

**ГЛАДЫШАЎ Яфрэм Іванавіч.** Першы старшыня Лідскага гарвыканкаму (люты?) 1940- чэрвень 1941 г.) Нарадзіўся у 1915 г., беларус. Пачаў працоўную дзейнасць на Бабруйскім фанера-дрэваапрацоўчым камбінаце з чарнарабочага, у далейшым атрымаў кваліфікацыю рамшчыка. Адным з першых уключыўся ў стаханаўскі рух, усесаюзны рэкардсмен па распілоўцы лесу. Дэпутат ВС БССР першага склікання. Член камісіі па распрацоўцы канстытуцыі 1936 г. у 1938 г. абраны старшынём Бабруйскага гарвыканкаму. Быў членам ЦВК БССР. У 1940 г. накіраваны ў Ліду старшынём гарвыканкаму. У газеце “Уперад” № 88 ад 17.09. 1940 г. быў апублікаваны яго артыкул “Год савецкай улады ў Лідзе”. У снежні 1940 г. выбраны дэпутатам Баранавіцкага абласнога савета . У пачатку вайны кіраваў аддзелам дабраахвотнікаў і загінуў пад Рагачовам. Паводле іншых звестак загінуў пры бамбёжцы па р. Нёман.



*Я. І. Гладышаў*

**ЛАБАН Пётр Пятровіч.** Нарадзіўся 29 ліпеня 1945 года ў в. Навапрудцы Лідскага раёна (зараз у межах горада Ліды). Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў электраманцёрам у Лідскіх электрасетках. У 1969 годзе скончыў Беларускі інстытут механізацыі і электрафікацыі сельскай гаспадаркі і вярнуўся ў Лідскія электрасеткі. У тым жа 1969 годзе быў прызначанынамесніка начальніка Воранаўскага раёна электрасетак. Цераз год вярнуўся ў Ліду, некалькі гадоў працаваў у службе рэлейнай аховы і аўтаматыкі. У 1977 годзе прызначаны начальнікам Лідскага раёна электрасетак. У 1979 годзе едзе на працу ў ГДР у Групу савецкіх войскаў. Са жніўня 1980-га года ізноў начальнік Лідскага раёна электрасетак. У траўні 1985 года П. П. Лабан прызначаны дырэктарам Лідскіх электрасетак. Пад яго кіраўніцтвам пачалася тэхнічная эстэтызацыя падстанцый 110 кВ і вышэй, пачалі ўкараняцца перадавыя матэрыялы і тэхналогіі, праводзіцца камп’ютарызацыя прадпрыемства.

У 1988 годзе падчас землятрусу ў Арменіі П. П. Лабан дабраахвотна вызваўся ехаць у Арменію. Ён быў прызначаны камандзірам аддзелу беларускіх энергетыкаў, які ў сціслыя тэрміны аднавіў электразабеспячэнне Спітака і Спітакскага раёна. Пасля завяршэння работ П. П. Лабан “за ўмелае кіраўніцтва аддзелам беларускіх энергетыкаў, смеласць у прыняцці рашэнняў, знаходлівасць і аператыўнасць у працы” быў узнагароджаны ордэнам “Знак Пашаны”.



*П. П. Лабан*

Пётр Пятровіч Лабан жанаты, мае дзвюх дарослых дачок

Аўтарытэт Пятра Пятровіча Лабана ў Лідзе настолькі высокі, што менавіта ён быў абраны старшынём Рады дырэктараў г. Ліды і займае гэтую пачэсную пасаду дагэтуль.

165 гадоў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча

# ... СЕМ РАЗ ЛІДУ ЁН АДВЕДАЎ...

Гэты радок з вядомай паэмы Францішка Багушэвіча "Кепска будзе!" Ён пра прыёмнага бацьку сіраціны Аліндаркі, яго айчыма.

Аліндарка, як вядома, нарадзіўся дзесьці поблізу Абораў, з яго колішнім драўляным касцёлам. Гэта недалёка ад Маладзечна, пад Палачанамі. Але, як вынікае са зместу твора, далейшыя жыццёвыя Аліндаркавы шляхі-пуцявіны пралеглі праз Ліду і Лідчыну. Тут ён гадаваўся і рос. Спачатку беднага сіротку трошкі цётка падрасціла, а пасля якомусь чалавеку адпусціла за сына.

На Лідчыне Аліндарка перажыў самую вялікую драму свайго жыцця. Тут яго арыштавалі і пасадзілі ў астрог. Гэта і змусіла Аліндаркавага апекуна, якога юнак лічыў ужо за бацьку, схадзіць аж сем разоў у Ліду да нейкага вялікага судовага начальства, каб вызваліць беднага, нявіннага сіротку з астрогу. Вось як пра гэта гаворыцца ў самога Багушэвіча: *"А ён торбу ўзяў на плечы,па начальству просьбы жара! Тройчы Вільню,* ***сем раз Ліду*** *ён адведаў..."* .

На Ліду і Лідчыну Францішак Багушэвіч скіроваў свой погляд неаднойчы. Так, ён згадавае Лідчыну ў лісце да **Яна Карловіча** за 10(22) чэрвеня 1886 года, паведамляе пра славуты на Лідчыне маёнтак Ружанка *(мабыць Ражанка)*, якім зацікавіўся сам віленскі губернатар.

Надзвычай цікавыя звесткі з Лідчыны ў Багушэвічавым лісце да Карловіча за 16(28) лістапада 1887 года. Тут пісьменнік расказаў цэлую гісторыю пра якогасьці пана з Лідскага павету **Казлоўскага**, з якім часта судзіліся сяляне і, вядома, заўсёды прайгравалі.

Але тут знайшоўся адзін, вельмі дападны селянін, які ўсё ж трохі нагнаў страху на гэтага Казлоўскага. Аднаго разу, прабадзяўшыся дзесьці пару тыдняў, ён пусціў пагалоску, што быў у Пяцярбургу, і цяпер пра ўсе штукарствы Казлоўскага ведае сам цар. І нібыта той, пахітаўшы абуральна галавой, сказаў: *"Ну, Казлоўскі! Я ж не спадзяваўся!"* Францішка Багушэвіча ва ўсёй гэтай гісторыі найбольш цікавілі апошнія словы. Яны на Лідчыне ў той час былі вельмі ходкія, гаваркія. Як толькі надарыцца нейкае нечаканае ашуканства ці махлярства, асабліва ад таго, ад каго яно не чакалася, то скрозь можна было пачуць: *"Ну, Казлоўскі! Я ж не спадзяваўся!"*. Багушэвіч запісаў выраз як прымаўку, як крылатыя словы, даследаваў іх вытокі, вызначыў, што свой пачатак яны бяруць з 1850 году, і радзіма іх – Лідчына.

Згадвае Багушэвіч Лідчыну і ў сваіх допісах у часопіс "Kraj". Так, у нататцы за 1886 год пісьменнік паведамляў, што на Лідчыне, гэтак жа, як і ў суседніх паветах, разлютавалася матыліца, загінула шмат жывёлы (авечак), і гаспадары з-за гэтай хваробы на жывёлу маюць вялікія страты.




***Францішак Багушэвіч***

Вясной наступнага году на мяжы Лідскага і Віленскага паветаў разгулялася воспа, якая таксама нарабіла шмат гора людзям. Багушэвіч на свае вочы бачыў спярэшчаныя свежым рабаціннем твары людзей, якія прыходзілі з Ліды і Лідчыны ў віленскую кальварыю падчас зялёных святкаў. Пра пабітыя воспай твары казалі: шылам голеныя. Шмат сем'яў павымірала. Пра ўсё гэта даведваемся з Багушэвічавай нататкі, змешчанай у часопісе "Kraj" за 1887 год (№ 22).

Як бачым, самыя разнастайныя з'явы з Ліды і Лідскага павету турбавалі паэта, траплялі на яго вока і пяро. Адкуль у яго такая цікавасць да Ліды і Лідчыны?

Мабыць, з тых часоў, калі Францішак настаўнічаў у Доцішках. Доцішкі ў тую пару былі якраз ў межах Лідскага павету.

У Доцішкі Францішак Багушэвіч трапіў пасля выключэння ў 1861 годзе з Пецярбургскага універсітэта, дзе ён вучыўся на матэматычным факультэце. Прытуліў выключанага студэнта гаспадар тутэйшага маёнтка **Аляксандр Жвіровіч** ды даручыў вучыць пісьменству мясцовых дзетак.



***Аляксандр Жвіровіч***



***Францішак Багушэвіч з вучнямі ў в. Доцішкі. З карціны Г. Сянькоўскага, 1984.***

На Лідчыне, найбольш верагодна, Ф. Багушэвіч атрымаў і першае сваё баявое хрышчэнне як удзельнік паўстання 1863 года. Хутчэй за ўсё, што менавіта са Жвіровічам трапіў Багушэвіч да паўстанцаў. Схіляе да гэтай высновы і той факт, што 12 чэрвеня 1863 года пасля сутычкі з паўстанцамі карнікі наляцелі на Доцішкі і арыштавалі гаспадара маёнтка Аляксандра Жвіровіча ды параненага паўстанца Ўладзіслава Пілецкага, які разам з Францішкам Багушэвічам быў выключаны з універсітэта. Пілецкі паказаў на допыце, што ён ваяваў у аддзеле Людвіка Нарбута. У гэтым жа аддзеле ваяваў мастак Міхал Андрыёлі, які намаляваў партрэт Францішка Багушэвіча. У адным з баёў на Лідчыне Ф. Багушэвіч быў паранены.

І ў пазнейшыя гады, калі Багушэвіч, хаваючыся ад царскіх карнікаў, жыў на Ўкраіне, ён не адзін раз скіроваў свае думкі на Ліду і Лідчыну. Ацалела капэрта за 1865 год. На ёй Багушэвічавай рукой напісана: *"Ея высокоблагародию г-же Карловичевой через Лиду в имение Подзитву"*.

Жыццёвыя шляхі-дарогі і пазней не адзін раз прыводзілі Францішка Багушэвіча ў Ліду. У 1889 годзе яго запрашаюць працаваць юрысконсультам пры кіраўніцтве Палескіх дарог. Адна з гэтых ліній – Роўна-Вільня – пралегла праз Ліду. Не адзін раз прыводзілі Францішка Багушэвіча ў Ліду і адвакацкія клопаты. Ва ўсякім разе яго тут ведалі. У Лідзе і на Лідчыне ў яго было шмат знаёмых. Згадаем некаторых з іх з Багушэвічавымі характарыстыкамі:

**Станіслаў Нелавіцкі**, *"добры чалавек і арыгінал"*.

**Сцяпан Буткевіч**, *галосны Лідскай гарадской Думы.*

**Люцыян Кабылінскі** – *павятовы шляхецкі маршалак, ганаровы міравы суддзя Лідскай судова-міравой акругі. "Ужо год, як у адстаўцы, хоць ездзіць яшчэ на тройцы"* (звесткі з 1892 году).

**Баляслаў Кіюць** – *"вельмі шаноўны чалавек, жыве недзе каля Ліды, здаецца арандуе фальварачак Нарымскай (Калясінскай)".*

Усе гэтыя імёны згадваюцца ў Багушэвічавых лістах да Яна Карловіча.

З цягам часу, магчыма, адкрыюцца і якіясь новыя звесткі пра Ліду і Лідчыну праз Багушэвіча. Але і згаданае сведчаць, Францішак Багушэвіч меў жывую цікавасць да Лідчыны, меў моцную повязь з самой Лідай. Гэтая повязь не перапынялася і пасля смерці. Яго ідэі жыватворным зернем упалі на душы многіх лідзянаў, і адной з іх была, як вядома, наша паэтэса-рэвалюцыянерка Алаіза Пашкевіч-Цётка.

... Над старажытнай Лідай шумяць вятры гісторыі. У гэтым ціхім пошуме можна пачуць і Багушэвічаў голас. Упэўнены: і на старажытным Лідскім замку ёсць пагляд яго вачэй. Францішак Багушэвіч быў адным з летапісцаў Ліды. Хай жа і яго сціплы радок з гісторыі Ліды і Лідчыны адгукнецца ў душах лідзянаў павагай да аднаго з тых, хто любіў Ліду, любіў усю Беларусь, рабіў усё, каб наш край прычакаў больш шчасны долі.

***Уладзімір Содаль, Менск.***

***На Лідчыне размешчаны аб'ект сусветнай спадчыны ЮНЕСКА***

# ДУГА СТРУВЕ

*Два беларускія гістарычна-культурныя аб'екты — архітэктурна-культурны комплекс рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы і Дуга Струве — уключаны ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Такое рашэнне прынята 15 ліпеня 2005 года на 29-й сесіі Міжурадавага камітэту па ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны, што праходзіла ў Дурбане (ЮАР) 15 ліпеня.*

*Як паведаміла прэс-служба беларускага МЗС, на разгляд Камітэту па сусветнай спадчыне было прапанавана 35 новых кандыдатур, у тым ліку архітэктурна-культурны комплекс рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы і Дуга Струве (сумесна з Латвіяй, Літвой, Малдовай, Нарвегіяй, Расійскай Федэрацыяй, Украінай, Фінляндыяй, Эстоніяй). Члены камітэту пагадзіліся з рэкамендацыяй Міжнароднага камітэту па помніках і памятных мясцінах і прынялі рашэнне аб уключэнні ў Спіс сусветнай спадчыны двух новых аб'ектаў, што размешчаны на тэрыторыі Беларусі.*

*Па стане на 1 ліпеня 2005 года спіс уключаў 788 аб'ектаў. У іх ліку — знакамітыя Егіпецкія піраміды, Вялікая Кітайская сцяна, Сабор Парыжскай Божай Маці. Два аб'екты, уключаныя ў Спіс раней, размешчаны на тэрыторыі Беларусі — гэта Замкавы комплекс "Мір" і Белавежская пушча (сумесна з Польшчай).*

*Цырымонія абвяшчэння новых аб'ектаў сусветнай спадчыны адбылася ў Дурбане 16 ліпеня.*

*Планіровачная структура нясвіжскага комплексу Радзівілаў — самага магутнага роду ў Беларусі — заснавана на традыцыях ман'ерызму. У 1582—1600 гады тут быў узведзены магутны замак з выкарыстаннем фартыфікацыйнай сістэмы, зусім новай для Цэнтральна-Усходняй Еўропы, якая адлюстроўвала найноўшыя на той час дасягненні еўрапейскай вайсковай інжынернай думкі. У сучасным выглядзе, пасля рэканструкцыі ў XVIII стагоддзі, замак уяўляе сабой арыгінальны і адзіны, поўнасцю захаваны прыклад магнацкай рэзідэнцыі ўзроўню, які ў гэтай частцы еўрапейскага кантынента не сустракаецца.*

*Дуга Струве — найбольш дакладнае і каласальнае ў свеце вымярэнне дугі мерыдыяну, створанае вучонымі ў XIX стагоддзі і названае імем кіраўніка даследвання Васіля Струве. У працэсе вымярэння было закладзена 258 геадэзічных пунктаў на тэрыторыі 10 краін — Нарвегіі, Швецыі, Фінляндыі, Расіі, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі, Украіны і Малдовы. На тэрыторыі Беларусі знаходзілася 30 такіх пунктаў. У выніку вымярэння былі атрыманы дадзеныя, якія шырока выкарыстоўваліся ў вымярэнні Зямлі. У 2001 годзе спецыялістамі Камітэту па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі пры Савеце міністраў Беларусі было знойдзена 19 пунктаў Дугі Струве, закладзеных у 1825—1826 гадах. Яны размешчаны на тэрыторыі Гарадзенскай і Берасцейскай аблясцей.* ***Тры такія пункты былі размешчаны на тэрыторыі Лідскага раёна. Адзін з іх, каля вёскі ДАКУДАВА, захаваўся і быў знойдзены разам з іншымі 18****. Два пункты, каля* ***Фалькавічаў*** *і* ***Чэрнікаў****, пакуль што не знойдзены і лічацца не захаваўшыміся.*

## Руска-Скандынаўскае градуснае вымярэнне 1815-1852 гг.

У XVIII стагоддзі ўпершыню было ўстаноўлена, што Зямля мае не форму шара, а форму эліпсоіда. Аднак вымярэнні, на падставе якіх гэта было ўстаноўлена, не давалі дакладных вынікаў. Таму ў 19-м стагоддзі навукоўцамі шмат якіх краін выконваліся новыя градусныя вымярэнні: Ост-Індыйскае (1802-1874), Гановерскае (1821-1824), Англа-Французскае(1850), Прускае (1831-1834), Паўднёва-Афрыканскае (1842-1852), Шведскае (1801-1803), Галштынскае (1820-1823).

Градусныя вымярэнні мінулага, якія мелі мэтай азначэнне памераў і формы Зямлі, згулялі велізарную ролю ў развіцці навуковых ведаў. Гэта былі высоконавуковыя працы, у непасрэдным выкананні якіх прымалі ўдзел найвыдатнейшыя астраномы і матэматыкі свайго часу: Снеліюс, Пікар, Кляро, Бузе, Маперцюі, Борда, Дэламбр, Струве, Бесель, Гаўс, Хейфард, Гельмерт, Красоўскі і шмат іншых.

Расійская імперыя таксама не засталася ўбаку ад гэтага кірунку геадэзічнай дзейнасці. Яшчэ ў 1717 годзе ў Расіі выйшла кніга знакамітага Х. Гюйгенса "Космотеорис" з прадмовай самога Пятра Першага. Санкт-Пецярбургская Акадэмія Навук, створаная па ўказанні Пятра, на сваім першым паседжанні ў 1725 годзе абмяркоўвала пытанне аб сціскванні Зямлі.

У 1797 годзе Павел I заснаваў Імператарскае дэпо карт, ператворанае затым у 1812 годзе ў Вайскова-тапаграфічнае дэпо (ВТД), якому даручаліся тапаграфічныя, геадэзічныя і картаграфічныя работы. У снежні 1815 года

начальнік Генеральнага Штаба і адначасова дырэктар ВТД генерал-фельдмаршал князь Пётр Міхайлавіч Валконскі, які вывучаў пастаноўку тапографа-геадэзічных работ у Францыі, загадаў камандуючаму 1-ай арміі: *"Высачайша загадваю выканаць трыганаметрычную і тапаграфічную здымку Віленскай губерні"*. Кіраўніком Віленскай здымкі быў прызначаны палкоўнік **К.І.Тэнер*** (1783-1860), пасля генерал.

Яшчэ пры рэкагнасцыроўцы Віленскай трыянгуляцыі ў 1816 годзе К.І. Тэнеру прыйшла думку скарыстацца галоўнымі трыкутнікамі сваіх трыганаметрычных здымак, якія ляжаць па кірунку мерыдыяна Віленскай абсерваторыі, для вымярэння дугі мерыдыяна.Тэнер *"....заўважыў, што магчыма было працягнуць праз яе шэраг першакласных трыкутнікаў пад мерыдыянам Віленскай абсерваторыі, што падало мне думку правесці тут градуснае вымярэнне"*. Такім чынам сама ідэя гэтага вымярэння зарадзілася на беларускай зямлі.

Праз шэсць гадоў у 1921 годзе ў Ліфляндыі (тэрыторыя сучаснай Эстоніі і паўночна-усходняй часткі Латвіі) Ліфляндскае эканамічнае таварыства таксама прыступіла да трыянгуляцыйных работаў. Кіраўніцтва імі было дастучана прафесару астраноміі і геадэзіі Дэрпцкага, зараз Тартускага, універсітэта - **В.Я. Струве.** Гэтыя работы былі скончаны ў 1927 годзе.

Ні адзін з навукоўцаў, прыступаючы да градусных вымярэнняў, не думаў, што пачатая імі справа завершыцца грандыёзным вымярэннем, якое будзе распасцірацца ад Ледавітага акіяна да вусця Дуная, гэтая праца будзе мець велізарнае значэнне для геадэзічнай навукі і не страціць сваёй актуальнасці да нашых дзён.

Такім чынам, Віленская і Ліфляндская здымкі па волі кіраўнікоў гэтых работаў Тэнера і Струве паклалі пачатак знакамітаму Руска-Скандынаўскаму градуснаму вымярэнню.

Варта адзначыць, што князь Пётр Міхайлавіч Валконскі аказваў гарачую падтрымку ўсім навуковым распачынанням К. І. Тэнера. Пасля сыходу Валконскага ў адстаўку яго месца заняў Ф.Ф.Шуберт, які, нягледзячы на буйныя заслугі перад расійскай геадэзіяй, недаацэньваў навуковай ролі трыянгуляцыі. Ён лічыў, што яна патрэбная толькі для забеспячэння тапаграфічных здымак. Таму Тэнер, не разлічваючы на атрыманне асігнаванняў на градусныя вымярэнні, стараўся па магчымасці скараціць выдаткі на



***В. Я. Струве.***

*Струве Васіль Якаўлевіч (1793-1864) - вядомы рускі астраном, акадэмік, першы дырэктар Пулкаўскай абсерваторыі. Сур'ёзная навуковая пастаноўка прац, выконваных пад кіраўніцтвам і пры асабістым удзеле В.Я. Струве, стварылі Пулкаўскай абсерваторыі велізарны аўтарытэт. Сярод астраномаў свету яна была прызнаная астранамічнай сталіцай зямнога шара. Пулкаўская школа астраномаў, створаная працамі В. Я. Струве, уславіла сябе арыгінальнымі даследваннямі ў вобласці астраноміі і астраметрыі.*

*Нягледзячы на велізарную занятасць, В. Я. Струве амаль паўстагоддзя займаўся геадэзіяй. Да градусных вымярэнняў прыступіў у 1821 годзе і скончыў іх у 1827 годзе ў межах Ліфляндыі. Далей па ініцыятыве В. Я. Струве работы былі працягнутыя на тэрыторыі Фінляндыі, Швецыі і Нарвегіі. Асабістага ўдзелу ў гэтых работах В.Я. Струве не прымаў, але яны вяліся навукоўцамі гэтых краін пад яго непасрэдным кіраўніцтвам і па яго ўказаннях.*

*В.Я. Струве напісаў больш 150 работ, сярод якіх бачнае месца займае знакамітая "Дуга мерыдыяна" у двух тамах і том з чарцяжамі, СПБ, 1861.*

**** Тэнер Карл Іванавіч** (1783-1860) - генерал, выбітны рускі геадэзіст. У Айчыннай вайне 1812 года прымаў удзел у бітвах пад Смаленскам, Барадзіно, Малаяраслаўцам, Чырвоным і інш. Служыў у войсках да 1816 года. Ажыццяўляў арганізацыю і кіраўніцтва працамі па трыганаметрычных здымках у Віленскай, Курляндскай, Валынскай, Падольскай губернях і трыянгуляцыйных працах у Курляндскай, Гарадзенскай, Менскай Валынскай, Падольскай, Кіеўскай губернях, Беластоцкай вобласці, Польшчы і Бессарабіі. Пад кіраўніцтвам і пры асабістым удзеле К. І. Тэнера было вызначана больш 4500 пунктаў трыянгуляцыі, з якіх больш 700 пунктаў трыянгуляцыі першага класу. Вялікая заслуга К.І. Тэнера і ў тым, што са сваімі супрацоўнікамі ён выканаў больш паловы ўсяго граду снага вымярэння па мерыдыяне ад Ледавітага акіяна да вусця Дуная.*

трыянгуляцыйныя работы, каб выкарыстаць сродкі на работы па градусным вымярэнні.

Сутыкаўся К.І.Тэнер і з цяжкасцямі іншага характару. Напрыклад, яму з трыма памагатымі -афіцэрамі Генеральнага Штаба - было даручана вылучыць месца ў наваколлях Браслава або Дрысвяты для вымярэння базісу даўжынёй не меней 10 км, выкарыстаўшы для вымярэння роўную ледзяную паверхню аднаго з азёр, бо зіма 1815 года была вельмі снежная, выкананне гэтага даручэння было звязана з выключна вялікімі цяжкасцямі, выклiканымі завеямі. Сам Тэнер пісаў з гэтай нагоды: *"Глыбокі снег надзвычай абцяжарваў выкананне гэтага даручэння; часта трэба было ракопваць яго, каб даехаць да азёр, а берагоў гэтых апошніх нельга было месцамі адрозніць"*. На тэрыторыі Менскай губерні Тэнер сутыкнуўся з новай цяжкасцю: мноства вялікіх часта непралазных балотаў. Пракладванне трыянгуляцыі суправаджалася пабудовай высокіх сігналаў, асабліва ў багне Пінскіх балотаў.

У вымярэннях прымаў удзел і наш зямляк, беларус **Іосіф Іванавіч Ходзька** (1800-1881), пасля знакаміты навуковец. Працы І.І. Ходзькі яшчэ пры жыцці былі прызнаныя і высока ацэненыя навукоўцамі свету, і яго імя назаўжды ўвайшло ў гісторыю айчыннай геадэзіі.



***І. І. Ходзька***

*І. І. Ходзька нарадзіўся 6 снежня 1800 г. у мястэчку Крывічы Ракаўскай воласці Вілейскага павету Менскай губерні (цяпер Мядзельскі раён Менскай вобласці). Бацькі яго, багатая шляхта, якія мелі, акрамя яго, яшчэ двух сыноў і дзвюх дачак, не шкадавалі сродкаў на выхаванне і адукацыю сваіх дзяцей. І.І. Ходзька вельмі рана выявіў цікавасць да такіх дакладных навук, як матэматыка, фізіка, астраномія.*

*У 16 гадоў Ходзька паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта і, паспяхова скончыўшы яго, пачаў рыхтавацца да рэшты іспытаў на навуковую ступень магістра фізіка-матэматычных навук. Але адна нечаканая акалічнасць перашкодзіла прывесці ў выкананне гэты намер. Тэнеру спатрэбіліся супрацоўнікі для выканання астранамічных вымярэнняў, і ён звярнуўся з просьбай да рэктара Віленскага універсітэта І.Снядэцкага. Апошні ў сваю чаргу паведаміў аб гэтым Ходзьку і, атрымаўшы яго згоду, рэкамендаваў Тэнеру.*

*20 студзеня 1821 года І.І. Ходзька быў залічаны калонаважатым па кватэрмайстарскай частцы з прызначэннем быць пры здымцы Літоўска - Віленскай губерні.Так пачаўся новы перыяд у жыцці І.І.Ходзькі, які і вызначыў яго далейшы лёс. Вялікія пазнанні Ходзькі ў вобласці астраноміі і геадэзіі ў спалучэнні з агульнымі выбітнымі здольнасцямі і выключна добрасумленным стаўленнем да працы не змаглі застацца не заўважанымі Тэнерам. Асабіста па яго хадайніцтву 23 траўня 1822 г. Ходзьку была нададзена годнасць прапаршчыка Гвардзейскага Генеральнага штаба, а ў 1827 г. - падпаручніка. У гэты ж час за выбітныя поспехі па службе ён быў узнагароджаны "не ў залік" гадавым жалаваннем.*

*Дзесяць гадоў І.І. Ходзька праслужыў пад кіраўніцтвам Тэнера. За гэты час ён набыў багаты і рознабаковы досвед у арганізацыі і правядзенні астранома-геадэзічных работ, якія яму вельмі спатрэбіўся ў яго далейшай працы і жыцці. Дзейнасць І.І. Ходзькі не засталася незаўважанай. Службу ён скончыў у чыне генерал-лейтэнанта і быў узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі, у тым ліку ордэнам Уладзіміра 4-й ступені, ордэнам Ганны 3-й ступені, ордэнам Станіслава 2-й ступені і паўторна ордэнам Станіслава 2-й ступені з імператарскай каронай, ордэнам Станіслава 1-й ступені, "за выдатна-старанную і дбайную службу", ордэнамі Ганны 1-й і 2-й ступені з каронай і мячамі над ордэнам, ордэнам Белага Арла, "найусеміласціва ўзнагароджаны рэнтай па 2000 р. у год на 12 гадоў".*

З 1816 па 1841 гг. і з 1846 па 1850 гг. К.І. Тэнер выканаў градусныя вымярэнні ў межах тэрыторый Віленскай, Гарадзенскай, Курляндскай, Менскай, Падольскай і Валынскай губерняў і ў Бессарабіі. Па ініцыятыве В.Я. Струве ў 1821-1827 гадах была вымераная Балтыйская дуга, а ў 1830-1844 гадах - Фінляндская частка дугі. Па дамоўленасці паміж урадамі Расіі, Швецыі і Нарвегіі шэраг быў працягнуты да



*"Дуга Струве"*

Фугленеса, размешчанага на беразе Паўночнага Ледавітага акіяна.

Пад кіраўніцтвам К.І. Тэнера была выканаая трыганаметрычная нівеліроўка паміж Балтыйскім і Чорным морамі. У выніку выканай працы ўзроўні мораў былі прынятыя аднолькавымі, бо рознасць значэнняў вышынь аказалася значна меншай за верагодную хібнасць вынікаў вымярэнняў.

У пракладванні Скандынаўскай часткі дугі з боку Швецыі прымала ўдзел Стакгольмская астранамічная абсерваторыя (дырэктар Н.Х. Зеландар), з боку Нарвегіі - Геаграфічны дэпартамент (дырэктар Хр. Ганстан). У выніку пералічаных работ было ўтворана самае вялікае ў свеце Руска-Скандынаўскае градуснае вымярэнне па мерыдыяне працягласцю 25 градусаў 20 мінут або 2880 км у лінейнай меры. Па ўказанні імператара Аляксандра II і караля Швецыі і Нарвегіі Карла XV канцавыя пункты дугі былі замацаваныя манументамі, якія захаваліся да нашага часу. На паўднёвым манументе, усталяваным у сяле Стара-Някрасаўка, выбіты надпіс "Паўднёвая мяжа дугі мерыдыяну дваццаць пяць градусаў дваццаць мінут ад ракі Дуная да Акіяна Ледавітага...стала працуючы з 1816 па 1852 год, вымералі Геаметры трох народаў. Шырата 45°20'2' ' ".

Руска-Скандынаўскае градуснае вымярэнне складалася з 158 асноўных трыкутнікаў, 10 базісных бакоў і 13 астранамічных пунктаў. Каля 60% усіх вымярэнняў было выканана пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле К.І. Тэнера. Па ацэнках Ф.Н. Красоўскага, памылка вымярэння вуглоў па дузе К.І. Тэнера не перавышала 1 секунды. Вышыні пунктаў трыянгуляцыі вызначаліся трыганаметрычным нівеляваннем.

Пры правядзенні трыянгуляцыйных работ В.Я. Струве не замацоўваў пункты цэнтрамі і пазбягаў пабудовы сігналаў, кіруючыся толькі ідэяй градуснага вымярэння. Былі замацаваныя ўсяго два астранамічныя пункты (пункт Мекіпелюс на востраве Гогланд і Якабштадт у Латвіі) і заходні канец Сімунаскага базісу. Неабходная геаметрыя трыкутнікаў не вытрымлівалася. Таму праз некаторы час пасля заканчэння работ у гэтай частцы дуга, як геадэзічная сетка, страціла практычнае значэнне.

У адрозненне ад В.Я. Струве, К.І.Тэнер кіраваўся шырэйшымі задачамі, перасследваючы і картаграфічныя мэты. Асаблівую ўвагу ён надаваў замацаванню пунктаў на мясцовасці. Таму з самага пачаткў і ва ўсе наступныя гады К.І. Тэнер паставіў работы больш рацыянальна.

У лістападзе 1827 года Тэнер выказаў думку аб злучэнні яго градусных вымярэнняў з градуснымі вымярэннямі ў Ліфляндыі, завершанымі да гэтага часу В.Я.Струве, і дабіўся дазволу на ажыццяўленне сваёй ідэі. 23 лютага 1828 года Тэнер і Струве склалі пісьмовую дамову аб размеркаванні абавязкаў па злучэнні градусных вымярэнняў.

Вялікае значэнне надавалася Тэнерам




***Схема праетаў дугі Струве на тэрыторыі сучаснай Беларусі. На схеме два пункты, якія знайходзіліся на тэрыторыі сучаснага Лідскага раёна (Дакудава і Фалькавічы). На сёння захаваўся толькі адзін з іх каля Дакудава.***

трываласці замацавання пунктаў на мясцовасці. У зямлі выкопваліся катлаваны каля двух кубаметраў, запаўняліся каменем з вапнай. У катлаван закладваліся гранітныя 25-сантыметровыя кубы з цыліндрычнымі адтулінамі, залітымі свінцом (для базісаў) або гранітныя пліты з

прачэрчанымі дыяганалямі, пастаўленыя вертыкальна цагліны. Такое выключна добрасумленнае стаўленне Тэнера да сваіх абавязкаў прывяло да таго, што пункты, закладзеныя Тэнерам, па "даўгавечнасці" перасягнулі ўсе падобныя ў Расіі ў XIX стагоддзі.

Вымярэнні, якія праходзілі па Віленскай і Ліфляндскай губернях, былі працягнутыя па ініцыятыве Струве на поўнач. Пасля вымярэння ў 1821-1827 г. Балтыйскай у 1830-1844 г. была вымерана Фінляндская часткі дугі. Вымярэннямі ў Фінляндыі кіраваў Струве. Тэнер працягнуў вымярэнні па Бессарабіі да вусця Дуная. Тады ж адбылася дамоўленасць паміж урадамі Расіі, Швецыі і Нарвегіі аб працягу вымярэнняў па іх тэрыторыі да Фугленеса, размешчанага на беразе Паўночнага Ледавітага акіяна. Такім чынам, да 1855 года былі завершаныя палявыя работы па вымярэнні дугі мерыдыяну паміж Фугленесам (70 градусаў 40 хвілін паўночнай шыраты) і Стара-Някрасаўкай (45 градусаў 20 мінут паўночнай шыраты) агульнай працяглпсцю 2880 км.

Навукова-тэхнічную справаздачу аб праведзеных астранома-геадэзічных работах па Рускім градусным вымярэнні склаў дырэктар Галоўнай астранамічнай абсерваторыі ў Пулкаве акадэмік В.Я.Струве ў сваёй знакамітай працы ***"Дуга мерыдыяну ў 25°20' паміж Дунаем і Ледавітым морам, вымераная з 1816 года па 1855 год пад кіраўніцтвам Тэнера, Хр. Ганстана, Н.Х. Зеландара, В.Я.Струве, па розных матэрыялах склаў і апрацаваў В. Я. Струве".*** Справаздача была складзена ў 1861 годзе.

У працэсе вымярэнняў было закладзена 258 геадэзічных пунктаў на тэрыторыі 10 краін (Нарвегія, Швецыя, Фінляндыя, Расія, Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь, Украіна, Малдова).

У сувязі з тым, што ўсе градусныя вымярэнні ад пункта Фугленес да Стара-Някрасаўкі былі выкананыя пад агульным тэхнічным і навуковым кіраўніцтвам В.Я. Струве, яна атрымала назву "Дуга мерыдыяну Струве" або скарочана - "Дуга Струве".

Досвед пастаноўкі работаў па градусных вымярэннях, даследаванні і апрацоўка матэрыялаў, выкананыя В.Я.Струве, уяўляюць вялікую цікавасць для сучасных геадэзістаў, бо шмат што з таго, што далі К.І. Тэнер, В.Я. Струве і іншыя іх актыўныя супрацоўнікі не згубіла сваё значэнне да нашых дзён. Іх працу немагчыма пераацаніць. Дуга Струве ўвайшла ў першы шэраг найважнейшых навуковых астранома-геадэзічных прац у свеце.

На тэрыторыі сучаснай Беларусі знаходзіўся 31 пункт Руска-Скандынаўскай дугі мерыдыяну, вызначаны К.І. Тэнерам.

## Пошукава-даследчыя работы на Дузе Струве

Геадэзістамі многіх краін, праз якія прайшла Дуга Струве, неаднаразова прадпрымаліся спробы адшукання пунктаў. Такія работы былі выкананыя і ў Беларусі ў 1999 г., але яны аказаліся безвыніковымі. Ні аднаго пункта Дугі Струве тады выявіць не ўдалося.

У 2001 г. Дзяржаўны камітэт па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі даручыў РУП "Белаэракосмагеадэзія" паўторна правесці пошукава-даследчыя работы па вышуку пунктаў Дугі Струве на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Стала відавочным, што трэба мяняць тэхнічныя падыходы да пошуку пунктаў, неабходна ажыццявіць маштабныя пошукава-даследчыя работы.

Рашэнне праблемы пошуку пунктаў Дугі Струве залежала ад адказу на два пытанні:

**1. Дзе шукаць пункты Дугі Струве?**

Складанасць у тым, што мы не маглі вызначыць дакладнае месцазнаходжанне пункта, бо невядомыя яго дакладныя значэнні каардынат у дзяржаўнай сістэме.

**2. Што шукаць?**

Звязана гэта з тым, што былі невядомыя канструкцыі і тыпы цэнтраў, а таксама было невядома, ці замацоўваліся гэтыя пункты на мясцовасці.

Што датычыцца першага пытання, то, па самых аптымістычных прагнозах, разлікі дакладнасці вызначэння месцазнаходжання пунктаў ацэньваліся велічынёй да 10 м і больш. Зразумела, што па такіх разліках пры поўнай адсутнасці знешніх прыкмет адшукаць пункты, замацаваныя амаль 200 гадоў назад, вельмі праблематычна.

Таму прадпрынятыя ў 1999 г. першыя спробы па выяўленні пунктаў аказаліся безвыніковымі.

Стала відавочным, што для адшукання пунктаў Дугі Струве неабходна вырашыць праблему ўдакладнення іх месцазнаходжання. Для гэтага былі праведзеныя падрабязныя даследаванні ўсіх меркаваных месцаў закладкі пунктаў Дугі Струве з мэтай вынаначэння ўскосных і іншых прыкмет, якія дазваляюць удакладніць на мясцовасці іх становішча.

Па выніках даследавання было адназначна вызначанае магчымае месцазнаходжанне самага паўночнага ў Беларусі пункта **Конрады** з дакладнасцю не грубей за 1 м. Па ўдакладненым месцазнаходжанні гэтага пункта былі вылічаныя каардынаты ўсіх астатніх, і пасля працяглых раскопак выяўлены пункт **Асоўніца**.

Далей метадам паслядоўных вызначэнняў каардынат было ўдакладнена месцазнаходжанне




***Так пачыналіся пошукі цэнтраў Дугі Струве***

Па выніках праведзеных лабараторных даследаванняў вызначаны матэрыял, з якога выраблялася большасць цэнтраў пунктаў Дугі Струве. Гэта пясчанік, утвораны ў выніку метамарфізму (сцэментавання пясчаных карбанатных часціц), які знешне нагадвае гладкі бетон.

Даследаванні абцяжарваліся тым, што ні адзін цэнтр пунктаў Дугі Струве, за выключэннем пункта Лясковічы, не адпавядаў звесткам аб выкананых працах, выкладзеных у справаздачы “Дуга мерыдыяну ў 25°20' паміж Дунаем і Ледавітым морам”.

ўсіх астатніх 30 пунктаў Дугі Струве, размешчаных на тэрыторыі Беларусі, і ў выніку праведзеных пошукава-даследчых работ выяўленыя яшчэ 18 пунктаў.

Найважнейшым дасягненнем пошукава-даследчых работ варта лічыць выяўленне пунктаў базіснай лініі **Асоўніца - Чакуцк** і правядзенне на іх незалежных кантрольных вымярэнняў з выкарыстаннем рознай спадарожнікавай апаратуры.

Папярэднія вынікі супастаўлення вымярэнняў даўжыні базіснага боку (падставы), праведзеных з выкарыстаннем сучаснай спадарожнікавай апаратуры, з дадзенымі В.Я. Струве аказаліся сенсацыйнымі. Разыходжанне склала ўсяго 3,5 см пры даўжыні базісу больш 12 км.

Неабходна адзначыць, што простае параўнанне вымярэнняў, выкананых спадарожнікавымі метадамі, з вынікамі, адлюстраванымі ў працы В.Я. Струве [1], некарэктна. Гэта звязана з тым, што даўжыні [1] выяўленыя ў туазах - асноўнай меры даўжыні таго перыяду. Праблема дакладнага прадстаўлення туаза ў метрычнай меры вырашалася ў розныя гады шматлікімі даследчыкамі, пры кожным рашэнні адзначалася некаторая нявызначанасць. У сваіх разліках мы прымалі значэнне туаза роўным 1,9490668 м, як рэкамендована І.Д. Жангаловічам [2].

Нягледзячы на папярэдні характар даследаванняў, можна з упэўненасцю сказаць аб высокай дакладнасці работ, праведзеных нашымі калегамі амаль 200 гадоў таму назад.

Для адказу на другое пытанне стрэбілася вялікае цярпенне і акуратнасць пры правядзенні раскопак.

У выніку работ быў выкананы аналіз канструкцый і тыпаў цэнтраў, якія ўжываліся на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, і складзеныя чарцяжы. Варта адзначыць, што амаль усе цэнтры, якія ўжываліся, адрозніваюцца сваёй канструкцыяй і метадамі замацавання.







***Узоры цэнтраў пунктаў Дугі Струве***



*Вонкавы геадэзічны знак пункта Дугі Струве каля в. Дакудава Лідскага раёна.*



*Ахоўны слупок вонкавага геадэзічнага знака пункта Дугі Струве каля в. Дакудава Лідскага раёна. На слупку надпіс: "Геодезический знак. Охраняется государством".*

Неабходна адзначыць, што на шматлікіх цэнтрах пунктаў Дугі Струве,якія захаваліся, былі выяўленыя аскепкі бутэлек. Форма і памеры бутэлек дазваляюць выказаць здагадку, што гэта "рэчавыя доказы", распаўсюджанай сярод беларускіх геадэзістаў, традыцыі адзначаць кожны замацаваны цэнтр пункта трыянгуляцыі. Вядома, што гэтая традыцыя сыходзіць каранямі ў перыяд першых градусных вымярэнняў на тэрыторыі Беларусі, гэта значыць прац па Дузе Струве.

**У выніку выкананых работ :**

1. Ажыццёўленая з выкарыстаннем спадарожнікавых сістэм пазіцыянавання сувязь пунктаў Дугі Струве, якія захаваліся з дзяржаўнай геадэзічнай сеткай краіны. Вызначаныя каардынаты пунктаў Дугі Струве як у рэферэнцнай, так і ў агульназямной сістэмах каардынат.

2. Вызначаныя дакладныя параметры сувязі эліпсоідаў Беселя і Красоўскага, што дазваляе выконваць пераўтварэнне каардынат пунктаў Дугі Струве ў дзяржаўную сістэму на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь не грубей за 0,2-0,3 м.

3. Забяспечаная захаванасць пунктаў Дугі Струве. На іх усталяваныя вонкавыя геадэзічныя знакі.

4. Праводзіцца канчатковая апрацоўка і аналіз вынікаў спадарожнікавых вымярэнняў.

Па нашым меркаванні, у бліжэйшы час неабходна выканаць работы па выяўленні астранамічнага пункта Белін. Папярэднія раскопкі пацвердзілі захаванасць фрагментаў падмурка. Праблема складаецца ў тым, што пункт размешчаны на тэрыторыі прыватнага ўладання.

**Першачарговай задачай з'яўляецца правядзенне работ па знешнім афармленні пунктаў Дугі Струве як помнікаў гістарычна-культурнай спадчыны.**

Руска-Скандынаўскае градуснае вымярэнне ўвайшло ў скарбніцу сусветнай навукі і не страціла сваёй актуальнасці да цяперашняга часу. Вынікі вымярэння Рускай дугі мерыдыяну выкарыстоўваліся ў навуковых і практычных мэтах больш за 130 гадоў, пачынаючы з 1834 г., калі Ф.У. Бесель вызначыў велічыню элементаў зямнога эліпсоіда, выкарыстоўваючы гэтыя вымярэнні. Па дадзеных Ф.У. Беселя, вялікая паўвось а = 6377397 м, малая b= 6356079 м, сцісканне роўна 1:299,2. Для параўнання прывядзём сучасныя значэнні: а = 6378245 м, сцісканне 1:298,3.

У пачатку XXI стагоддзя Дуга Струве разглядаецца як адна з найважнейшых падзей у развіцці сусветнай астраноміі, геадэзіі і геаграфіі, якая мае непераходзячае гістарычнае значэнне. Гэтае вымярэнне стала складовай часткай падмурка сённяшняга ведання аб метрыцы

асвоенага намі абшару Зямлі, блізкага космасу і Сусвету, яно заклала вытокі сучаснай геадэзіі, гравіметрыі, геадынамікі, тэхналогій касманаўтыкі, каардынатнага і геаінфармацыйнага забеспячэння.

Важнасць і неабходнасць зберажэння рэчавых помнікаў, якія захаваліся, прызнаныя XX Кангрэсам Міжнароднай федэрацыі геадэзістаў (FIG) у Мельбурне (рэзалюцыя 1\2 -1994 г.) і XXII Генеральнай асамблеяй Міжнароднага астранамічнага саюзу ў Гаазе ў 1994 г. (рэзалюцыя B10). У выніку было прынята адмысловае рашэнне аб уключэнні пунктаў, якія захаваліся, у пералік аб'ектаў сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. У розных краінах прыкладаюцца высілкі па пошуку і захаванні пунктаў Дугі Струве. Варта адзначыць, што першым, хто занепакоіўся праблемай захавання пунктаў дугі як помнікаў навукі і тэхнікі, быў сам В.Я.Струве. У 1852 г. менавіта ён унёс прапанову аб замацаванні канчатковых кропак, што *"паслужыць навуковага гонару нашай Радзімы"*.

Улічваючы тое, што захаванне, папулярызацыя і перадача нашчадкам гістарычна-культурнай спадчыны з'яўляецца абавязкам дзяржавы, справай гонару кожнага яго грамадзяніна, Камзем звярнуўся з хадайніцтвам у Дэпартамент па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрствы культуры Рэспублікі Беларусь аб уключэнні пунктаў Дугі Струве ў Дзяржаўны спіс гістарычна-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

30 красавіка 2002 г. у Дэпартаменце па ахове і рэстаўрацыі гістарычна-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь адбылося паседжанне Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гістарычна-культурнай спадчыны, на якім аднагалосна пунктам Дугі мерыдыяну Струве прыдадзены статут нерухомай гістарычна-культурнай каштоўнасці з прысваеннем катэгорыі "0" (нуль). Паводле Закону Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны" у адпаведнасці са сваімі ўласцівасцямі матэрыяльныя каштоўнасці дзеляцца на 4 катэгорыі:

а) катэгорыя "0" - каштоўнасці, уключаныя або прапанаваныя для ўключэння ў Спіс сусветнай спадчыны;

б) катэгорыя "1" - унікальныя каштоўнасці, якія ўяўляюць міжнародную цікавасць;

у) катэгорыя "2" - славутыя каштоўнасці, якія характарызуюць адметныя рысы гістарычна-культурнай спадчыны ўсёй рэспублікі;

г) катэгорыя "3" - каштоўнасці, якія характарызуюць адметныя рысы гістарычна-культурнай спадчыны асобных рэгіёнаў краіны.

Каб ацаніць гістарычнае рашэнне аб прысваенні нулявой катэгорыі пунктам Дугі мерыдыяну Струве, варта ведаць, што такі гонар у нашай краіне маюць нешматлікія помнікі. Напрыклад, у пачатку лета 2002 г. падчас афіцыйнага візіту Генеральны дырэктар ЮНЕСКА спадар Каіціра Мацуурэ ўручыў кіраўніцтву краіны пасведчанне аб уключэнні Мірскага замка (таксама катэгорыі "0") у Спіс сусветнай спадчыны чалавецтва.

Варта адзначыць, што Камітэт па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі, з'яўляючыся ўласнікам пунктаў Дугі мерыдыяну Струве, узяў на сябе абавязкі па іх захаванні. На ўсіх пунктах усталяваныя металічныя чатырохгранныя пірамiды. У бліжэйшы час неабходна зацвердзіць і вырабіць ахоўныя дошкі, якія будуць мацавацца да пірамід. Таксама ў планах Камзема прадугледжана на двух-трох пунктах усталяваць мемарыяльныя знакі. Дазвол на права правядзення праектных прац па распрацоўцы мемарыяльнага знака атрыманы. У завяршэнне неабходна адзначыць адмысловацаў РУП "Белаэракосмагеадэзія", дзякуючы высілкам якіх у 2001 г. былі паспяхова выкананыя пошукава-даследчыя работы і выяўленыя пункты Дугі Струве, закладзеныя ў 1825-1826 гг. на тэрыторыі Беларусі. Гэта Альшанскі А.У., Анашанкаў А.З, Балбуцкі К.П., Галавач Ю.А., Кліменцеў А.А., Красуцкі У.М., Кульбяда А.З, Лявонаў С.В., Міса П.П., Пракапенка А.Г., Рабчун І.М. і Шаўчэнка У.Н.

**ЛІТАРАТУРА:**


1. *Струве В.Я. "Дуга меридиана ў 25° 20' между Дунаем и Ледовитым морем, измеренная с 1816 года по 1855 год под руководством Теннера, Хр. Ганстена, Н.Х. Зеландера, В.Я. Струве, по разным материалам составил и обработал В.Я. Струве". СПБ., 1863. /Т. 1, 2.*
2. *Жонголович И. Д. Об определении размеров общего земного элипсоида // Тр. Ин-та теоретической астрономии. Л.,1956. Т. 6. С. 1-66.*
3. *Каптюг В. Б, Чернов В.Н. и др. Результаты международного GPS-эксперимента на "Дуге Струве" // Геодезия и картография. 1996. № 11. С. 15-19.*
4. *Струве В. Я. Дуга меридиана (избр. главы) / Под общ. ред. С. Г. Судакова. М.: Изд-во геодезич. лит-ры, 1957.*
5. *Жизнь и деятельность геодезиста и географа генерал-лейтенанта Иосифа Ивановича Ходзько / / Материалы междунар. науч. конф. Мн., 2001.*



***Г. Кузняцоў, Старшыня Камзема;***
***У. Мкртычан, дырэктар РУП "Белаэракосмагеадэзія";***
***У. Абраменкаў, намеснік дырэктара РУП "Белаэракосмагеадэзія.***

# Першы міжнародны рыцарскі турнір у Лідзе 17-18 верасня 2005 г.

# ”ЗАМАК ГЕДЗІМІНА”

## Фотарэпартаж Ігара Пешахонава

Ініцыятыва правядзення Міжнароднага Рыцарскага турніру “Замак Гедзіміна” належыць Лідскаму райвыканкаму. Яе падрымала Рэспубліканскае моладзевае аб’яднанне “Рыцары Вялікага Княства”.

У ГА “Рыцары Вялікага Княства” ўваходзяць клубы: “Княжы Гуф” (Менск), “Дайнава” (Ліда), “Берасцейская Харугва” (Берасце), “Жалезны Воўк” (Полацк), “Золак” (Жодзіна), “Палаэя” (Менск), “Заслаўская Харугва” (Заслаўе), “Касцеша” (Кобрын), “Вольны Горад” (Берасце), “Быліна” (Менск), “Рыцарская Дзіда” (Радужны), “Продыюс” (Менск), “Менская Харугва” (Менск), “Газдава” (Бабруйск) і іншыя. Акрамя іх у турніры бралі ўдзел самастойныя рыцарскія клубы з розных гарадоў Беларусі і Расіі, у тым ліку і другі рыцарскі клуб з Ліды “Dies magnus”, конны клуб з Менска “Залатая шпора”, які забяспечваў конную частку турніру.



*Турнір адкрывае старшыня Лідскага райвыканкаму Андрэй Худык.*



*Дэфіляда ўдзельнікаў турніру па вуліцах Ліды.*




***Цікавасць да турніру велізарная. Людзі імкнуцца ў замак.***



***Лідскае рысталішча.***



***Распарадчык турніру князь Фёдар (Міхееў)***



***Рыцарскія даспехі.***



***Рускі віцязь у лічыне.***



***Першая экспазіцыя Лідскага гістарычна-мастацкага музея ў вежы замка.***



***"Мы ўглядаемся ў проразі грозна..."***



***Атака цвердзі адбіта.***



***Нападнік гарыць.***



*Двубой.*



*Двубой.*

Гарадскія ўлады правялі грандыёзны аб'ём работы, затрацілі каля 24 млн. руб., але зробленае застаецца, а грошы, сабраныя за білеты (каля 20 млн.), пойдуць на рэстаўрацыю замка.

Турнір праходзіў у замку, а вакол замка віраваў кірмаш, быў разгорнуты "Горад майстроў", праводзіліся выставы конкурсы, прайшлі канцэрты сярэднявечнай музыкі. Горад Ліда на два дні вярнуўся на гадоў 500-600 назад, вярнуўся, каб успомніць, кім мы былі і чым мы былі, каб задумацца, кім мы сталі, і як нам жыць далей.

А далей мы можам жыць толькі так, каб быць вартымі памяці нашых вялікіх продкаў, каб



*Усходні танец на рысталішчы.*



*Сярэднявечныя прыгажуні.*



*“Дама сэрца” заваявана.*



*А б’юць тут па-сапраўднаму.*

нашыя справы былі вартыя іхніх справаў, каб сучасны горад Ліда быў такой жа апорай незалежнай Беларусі, як Ліда старажытная была апорай Вялікага Княства Літоўскага.

Турнір нагадаў лідзянам, якімі яны былі шмат стагоддзяў назад. Якім ім быць сёння, якім ім быць у будучым? На гэтае пытанне кожны дзень адказвае горад Ліда сваімі слаўнымі справамі, у тым ліку і сваёй моцнай гістарычнай памяццю.

*Гісторыя лідскіх вуліц і пляцаў*

# Вуліца Віленская

Віленская да 1921 года была галоўнай вуліцай Ліды, і самай старажытнай. У вядомых мне матэрыялах Віленская ўпершыню згадваецца 20 верасня 1674 *г.* У той дзень лідская мяшчанка Соф'я Івашкевіч падарыла манахам-кармелітам палову пляца, размешчанага на вул. Віленскай *(Wolyniak. Historia karmelitow lidzkich. // Ziemia lidzka. 2001. № 44. s.20)*. Няма сумневу, што вуліца Віленская існавала і ў папярэднія стагоддзі, можа быць ад самага заснавання горада. Ва ўсіх селішчах, праз якія праходзіла дарога на сталіцу ВКЛ Вільню, галоўная вуліца звалася Віленскай. Таксама, як у цяперашнія часы, галоўная вуліца беларускіх гарадоў амаль заўсёды Савецкая.

Віленская пачыналася ад Рынку, які размяшчаўся на месцы сучаснага пляца Леніна, і працягвалася на поўнач у кірунку да Вільні. Была яна зусім кароткай - каля 300 м, і ў пачатку 18-га стагоддзя заканчвалася за 100 м на поўнач ад сучаснага праваслаўнага сабора. Тут, на выездзе з горада, да 1827 *г.* размяшчалася карчма. *(Szymielewicz M. Dzieje pijarow lidzkich. //Ziemia Lidzka. 1936. № 9. s. 3.)*

У канцы 18-га стагоддзя працягласць Віленскай дасягнула 460 *м*. На плане горада 1798 *г.* *(мал. 1)* відаць, што вуліца шчыльна забудаваная абапал, з усходняга боку налічаецца 26 участкаў (пляцаў) з драўлянымі будынкамі, з заходняй - каля 20. Пляцы вузкія, усходні бок абмежаваны р. Лідзейкай, заходні - р. Каменкай.

На 1824 г. Віленская была выбрукаваная каменем *(НДГА РБ у Гародні, Ф.1, воп.2, с. 502)*. У канцы 30-х гадоў X1X ст. да Віленскай была далучаная вуліца Замкавая, якая раней працягвалася ад Рынку да замка. Пры якіх акалічнасцях адбылася гэтая падзея, чаму і хто быў ініцыятарам - мне невядома.

У нядзелю, 23 жніўня 1842 г. сярод белага дня здарыўся грандыёзны пажар, у полымі якога згарэлі піярскі касцёл і 43 дамы на Віленскай вуліцы. На плане горада, складзеным у 1843 *г.* *(мал. 2)*, уздоўж вуліцы Віленскай паказаныя 43 участкі без будынкаў - жыхары гэтых участкаў выявілі жаданне пабудаваць мураваныя дамы. Вызначаныя месцы для пабудовы праваслаўнай царквы, павятовай навучальні, будынкі для настаўнікаў і царкоўных служак, "прысутственных" месцаў, крамаў, бойні, вартавых памяшканняў, кузняў, праваслаўных і габрэйскіх могілкаў. Нарэзаны ўчасткі (пляцы) для размяшчэння жылых дамоў.




**Мал. 1.**
*Лічбамі абазначаны: 5 - кляштар піяраў, 6 - вуліца Віленская, 7 - дом лідскага маршалка,дзе знаходзілася пошта, 8 - ратуша, 9 - школа яўрэйская, 10 - рынак, 15 -вуліца Крывая.*




*Мал. 2.*

У 1854 г. быў пабудаваны мост цераз Лідзейку і грэбля на Зарэчча. Па ўспамінах М.Б. Нарбута ў гэты час *"вуліца Віленская, працягвалася на даўжыню вярсты"*, на вуліцы размяшчаліся: павятовая школа, аптэка, кавярня (цукерня) і знакамітая вінная ўстанова ***габрэя Азіка.*** Таленавіты карчмар меў некалькіх сталых наведвальнікаў, якія яму плацілі сталую квоту і мелі права піць гарэлку і віно без ліку, зразумела, нікога не частуючы. Азік добра ведаў магчымасці кожнага і ніколі не заставаўся ў накладзе. Перапіўшых ён укладваў спаць у адмысловым пакоі і адтуль аддаваў жонкам у поўнай захаванасці. *(Narbutt M-B. Lida i powiat Lidzki z przed stu laty. // Ziemia Lidska. 1936. № 5. S.7.)*

На поўдзень за мост цераз Лідзейку Віленская ніколі не пераходзіла. З сярэдзіны 19-га стагоддзя Віленская даўжэла толькі ў паўночным кірунку. На 1864 г. на вул. Віленскай - 41 мураваны дом, дзесяткі крамаў, харчэўні.

7 кастрычніка 1891 *г.*, на гэты раз уначы, згарэла амаль уся цэнтральная частка горада - каля 400 жылых дамоў і каля 600 гаспадарчых пабудоў, у тым ліку ратуша *(Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок. //Виленский календарь. Вільня, 1906, с.52).* Гэты пажар поўнасцю знішчыў жылую забудову 18 стагоддзя. Па ўсім Паўночна-Заходнім краі збіраліся сродкі ў дапамогу пацярпелым. Газета "Виленский вестник" ад 4.11.1892 *г.* у допісе з Ліды паведамляла: *"Дарагоўля кватэр і жыццёвых прадуктаў дасягае казачных памераў: два пакоі, напрыклад, з кухняй да пажару каштавалі ад 40 да 50 руб. (у год). Зараз ж іх не дастанеш таней за 100 руб. Да мяса прыступу няма - да 14 кап. фунт." (Абезгаўз З.Е. Развіццё прамысловасці і фармаванне пралетарыяту Беларусі ў другой палове XIX стагоддзя,. Мінск, 1971, стар.128.)*

Праз 10-15 гадоў пасля пажару Віленская непазнавальна змянілася: была забудаваная цаглянымі двухпавярховымі будынкамі. На першых паверхах размясціліся крамы, закусачныя, майстэрні, фатаграфіі, на другім паверсе - жылыя памяшканні. Сярэдняя колькасць жыхароў у цэнтры дасягала 15 чалавек на дом. Аднак, бытавы ўклад істотна не палепшыўся: туалеты ў двары, вада з студняў, памыйныя ямы адсутнічалі.

Каля 1904 *г.* пасля пракладкі чыгункі Ліда - Маладзечна паласой адводу чыгункі вуліца Віленская была абмежаваная і з поўначы.

У 1913 годзе Віленская была гандлёвым і прамысловым цэнтрам горада, тут на адлегласці ў 1,3 км размясціліся 206 прадпрыемстваў (30%). Заводы: дрожджава-броварны, мёдаварны, ліцейны, чыгунна-ліцейны, 2 піваварных, 2 лесапільных; цукерачная і тытунёвая фабрыкі; 3 друкарні; 16 майстэрняў: 2 бляшаных, нарыхтовачная, 2 абіўныя, 3 кравецкія, 3 шавецкія, 4 шапачныя, 1 надмагільных помнікаў; 5 апатэк і 3 аптэчных шапікі; 3 пякарні, 4 кандытарскіх,

сталоўка, 2 карчмы, 8 гарбатняў і кавярняў, 6 піўных крам, 3 гасцініцы, кінематограф; банкірская кантора, кантора крэдыту і банкаўскіх аперацый, склады, земская пошта. Гандаль дробязны - 50 прадпрыемстваў, бакалейны і тытунёвы - 12, галантарэйны -14, мануфактурны -12, пісчапапяровы - 5, швейнымі машынамі -2, залатымі і срэбнымі вырабамі - 4, шкляным і гліняным посудам -3, мясцовымі таварамі- 2, дамавінамі, абуткам -5, мэбляй -3, паркалем, прастанароднай вопраткай - 4, продаж хлеба - 2, мяса - 7, цукру - 1, каўбас, сельтарскай вады, цукерак, газавых водаў - 6. *(НГА у г. Гародня, Ф.1, воп.2, с.502).*

Найбольш буйныя з прадпрыемстваў размяшчаліся ва ўласных хатах і на ўласных участках: піваварны завод і карчомная ўстанова ***Пупко Мейлаха Носелевіча***, мёдаварны завод і рэстаран "Брыстоль" ***братоў Вінаградавых З. і М.***; тытунёвая фабрыка ***Віленчыка-Капштэйна Зэліка Іцкавіча*** і яго сына; дрожджава- броварны завод ***Стругачоў А.Л. і Д.Л.***; друкарня ***Эпштэйн Кейлі Хаімаўны***; аптэка ***Франца Іванавіча Бергмана***; гасцініца "Еўропа" ***Левінсона Нахеміі Абрамавіча***; лесапільны завод ***Палячакаў Лейзера і Ёселя Лейбавічаў*** і ***Мастоўскага Давыда Абрамавіча***.

У доме ***Левінсона Нахеміі Абрамавіча*** знаходзілася аптэка ***Айзікавіча Мордуха Натавіча***. У доме ***Маўшовіча*** - пякарня і кандытарская ***Ахмеда-Пайшоў Аглы*** (перайшла ў 1913 г. да ***Багдановіча***), а таксама продаж залатых і срэбных вырабаў ***Баярскага Ёселя-Лейбы Танхеліёвіча***, у доме ***Вінаградавых*** - шкляны посуд ***Амосавіч Соры Хаімаўны***; у доме ***Сольца*** - кухмістарская ***Баярскай Соры-Эйдлі Еліёўны***, папера і пісчапапяровыя прылады ***Барана Якава Моўшавіча***, земская пошта ***Гальперына Геніі Нафталевіча***; у доме ***Ізраілевіча*** - бляхарня ***Бархата Давыда***, у доме ***Зяльвянскага*** - галантарэйны гандаль ***Баярскай Голды Лейбаўны***, у доме ***Крывабокава*** - мануфактурны гандаль ***Вінера Айзіка Абрамавіча*** і продаж швейных машын, ровараў, музычных прылад ***Нэймана Іосіфа Пейсахавіча***, у доме ***Ілютовіча*** - мануфактурны гандаль ***Вінера Янкеля Абрамавіча***; у доме ***Длускага***- продаж мэблі і майстэрня ***Вісьманскага Аўсея Моўшавіча***; у доме ***Душмана*** - друкарня ***Зельдавіча Самуіла Кальманавіча***; у хаце ***Стукатара*** - цукерачная фабрыка ***Рабіновіча Моўшы Абрамавіча***; на ўчастку ***Стасевіча*** - майстэрня надмагільных помнікаў і бетонных работ ***Розенштэйна Нахіма Зэльманавіча***.

Віртуальна прагуляемся па вуліцы Віленскай, той, якой яна была да першай сусветнай вайны. Спачатку пройдземся па правым (цяпер цотным) боку. Тады паняццяў правага і левага боку вуліцы не існавала, як і нумарацыі дамоў. Фурманкі рухаліся паабапал вуліцы ў абодвух кірунках. *"Камяні бруку на Віленскай былі невялікімі, таму калёсы, якія па ім бегалі, не рабілі вялікага шуму; чуваць было цоконне капытоў, што надавала гораду музычнасць". (Долинский И. Память. Масква, 2000, с. 9.).*

Правы бок вуліцы пачынаўся з Вялікай карчмы - гарбатні. Яна размяшчалася перад уездам на прыкасцельны пляц, дзе ў дні вераснёвых кірмашоў ішоў бойкі гандаль.

За двухмятровай каменнай агароджай размяшчаўся цагляны Крыжаўзвіжанскі касцёл *(мал. 3)*, пабудаваны па праекце архітэктара І. Глаўбіца ў 1770 г., і які шчасліва захаваўся дагэтуль. Перад уваходам у касцёл меліся шырокія падвойныя барочныя вароты з дзвюма брамкамі *(мал. 4)*. Усярэдзіне касцельнай агароджы з паўднёвага боку меліся невялікія могілкі, а ў паўночным куце - званіца і фруктовы сад.

За касцёлам *(мал. 5)* узвышаўся двухпавярховы дом з крамай каланіяльных тавараў ***Фукса*** і кнігарняй ***Марыі Шкоп***, адчыненай у 1907 г., далей ішлі дамы ***Андрушкевіча***.

Насупраць перакрыжавання з вул. Каменскай знаходзіўся кінатэатр **"Эдысон"**, адчынены перад 1-й Сусветнай вайной. *"Каля ўваходу буйна электрычнымі лямпачкамі назва -* ***"Эдиссон"***. *Уваход каштаваў 10 альбо нават 15 капеек…*



***Мал. 3.***



**Мал. 4.**



**Мал. 5.**

*крэслы і нават ложы. У фае развешаны афішы, стаяць крэслы, маецца буфет. Фае для чакання: сеанс вялікі, гадзіна і больш. Карціны тут "сур'ёзныя": па дзве драмы, па дзве камічныя, а ў пачатку абавязкова відовішчныя". (Долинский И. Память. Масква, 2000, з. 25-26).* Побач у прыбудове размяшчалася кавярня ***Маліноўскага***. 31 ліпеня 1914 *г.*, у першы дзень Сусветнай вайны афіцэры расійскай залогі папівалі там каву і абмяркоўвалі, як яны *"наквасяць пысу германцам". (Szymielewicz M. Lida w latach wielkiej wojny. // Ziemia Lidska. № 8, 1939).*

Побач з кінатэатрам "Эдысон" і кавярняй Маліноўскага знаходзілася друкарня Каплінскага. Далей ішла серыя вузенькіх завулкаў, якія выходзілі з Габрэйскага мікрараёна: Турэцкі, Шкляны, Камерцыйны, Паліцэйскі, Лідскі. Гэты квартал у 18 стагоддзі належаў лідскім старастам ***Сцыпіёнам дэль Кампа***. Тут тады размяшчаліся гарадская канцылярыя, турма, аптэка і невялікі двор Сцыпіёнаў. У 1795 г. землі Сцыпіёнаў адышлі у расійскі дзяржаўны скарб. Пасля найвышэйшых указаў аб высяленні габрэяў з усіх вёсак Гарадзенскай губерні ў гарады і мястэчкі габрэйскія сем'і тут і засяродзіліся. Яны пабудавалі каля сотні маленькіх хатак на маленечкіх паравулачках, якія ўпіраліся ў Лідзейку.

Паміж Шкляным і Камерцыйным завулкамі ў доме ***Янушкевіча*** размяшчаліся фатаграфія ***А.Ф. Глаўбермана*** і крама ***З. Гольдвасэра.*** Фатаграфіі Глаўбермана шырока вядомыя сярод лідскіх калекцыянераў, ён быў выдатным фотамайстрам, і кожная з яго фатаграфій суправаджалася асабістым штэмпелем *(мал. 6)*. У рускай транскрыпцыі прозвішча ***Глаўберман*** падавалася як ***Глуйберман***.




**Мал. 6.**

Паміж Камерцыйным і Паліцэйскім завулкамі ўзвышалася гасцініца **"Камерцыйная"** ***Юдаля Мардухавіча Граеўскага.*** Перад Паліцэйскім завулкам знаходзілася царкоўна-прыходская навучальня і дом ***Віленчыка***.

За Паліцэйскім завулкам размяшчаўся шыкоўны, у старасвецкім стылі, двухпавярховы цагляны будынак на 12 вокнаў з двума балконамі на другім паверсе і мансардным памяшканнем з балкончыкам - на трэцім *(мал.7)*. Будынак быў пабудавана ў першай палове 19 стагоддзя і належаў ***Камянецкаму***. У 1872 г. у гэтым будынку была ўладкаваная тэлеграфная станцыя з двума апаратамі Морзэ, пазней тут быў павятовы суд, а перад вайной - паліцэйская ўправа. На першым паверсе ў паўднёвай частцы будынка



***Мал. 7. Паліцэйская ўправа.***

прадавалася піва распівачна і на вынас з піўнога завода ***Мейлаха Пупко.***

Каля перакрыжавання з вуліцай Лідскай *(цяпер вул. Таўлая)* у невялікім асабняку, які належаў з 1832 *г.* прапаршчыку ***Мажнаму***, раней ***Ёдку***, размяшчалася да пажару 1842 *г.* павятовая паштовая кантора. За перакрыжаваннем у аднапавярховым драўляным доме ***Сольца*** дзейнічала кухмістарская ***Соры-Эйдлі Баярскай*** *(мал. 8)*, а таксама гігіенічная цырульня і гандлёвая ўстанова ***Друскіна***.



***Мал. 8.***

Наступны дом двухпавярховы, абтынкаваны белы, поруч яго тры высокія дрэвы і адно маленькае. У гэтым доме размяшчалася гасцініца.

На ўчастку ***Длускага*** ў двары знаходзіўся кінематограф "Нірвана" уладальнікаў ***Рапейкі Я., Яблонскага Л., Цыдзяровіча А.***: *"У ім не было нават крэслаў, прынамсі ў самых першых радах, сядзелі мы, хлапчукі, на зэдлях. Каштаваў нам квіток вельмі танна, усяго 5 капеек... Кінатэатр мне здаваўся даволі самавітым, з шырокім калідорам, вялікай доўгай глядзельнай залай... Гэты кінатэатр працаваў на газе" (Долинский И. Память. Масква, 2000, с. 33).* 31 снежня 1918 г. у зале кінатэатра камуністы правялі свой першы мітынг.

Адрэзак ад кінатэатра да Міхайлаўскага сабора быў забудаваны вельмі элегантна *(мал. 9)*. Тут узвышаліся двухпавярховыя цагляныя дамы, пра ўладальнікаў і прызначэнні якіх жадалася б даведацца, ды няма адкуль.



***Мал. 9.***

Двухпавярховы цагляны дом на 4 акны з балконам і надпісам **Korzwach (Horzwach)**, унізе 2 акны і дзверы, адзін комін на схіле да вуліцы.

Самы прыгожы дом - двухпавярховы цагляны будынак з вежкамі, 3 балконамі, 10 вокнамі на другім паверсе, з шыльдай **Lichtspiele**.

Маленькі аднапавярховы з мансардай, размешчаны тарцом, 2 акны ў мансардзе, 4 акны на першым паверсе.

Двухпавярховы на 10 вокнаў, з вежкамі, з рустамі і 2 балконамі, 5 комінаў.

Двухпавярховы цагляны будынак на 8 вокнаў з 2 балконамі і трыма вокнамі на даху.

Далей размяшчалася тэрыторыя Свята-Міхайлаўскі сабора, аддзеленага ад вуліцы высокай агароджай і дрэвамі *(мал. 10)*. У гэтага будынка працяглая і няпростая гісторыя, што дазваляе распавесці яе падрабязней.

### *Кароткая гісторыя Свята-Міхайлаўскага сабора.*

*У 1749 г. лідскі староста Ігнацы Сцыпіён дэль Кампа купіў у Людвікі Гадэбскай участак зямлі (пляц), побач з карчмой, які падарыў манахам-піярам. Піяры хутка пабудавалі дом на 12 манахаў і невялікі драўляны касцёл святога Язэпа Каласанты з трыма алтарамі і ў 1756 г. адчынілі сярэднюю навучальную ўстанову - піярскі калегіюм. У 1774 г. піяры "купілі" за 2000 імшаў у лідскага суддзі Язэпа Барымоўскага суседні пляц і атрымалі на гэта згоду сойму. (Szymielewicz M. Dzieje pijarow lidzkich. // "Ziemia Lidska" 1937. № 1. s. 2). Уласнікі Веранова (Воранава) Аляксандровічы таксама пайшлі насустрач піярам і пагадзіліся на замену вараноўскага ўчастка піяраў на лідскі Аляксандровічаў, размешчаны на вул. Віленскай. На працягу 1778-82 гг. на сродкі мясцовых шляхціцаў піяры пабудавалі цагляны двухпавярховы будынак калегіюма. Спансавалі будаўніцтва* ***Ганна з Юдзіцкіх Агінская, Францішка і Людвіка Гадэбскія, Юры Адамовіч, Вінцэнт Сяклюцкі, Тамаш і Бенядыкт Мігдалы.*** *Нейкая* ***Пракаповіч*** *аддала за пажыццёвую пенсію і гародніну з піярскага агарода, пабудаваную на піярскім участку драўляную хату. Каля 1789 г. быў пабудаваны школьны домік.*




**Мал. 10. Від сабора ў Лідзе.**

*даваныя сцены Міхаіла-Архангельскай саборнай царквы.*

Адразу за саборам у доме ***Душмана*** размяшчалася друкарня ***Самуіла Кальманавіча Зяльдовіча,*** за ім піваварны завод, млын і лесапільны цэх ***Я. Л. Папірмейстара*** *(мал. 10, 11).* Заснаваны піўзавод быў у 1874 г. *"У горадзе быў мільёншчык. Ён багацеў ад сваіх заводаў - піваварнага і лесапільнага. У яго, гэтага мільёншчыка, быў адзіны сын, які і павінен быў усё пераняць. Ён выхоўваўся дома гувернанткамі, ведаў добра французскую, іграў на раялі, апранаўся багата. Але час ад часу гэты сынок мільёншчыка таемна ўцякаў з хаты да драгельшчыкаў, дапамагаў ім разгружаць вагоны з мяшкамі мукі і солі. Яго шукалі, знаходзілі, вярталі дадому, але ненадоўга. Сынок ізноў уцякаў да драгельшчыкаў і жыў у іх таемна месяцамі. Гутарак пра гэтага юнака было шмат…. Сын мільёншчыка збег ад бацькоў у Амерыку". (Долинский И. Память. Москва, 2000, с. 36).*



**Мал. 10. Завод Папірмейстара.**



**Мал. 11. Корпус завода Папірмейстара.**

*У 1798 г. піяры заклалі сад, былі пасаджаныя дрэвы, прышчэпы і агрэст. (Szymielewicz M. Dzieje pijarow lidzkich. // Ziemia Lidska. 1937. № 1 s. 2). Уладанні піяраў у лепшыя для іх часы ахоплівалі тэрыторыю ад дома № 16 на цяперашняй вуліцы Савецкай да дома № 28, а ў глыбіню да рэчышча Лідзейкі.*

*15 траўня 1797 г. падчас пераезду з Слоніма ў Вільню кляштар наведаў расійскі імператар Павел I са сваімі сынамі Аляксандрам і Канстанцінам. Павел I выпісаў манахам чэк на 5000 рублёў на будаўніцтва касцёла. Удзячныя піяры змясцілі ў калегіюме над дзвярамі пакоя, у якім начаваў Павел I, памятную падзячную таблічку з надпісам залатымі літарамі і прыступілі ў 1800 г. да будаўніцтва касцёла. За 6 гадоў давялі будоўлю "аж да карнізаў". На завяршэнне не хапіла, аднак, фундушаў. Будаўніцтва было прыпынена, сцены касцёла на працягу 1806-1819 гадоў падвяргаліся разбурэнню, апалубку разабралі на апал. Да завяршэння будаўніцтва касцёла прыступілі ізноў у 1820 г. У 1825 годзе пасля чвэрцьвекавых высілкаў цагляны будынак піярскага касцёла быў завершаны. Касцёл быў урачыста асвечаны 4 ліпеня 1825 года пры шматлікім зборы абывацеляў і службоўцаў. У 1830 г. піяры прыступілі да будаўніцтва новага школьнага дома на месцы старога будынка, але не завяршылі яго, царскія ўлады зачынілі навучальную ўстанову.*

*У 1836-37 гг. касцёл быў капітальна адрамантаваны, а ў жніўні 1942 г. згарэў. Піярскі пляц быў узяты ў апеку, у красавіку 1843 г. абгарэлыя сцены касцёла і кляштара былі перададзеныя праваслаўнай епархіі. Праект перабудовы касцёла быў складзены архітэктарам* ***Тышэцкім.*** *Узвядзенне храма прасоўвалася вельмі марудна і толькі праз дваццаць гадоў - у 1863 г. Міхайла-Архангельская саборная царква была выбудаваная. Будаваўся будынак на сродкі расійскага ўраду. Так на падмурках згарэлага Яззпаўскага касцёла былі збу-*

У будынку, які захаваўся дагэтуль, (Савецкая, 26, *мал. 12*) і на прымыкаўшым з усходу ўчастку знаходзілася тытунёва-махорачная фабрыка ***Віленчыка-Капштэйна Зэліка Іцкавіча*** і яго сына ва ўласным доме. Заснаваная фабрыка была ў 1882 *г.* Выпрацоўвала махорку, нюхальны і курыльны тытунь 1-га і вышэйшага гатунку. У 1882-95 гг. мела два газавыя рухавікі (8 к/с). У 1908 г. быў усталяваны газава-бензінавы рухавік (25 к/с), 5 механічных і 3 ручныя станкі. У 1890 г. працавалі 100, у 1893 г. -130 чалавек, у тым ліку 15 мужчын, 75 жанчын, 10 хлопчыкаў, 30 дзяўчынак. Было выраблена прадукцыі на 47,9 тыс. руб. У 1903-1905 гг. працавалі 143 чалавекі. У 1914 г. - газаматор 25 к. сіл, запасны -10 к. с, 15 крышыльных машын, 6 прыказчыкаў.



***Мал. 12.***

Праз 5-6 участкаў, пра якія нічога не вядома, знахадзіўся ўчастак ***Янушкевіча***, які ён набыў у 1899 г. у ***Астравуха***. За ім размяшчаўся піўны завод ***Пупко***. На вул. Віленскую выходзіў фасадам аднапавярховы цагляны жылы дом на 9 пакояў. Захаваліся планы гэтага дома і малюнкі фасада 1910 *г. (мал.13)*. Істотныя змяненні фасаду і інтэр'еру адбыліся пасля 1900 г. Да тылавой часткі дома была прыбудавана веранда, другое выйсце на вуліцу закладзена, замест яго ўстаўлена шостае акно. Кантавыя вокны, акрамя аднаго, закладзеныя. Пад значныя пераўтварэнні падпаў інтэр'ер: аформлены прахадны калідор, перасунуты ўнутраныя сценкі, прыбраная вялікая печ, у былой кухні прарэзана акно. На паштоўцы, выпушчанай у гады Першай Сусветнай вайны без выходных дадзеных (калекцыя Ў. Вянско), гэтая пабеленая, абтынкованая хата добра праглядаецца *(мал. 14)*.

За домам да р. Лідзейкі на працягу амаль 300 м размяшчаліся шматлікія каменныя будынкі піўнога завода, жылыя хаты, адрыны, стайня, пабудаваныя двума пакаленнямі півавараў Пупко. Будаваць свой завод ***Носель Пупко*** пачаў у 1875 г., справу гэтаю працягваў яго сын ***Мейлах Пупко***. Каля 1910 г. Мейлах Пупко прыкупіў у Малеўскага частку яго ўчастка, і за 5 месяцаў з кастрычніка 1910 г. па люты 1911 пабудаваў два новыя мураваныя будынкі для варкі піва і





***Мал. 13.***



***Мал. 14.***

кацельныя памяшканні, надбудаваў трэці паверх над існым мураваным будынкам. Да 1913 г. піўны завод Мейлаха Пупко - гэта завершаны комплекс для выпуску піва: свіран для ячменю, млын і склад соладу, саладоўня, аддзяленні для мачэння соладу, сушня соладу, аддзяленні півварэння і астуджэння гарачага піва- сусла, брадзільная вытворчасць, леднікі, а таксама кантора, памяшканні для майстра і працоўных, два жылыя дамы мураваны і драўляны, вартоўня, стайня, адрыны. *(ЦГА Літвы, Фонд 382, воп.2, с.758)*. Комін завода ў той час быў самым высокім збудаваннем у горадзе.

За ўчасткам Пупко размяшчаўся ўчастак ***Антонія Малеўскага*** (раней ***Патрыкоўскай***). На гэтым участку ў 1885 г. на субсідыю Віленскай паштовай акругі быў пабудаваны вялікі драўляны дом з мансардай, у ім размяшчалася Лідская павятовая паштова-тэлеграфная кантора. Будынак меў 6 вокнаў па падоўжным баку будынка і 4 - па папярэчным, вокны зачыняліся аканіцамі. Велізарная зашклёная веранда з балконам вылучала будынак з навакольных пабудоў *(мал. 15)*.



***Мал. 15. Лідская пошта. Дом Малеўскага.***

Далей размяшчалася млын **"Аўтаматык"** і ліцейны завод братоў ***Штэйнбергаў: Меера*** і ***Зэльмана Шмуйлавічаў*** і ***Ландо Беньяміна Елиёвіча.***

За заводам вуліца Пастаўская выводзіла да габрэйскіх могілкаў і да маста праз Лідзейку на дарогу, што вяла ў Дворышчы і Тракелі. У 1898 г. на вуглу Віленскай і Пастаўскай быў пабудаваны габрэйскі шпіталь - досыць вялікі цагляны будынак.

За вул. Пастаўскай размяшчаўся чыгунналіцейны і машынабудаўнічы завод братоў ***Якава і Эбера Лейбавічаў Шапіраў***. Заснаваны завод быў іх бацькам ***Юдалем-Лейбам Мендзялеевічам Шапірам*** ў 1901 г. *(мал. 16)*. На заводзе выпускалі конныя прывады, перадатачныя станкі для конных прывадаў, малатарні, сячкарні, корнеабрэзкі, плугі, акучнікі, бароны, арфы-сартавальні, чыгунныя крыжы для помнікаў, чыгуннае і меднае ліццё па чарцяжах.




***Мал. 18. Фасад ліцейнага завода з плана 1901 года.***

За заводам аж да чыгуначнага пераезду размяшчаліся шматлікія прыватныя дамы, у іх у 1907 г. былі расквартаваны афіцэры Трэцяй паветраплавальнай роты расійскага войска *(мал. 17)*.




***Мал. 17.***

Вернемся назад і прагуляемся па левым баку ранейшай Віленскай *(цяпер няцотным боку вул. Савецкай)*. Вуліца пачыналася ад паўночна-*заходняга* вугла замка, дзе яна злучалася з вуліцай Крывой *(мал. 18)*.



***Мал. 18. Рог вуліц Віленскай і Крывой.***

У пачатку 1880-х гадоў: *"Налева прыватныя дамы і заезд Ленскага. Пры ім вулачка, пераезд на вул. Крывую. Далей габрэйскія хаты, паміж імі гатэль "Віленскі" Віленчыка, за ім кляштар кармеліцкі і сад да самай Каменскай вуліцы"*. Таксама і ў пачатку 20 стагоддзя вуліца пачыналася невялікімі драўлянымі аднапавярховымі дамамі. Насупраць уваходу ў Фарны касцёл размяшчаўся скарб (казначэйства) - аднапавярховы цагляны атынкаваны будынак з 10 шырокімі прастакутнымі вокнамі *(мал. 19)*. Тут 31 ліпеня 1914 г. спіраллю закручвалася велізарная чарга - гараджане, напалоханыя абвяшчэннем вайны, здымалі свае ўклады.

Адразу за скарбам знаходзілася шыкоўная гасцініца **"Гранд Гатэль"** ***Веніяміна Еліёвіча Ландо***, пабудаваная ў 1910-12 гг. У двары



***Мал. 19.***

гасцініцы ў старым драўляным будынку размяшчалася фатаграфія ***Д. Мулера*** *(мал. 20).*




***Мал. 20.***

Раней на месцы гасцініцы знаходзіўся цагляны касцёл Бязгрэшнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і кляштар кармелітаў, заснаваны ў 1672 *г.* ***Адамам і Кацярынай (Лізаветай) Нарбут***, Касцёл быў пабудаваны каля 1675 г. і дзейнічаў да 1832 г. Даўжыня касцёла 44,5 локцяў, шырыня 17,5 локцяў, фронтам на усход, меў 6 алтароў, 11 вокнаў, абтынкаваны і пабелены *(Wolyniak. Hisloria karmelitow lidzkich. // Ziemia lidzka. 2001. № 44 s.19).* Касцёл быў крыжападобнай формы ў плане, пад двухсхільным чарапічным дахам. Галоўны фасад дзяліўся высокімі пілястрамі з карнізамі на сухарыках і завяршаўся 3-вуголъным франтонам, падпразаным тонкапрафіляваным карнізам. Бакавыя фасады дзяліліся арачнымі аконнымі праёмамі з глыбокімі нішамі і пілястрамі ў міжаконнях. Захаваўся здымак гэтага касцёла, зроблены фатографам ***Балзункевічам*** у пачатку 20-га стагоддзя *(мал. 21).*



***Мал. 21.***

Будынак кармеліцкага кляштара быў збудаваны ў 1680 г. Кляштар таксама быў цагляны, аднапавярховы, у дзве лініі, з гонтавым дахам. Пры кляштары меўся агарод і гаспадарчыя пабудовы. У 1832 г. кляштар быў ліквідаваны, а 9 снежня 1840 г. пляц, які належыў кляштару, па рашэнні Гарадзенскай казённай палаты быў прададзены з публічнага гандлю. У 1883-88 гг. будынак былога кляштара займалі вайскоўцы, тут размяшчаўся штаб Данскога палка, у кляштары быў клуб, жылыя пакоі камандзіра палка і протаіярэя Іосіфа Іосіфавіча Каяловіча. Будынкі касцёла і кляштара былі разабраныя ў 1908-1910 гг., цэгла выкарыстаны пры будаўніцтве казармаў Паўночнага гарадка.

У вуліцу Віленскую з захаду ўваходзіла пад простым вуглом вул. Каменская, далейшага працягу на ўсход яна не мела *(мал. 22).*



***Мал. 22.***

На вуглу Віленскай і Каменскай знаходзіўся двухпавярховы будынак з чырвонай цэглы, які належаў ***Крывабокаву***. Вугал будынка быў зрэзаны, у зрэзе размяшчаліся дзверы, над якімі навісаў ажурны балкон, а над ім фігурная надбудова з цэглы. Уздоўж Віленскай у будынку мелася 12 высокіх вокнаў і 3 ажурныя балконы. Тут размяшчаліся суконна-мануфактурны склад і мануфактурная крама ***Айзіка Абрамавіча Вінера***, крама швейных машын, ровараў, музычных прылад ***Іосіфа Пейсахавіча Нэймана*** ў двух пакоях з абаротам да 8 тыс. рублёў, пісчапапяровая крама ***М. Слуцкага***, фотаатэльe ***М. Цявянскага***, кабінет зубнога лекара *(мал. 23).*

У гэтым ж будынку на другім паверсе размяшчаўся гульнёвы дом. *“Па вечарах у вокнах запальваліся агні, і за зялёнымі сталамі ішла адчайная гульня. Распавядаюць, што гаспадар гэтай установы прыкурваў цыгару ад дзесяцірублёвай купюры. Гэта быў высокі худы, заўсёды агорнуты клубамі цыгарнага дыму мужчына.*



**Мал. 23.**



**Мал. 24.**

*Чалавек ён быў загадкавы. Яго баяліся. Распавядалі, быццам ён бачыць целы людзей, іх душы, іх таемныя думы, адгадвае іх карты. Распавядалі таксама, што пад раніцу з гэтага дома выходзіць нейкая фантастычная дама-невідзімка, якая, нібы, і падказвае поглядам таму высокаму гульцу, як гуляць, каб выйграць, гэта значыць на нейкай таемнай мове паведамляе карты супраціўніка. Там жа, у іншай зале гулялі ў рулетку, якая прыносіла гаспадару, гэтаму афіцэру, велізарныя прыбыткі. Словам, вакол гульнявога дома ішлі фантастычныя аповяды - адзін страшней за другі". (Долинский И, Память. Москва, 2000, с. 35-36)*

Наступны двухпавярховы будынак з чырвонай цэглы на 8 вокнаў належаў ***братам Вінаградавым***. У ім размяшчаліся рэстаран і гасцініца **"Брыстоль".** На чыгунных слупах перад уваходам у гасцініцу віселі ліхтар і шыльда **"Hotel. Bristol"**. Каля ўваходу заўсёды дзяжурыў казак *(мал. 24)*. Тутака ж размяшчаліся мёдаварны завод ***братоў Вінаградавых*** і крама шкляного посуду ***Соры Хаімаўны Амосавіч***.

За рэстаранам знаходзіўся невялікі аднапавярховы цагляны будынак, які належаў ***братам Палячакам***. У ім было некалькі крамаў, праводзіў рамонт гадзіннікаў і аказваў ювелірныя паслугі гадзіннікавы майстар ***А. Арановіч***. Дзесьці тут, ва ўласным доме размяшчаўся дрожджавы бровар ***братоў Стругачоў А. Л. і Д. Л.***

У 1880-х гадах, па ўспамінах Яна *Сегеня*, на прымыканні Віленскай да рынку знаходзіўся Вартавы будынак. На пляцоўцы перад ім на вуліцы стаяла паходная вайсковая каса і палкавы штандар. Гэтая пляцоўка ўтрымоўвалася вельмі чыста.

Да Віленскай вуліцы прымыкаў **Кірмашовы пляц** або **Рынак** *(мал. 25)*. Займаў Рынак сучасны пляц Леніна і тэрыторыю за "Панарамай" усяго каля 2 гектараў, быў акружаны двухпавярховымі будынкамі, якія належалі ***Валынскаму, Кацу, Рубіновічу, Бярловіч Басі*** і інш лідскім габрэям, на першых паверхах гэтых будынкаў размяшчаліся крамачкі, гарбатныя (6), піўныя крамы (5), майстэрні (6). Да Кірмашовага пляца ў 1913 г. былі прыпісаныя 139 прадпрыемстваў (19%). На пляц два разы ў тыдзень з'язджаліся на фурманках сяляне з навакольных вёсак - гандлявалі гароднінай, садавінай, малочнымі прадуктамі, рамеснымі вырабамі - усім, што выраблялася, выгадоўвалася, вытваралася на сяле.

У 16-18 стагоддзях Рынак быў цэнтрам горада - тут былі Ратуша, Мікалаеўская царква, гандлёвыя рады, штотыдзень праходзіў гандаль, на яго збіраліся сотні сялянскіх фурманак са ўсёй акругі. Першая ратуша павінна была быць пабудаваная адразу пасля атрымання горадам магдэбургскага права. У 1788 г. кароль Станіслаў-Аўгуст сваім прывілеем падарыў гораду пляц адмыслова для пабудовы ратушы (*Шимелевич, 1906, с.51)*, такім чынам папярэдняя ратуша да таго моманту згарэла або здрахлела. Месцазнаходжанне другой ратушы паказана на плане 1798 г. *(мал. 1)*. Гэта быў двухпавярховы будынак, упрыгожаны порцікам з калонамі. Побач з ратушай размяшчалася нейкая старадаўняя драўляная пабудова ў гатычным стылі (ці не папярэдняя гэта ратуша?). У 19-м стагоддзі будынак ратушы служыў гаўптвахтай, а гатыч-




**Мал. 25.**



**Мал. 26.**

ная пабудова - пажарнікам адрынай. Абодва будынкі згарэлі падчас пажару 1891 года.

Кірмашовы пляц быў аддзелены ад вул. Віленскай некалькімі будынкамі, якія ўпрытык прымыкалі адзін да другога. У аднапавярховым абтынкованым будынку *(мал. 26)* размяшчаліся шматлікія крамачкі, у тым ліку крама ***Шалюбскіх***, а ў двухпавярховым цагляным будынку, які некалі належаў ***Пясецкому*** -- **"Старая Аптэка"** правізара ***Франца Іванавіча Бергмана***.

Трохі далей па вуліцы знаходзілася аптэка братоў ***Стукатараў***. Стукатары мелі дзве аптэкі, мелі таксама зубалячэбны кабінет, абодва не толькі лячылі зубы, але і рабілі для кліентаў зубныя пратэзы. У аднаго з братоў была адзіная дачка ***Сонечка***. *"У яе была цудоўная добрая ўсмешка з ямачкамі не шчоках. Твар разумны, цямлівы. Няшчасце яе было відаць усім, хоць яна была аптымістычная, з добрым усмешлівым тварам. Абедзве яе ножкі былі ў нейкіх спружынах, і яна вельмі дрэнна, з дапамогай двух палак, перасоўвалася на іх, дакладней з цяжкасцю клыпала... Сонечку шторанку вазілі ў гімназію на дрожках" (Долинский И. Память. Москва, 2000, с. 25-26).*

Перакрыжаванне з вул. Школьнай, якую пераняла вул. Кірава, размяшчалася больш паўднёвей, чым у цяперашні час. За перакрыжаваннем знаходзіўся гатэль **"Варшаўскі"**. Насупраць праваслаўнага Свята-Міхайлаўскага сабора меліся невялікія праваслаўныя



**Мал. 27.**

могілкі. У канцы 19 стагоддзі тут у хаце ***Крахельскіх*** размяшчалася мужчынская прыхадская двухкласная навучальня, а яшчэ раней парафіяльная школа.

Дом ветэрынарнага лекара, нямецкага лютараніна Рэнерта і цяпер упрыгожвае вуліцу (Савецкая, 23, *мал. 27*). Гэты простакутны ў плане, двухпавярховы, пад двухсхільным дахам будынак вылучаўся сваімі дэкаратыўнымі ўпрыгожаннямі на фасадзе і карнізам складанага арнаментальнага малюнка Дэкаратыўна апрацаваныя і тарцовыя трохкутныя шчыты. Узімку 1919 г. у будынку размяшчаліся штабы Сядлецкага палка і Заходняй дывізіі. У гады перабудовы гэты, прызнаны архітэктурным помнікам, будынак падвергся пераробцы: былі знесеныя балконы з фігурнай чыгуннай агароджай, і ў тарцовай частцы ўрэзаны дадатковы ўваход.

Далей на поўнач левы бок вуліцы займалі невялікія драўляныя хаты з ягаднікамі і фруктовымі садамі. Прыемным выключэннем у гэтым шэрагу быў аднапавярховая цагляны дом ***купца Гурэвіча*** класічнага стылю, які захаваўся і дагэтуль. П-падобны ў плане, з мансардавым дахам, з двума двухкалоннымі порцікамі на фасадзе *(мал. 28)*. Цэнтральны ўваход фланкаваны пілястрамі, раней тут меўся двухкалонны



**Мал. 28.**

порцік з франтонам, высунуты ў пешаходную частку вуліцы. У тылавой частцы будынка тэраса з высокім паўкруглым ганкам, фланкаваная бакавымі крыламі .

За домам Гурэвіча ў пачатку стагоддзя размяшчаўся драўляны двухпавярховы дом з паддашкавымі акенцамі і мансардай. Далей бачны два драўляныя домікі: за якімі ў вул. Віленскую ўваходзіла вуліца Крупаўская, на якой у 1903-04 гг. была пабудаваная бойня.

У працяг Віленскай за перакрыжаваннем размясціліся праваслаўныя могілкі са Свята-Георгіеўскай драўлянай царквой, збудаванай у 1875 г.

***Валеры Сліўкін,***
***старшы навуковы супрацоўнік***
***Лідскага гістарычна-мастацкага музея,***
***кандыдат геаграфічных навук.***

**Наталля Хацяновіч**

# З гісторыі лідскіх могілак

## Зніклыя могілкі

Месцазнаходжанне першых сістэматычных пахаванняў у Лідзе невядома. Можна меркаваць, што першыя могілкі знаходзіліся каля першых храмаў.

Звычай пахавання ў храме ці каля яго з'явіўся ў Заходняй Еўропе ў 8 ст., калі падзел хрысціянскай царквы яшчэ не адбыўся, і звычай гэты застаўся характэрным, як у католікаў, так і ў праваслаўных.

Абсталяванне ж могілак за горадам было часткай плану гарадскіх пераўтварэнняў, пачатых у Рэчы Паспалітай яшчэ ў часы караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Па рашэнні камісіі паліцыі Рэчы Паспалітай у 1791 годзе могілкі ва ўсіх буйных гарадскіх цэнтрах краіны пераносіліся за горад.

Першым хрысціянскім храмам у горадзе, паза замкам, быў драўляны Крыжаўзвіжанскі касцёл, які размяшчаўся на другі бок вуліцы і некалькі лявей ад сучаснага мураванага касцёла. Вакол яго маглі быць могілкі, якія зніклі пасля пабудовы новага касцёла.

**Самыя старажытныя могілкі з вядомых размяшчаліся на Зарэччы (паміж сучаснымі вуліцамі Стралкоўскага і Калініна).** Яны былі прыцаркоўныя, бо менавіта на гэтым месцы стаяла Прычысценская царква.

У адной з купчых 1630 г. указваецца месцазнаходжанне царквы: *"З Ліды на Дуброўню і Ліпнішкі, ідучы гэтай вуліцай па дарозе ... ад рынка і ад замка"*.* Прычысценская царква таксама бачна і на плане канца XVIII стагоддзя. Жыхарка горада Я. Ярмант успамінае: *"Наш дом знаходзіўся ніжэй вуліцы Вызвалення (цяпер Калініна), калісьці на гэтым месцы былі могілкі таму, што ў агародзе знаходзілі чалавечыя косці"***.

**Могілкі каля Кармеліцкага кляштара на вуліцы Віленскай маглі з'явіцца ў канцы 17-га стагоддзя, калі быў пабудаваны касцёл Бязгрэшнага зачацця Найсвяцейшай девы Марыі.**

Кляштар быў ліквідаваны ў 1835 годзе і можна меркаваць, што пасля гэтага пахаванні там не праводзіліся.

Пацверджаннем існавання могілак пры Кармеліцкім кляштары, з'яўляецца той факт, што падчас будаўніцтва 8-ай школы (зараз Лідская музычная навучальня) у 1955 годзе, а таксама пры расшырэнні вуліцы Ленінскай у раёне музнавучальні на месцы кляштара была знойдзена вялікая колькасць чалавечых касцей.

**Могілкі каля мураванага Крыжаўзвіжанскага касцёла з'явіліся ў пачатку 1770-х гадоў.**

На гэтых могілках у 1794 годзе былі пахаваныя паўстанцы Тадэвуша Касцюшкі, якія загінулі пры абароне Ліды ад расейскіх войскаў. У метрычных актах Лідскага касцёла за 1794 г. быў запіс пра тое, што *"ўсе, забітыя падчас аблогі Ліды, пахаваныя каля касцельнай агароджы"*.***

Існаванне гэтых могілак пацвярджаецца ўспамінамі Нікадзіма Сегеня, якія адносяцца да сярэдзіны XIX ст.: *"З правага боку вул. Віленскай, як раз насупраць гатэля стаіць парафіяльны касцёл, могілкі і фруктовы сад..."*****



***Помнік на магіле ксендза Станіслава Каласанты Роека каля Лідскага фарнага касцёла.***

Прыкасцельныя пахаванні пацвярджаюцца і Інвентарным вопісам Лідскага рымска-каталіцкага касцёла і бенефіцый: *"Пад прызбюторыюмам склеп, быўшыя ў ім целы памерлых у 1846 г. пахаваны ў зямлю"*.

Каля паўночнай сцяны Фарнага касцёла знаходзіцца магіла ксяндза Роека (1908 -1996). На помніку чытаецца надпіс: *"Ks. Dziekan Stanislaw Kalasanty Royek kaplan z zakonu piarow ur. 16.XI.1908 zm. 06.X. 1996. Dlugoletni paterz Lidzkiej Fary, jej obronca, wierny syn sw. Jozefa Kalasancjusza. Milosnik bozego milosierdzia Matki Bozej i sluga wszystkich ludzi. Reguiescant in pace"*.

**З сярэдзіны 19-га стагоддзя па 60-я гады 20-га стагоддзя ў раёне сучаснай вуліцы Фрунзе**

* Szymielewicz M. Dworyszcze i Trokiele // Ziemia Lidzka, № 3, 1939, s. 83.
** Е. Ярмонт. В тени замка Гедимина. Лида, 1995, с. 38.
*** Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок. // Виленский календарь. Вильно. 1906, С. 51.
**** Нікадзім Сегень // Лідскі летапісец, № 12, 2001, с. 17.

**знаходзіліся яўрэйскія могілкі.**

На плане горада Ліды 1842 г. могілкі ўжо ёсць і займаюць тэрыторыю плошчай каля двух гектараў. На гэтым жа плане паказана праектаванае новае месца для пахавання яўрэяў.*

На яўрэйскіх могілках пераважалі пахавальныя абеліскі рознай вышыні. Сустракаліся там таксама і наземныя ўсыпальніцы, пабудаваныя з цэглы з трохвугольным дахам і ўманціраванымі плітамі з эпітафіяй. Пахаванні размяшчаліся ўпрытык адно да другога.**

Аб апошнім прыстанішчы яўрэяў Ліды пасля Вялікай Айчыннай вайны ўспамінае Бруна Маркоўскі: *“З левага боку вул. Савецкай, уніз да ракі, былі яўрэйскія могілкі, яны нібыта спускаліся да рэчкі. Пасярод могілак расло адзінокае дрэва. Частка надмагільных камянёў была перавернута, не выключна, што гітлераўцы далі загад раскапаць магілы і павыдзіраць у нябожчыкаў золата.”**** У цяперашні час на тэрыторыі могілак пабудаваны жылыя дамы, могілкі сталі часткай вадасховішча.



***Надмагільны камень з яўрэйскіх могілак.***

Вадасховішча і жылыя дамы на касцях арганізатараў лідскіх заводаў, фабрык, крамаў: Пупко, Папірмайстра, Ілютовіча, Шапіры, Рыбацкага, аптэкара Левінсона, рабіна Райнеса.

І сёння, ідучы па вуліцы Свярдлова, тратуар якой вымашчаны каменнем, можна убачыць

***Так выглядалі яўрэйскія могілкі ў Лідзе.***

* ЛИХМ. История города Лиды. Ф. 1, д. 4.
** Ciechanowicz Lech. O Lidzie po niemecku // Ziemia Lidzka. № 37, 1999 . s. 6.
*** Бруно Морковский. Под лрямым углом. Восточный издательскнй дом. Донецк - 2002 с. 172-178.



*19 снежня 2004 года ў Лідзе на месцы былых яўрэйскіх могілак адкрыты памятны знак.*

асколкі надмагілляў з надпісамі на іўрыце.

Два камяні з яўрэйскіх могілак у жніўні 2003 года былі ўстаноўлены каля помніка на месцы расстрэлу лідскіх і віленскіх яўрэяў у раёне Паўночнага гарадка.

**Праваслаўныя могілкі месціліся насупраць сабора Міхаіла-Архангела па вул. Савецкай.** Аб іх існаванні сведчаць два фотаздымкі Свята-Міхайлаўскага сабора пачатку 20-га стагоддзя, на якіх бачны помнікі з праваслаўнымі крыжамі.

На фотаздымках таксама можна ўбачыць, што месца для пахавання абнесена драўляным плотам з варотамі, якія вядуць да помнікаў. Цікава, што да цяперашняга часу ніхто нічога не ведае пра гэтыя могілкі, і не знайшліся яшчэ дакументы, дзе б яны былі згаданы.

Могілкі насупраць сабора Міхаіла-Архангела з'явіліся ў другой палове 19 - га стагоддзя.

**Да сярэдзіны 60-х гадоў 20-га стагоддзя ў Лідзе па вул. Чырвонаармейскай (раней паміж вул. Казармавай і ксяндза Скарупкі) знаходзіліся вайсковыя могілкі.** Заснавалі іх у 1915 г. падчас Першай Сусветнай вайны немцы. Роўнымі радамі пад ранжыр былі пахаваны салдаты, справа ад уваходу - нямецкія, аустрыйскія і чэшскія, злева - расійскія з надпісамі "Невядомы салдат расійскай арміі" ці проста "Невядомы".*

Могілкі былі агарожаны невысокай мураванай сценкай і падтрымліваліся ў парадку. У сярэдзіне 20-х гадоў драўляныя крыжы былі заменены на квадратныя цэментныя пліты з імёнамі і прозвішчамі загінуўшых і датай іх смерці. У глыбіні могілак, насупраць уваходу, немцамі быў устаноўлены высокі абеліск у выглядзе 4-граннай піраміды з груба абчасаных камянёў. У аснове абеліска ляжаў адліты з чугуну паранены рымскі легіянер з надпісам на аснове піраміды *"Fur das Faterland"*. У 1919-1920 гг. на гэтых жа могілках былі пахаваны салдаты польскай арміі: Сувальскага пяхотнага палка, 4-га і 11-га уланскіх палкоў (1919) г., 1-й дывізіі легіёнаў (1920). На могілках былі пастаўлены цэментныя крыжы з надпісамі: ***"Невядомы салдат Вялікай Польшчы"*** без даты нара-



*Фігура рымскага легіянера на колішніх вайсковых могілках у Паўночным гарадку.*



*Могілкі па вул. Віленскай насупраць Свята-Міхайлаўскага сабора. Рэпрадукцыя паштоўкі з калекцыі В. Целеша.*

* Sniezka A. Cmentarz wojenny w Lidzie // Ziemia Lidzka, № 8, 1936, s. 7.



***Капліца на колішніх вайсковых могілках у Паўночным гарадку.***

джэння і смерці. У адным з вуглоў могілак стаяў адзінокі цэментны крыж з надпісам: ***"Невядомы салдат бальшавіцкай арміі"***.

У 1923-1924 г. была пабудавана невялікая капліца. 25 траўня 1924 г. у прысутнасці Прэзідэнта Польшчы Станіслава Вайцяхоўскага ў фундамент пад пастаментам, дзе стаяў бронзавы арол і ляжаў паранены рымскі легіянер быў закладзены спіс воінаў 77-га пяхотнага палка, загінуўшых пад Лідай. У спісе прозвішчы 12 афіцэраў: капітана Аляксандра Хацэя, паручнікаў Мар'яна Ласковіча, Цэзары Халецкага, 7 падпаручнікаў, 2 харунжых і 174 жаўнераў дзесяці пяхотных, трох кулямётных, штабной і тэхнічнай ротаў.*

У 30-я гады на гэтых жа могілках у асобнай агароджанай зоне хавалі памерлых жаўнераў 77-га пяхотнага палка і цывільных асобаў, якія жылі ў Казармах. У 1939-1941 гг. на могілках былі пахаваны некалькі салдатаў Чырвонай Арміі. У 1941-1944 гг. могілкі былі месцам пахавання ў нямецкіх салдатаў, загінуўшых пад Лідай і памерлых у шпіталях.**

У сярэдзіне 60-х гадоў пры будаўніцтве 6-ай школы вайсковыя могілкі былі ліквідаваныя.

**Могілкі нямецкіх ваеннапалонных на тэрыторыі сённяшняга Лідскага малочна-кансервавага камбіната ўзніклі прыкладна ў 1945 годзе.** У гэты час тут было размешчана Лагернае аддзяленне № 6 лагера № 281, база якога знаходзілася ў Ваўкавыску. Лагернае аддзяленне № 6 у Лідзе было разлічана на 600 чалавек. Па стану на 1 студзеня 1946 года тут знаходзіўся 271 палонны. Палонныя працавалі на аднаўленні Лідскага чыгуначнага дэпо, будоўлі вакзала, воданапорнай вежы. Смертнасць ў лагерах была даволі высокай. Так у цэлым па Ваўкавыскім лагеры № 281 у снежні 1945 г. памерла 43 чалавекі, у студзені 1946 - 60, у лютым 1946 - 37. Колькі чалавек памерла ў Лідскім лагерным аддзяленні, дакладна сказаць пакуль немагчыма. Вядома, што яны былі пахаваныя ў 5 магілах. Былі магілы індывідуальныя ці групавыя, не вызначана. Могілкі былі ліквідаваны ў шэрагу іншых у 1952 (1953) годзе.***

## Закрытыя могілкі

**Могілкі па вул. Энгельса з'явіліся ў 1797 г. на землях Вісмантаў па волі царскіх уладаў, якія загадалі закрыць па санітарных прычынах ранейшыя прыкасцельныя могілкі і размясціць новыя за межамі горада.**



***Сучасны абраз Святой Барбары ў галоўным алтары капліцы***

Могілкі знаходзяцца ў паўднёвай часцы горада. Яны маюць форму няправільнага шматкутніка, абмежаванага вуліцамі: з поўначы Радзюка і Клімко, з поўдня Папова, з усходу Энгельса, з захаду Розы Люксембург.

У 1805 г. пробашчам і дэканам лідскім ксяндзом Вінцэнтам Нарбутам у цэнтры могілак пабудавана драўляная капліца Святой Барбары (заступніцы лёгкай смерці). Абраз Святой Барбары знаходзіўся тады ў галоўным алтары капліцы.***

Ад цэнтральнага ўваходу да капліцы вядзе мошчаная плітамі алея. За капліцай яна дзеліцца на дзве часткі. Дадатковыя дарожкі, якія дзялілі могілкі на квадраты ў цяперашні час пакрыты зараслямі кустарнікаў і травой.

Некаторы час — пасля касацыі кармелітаў, лістападаўскага паўстання 1830 г. і пажару касцёла піяраў у 1842 г. могілкавая капліца выконвала функцыі звычайнага касцёла, тут праводзіліся службы. У 1905 г. драўляная капліца

---

* Лідскі гістарычна-мастацкі музей. КП 9890. Список солдат, захороненых на военном кладбище.
** Kuwalek Robert. Nieistniejancy cmientarz wojskowy w Lidzie. // Ziemia Lidzka. № 15, 1994. s. 6.
*** А.В. Шварков. Архипелаг ГУПВИ на территории Беларуси. 1944 - 1951. Минск. ТЕСЕЙ. 2003.
**** Сліўкін Валеры. Хрысціянства на Лідчыне.// Лідскі летапісец № 12, 2001, с. 7.



***Капліца Святой Барбары. Сучасны выгляд.***

згарэла. Цяперашняя цагляная капліца пабудавана ў 1930 г., дзякуючы старанням ксяндза Іпаліта Баярунца, пробашча і дэкана лідскага.

У пачатку 19-га стагоддзя пры капліцы мелася званіца. На двух слупах віселі два званы, адзін вагой 16 кг, другі 2 кг. У 1885 г. на сродкі Стэфана Будкевіча, маршалка шляхты Лідскага павету, пабудавана акуратная, абшытая і пакрытая гонтай (дранкай) званіца.

У 1845 г. піяр ксёндз Юзафат Вайшвіла на сродкі вернікаў пабудаваў на могілках драўляны шпіталь, у якім у 1856 г. знаходзіліся 12 калекаў і жабракоў.

Дзякуючы старанням Клары Якавіцкай, на грамадскія грошы, да сярэдзіны 19 стагоддзя могілкі былы абгарожаны.*

Да 1865 г. могілкі былі гарадскімі, на іх хавалі праваслаўных, католікаў і евангелістаў.

У міжваенны час яшчэ захоўваўся надмагільны помнік евангелісту, уладальніку Дакудава харунжаму лідскага павету Ксаверыю Эстку (1787-1855), выкананы віленскім каменячосам Вержбоўскім. На помніку была выразана кніга з надпісам: *«Браты! Тут пахаваны ваш бліжні, co sie staral o lze dla swego grobu».*

Непадалёк размяшчалася магіла лютараніна падпалкоўніка Фрэдэрыка Неймана (1813-1869).**

Да сёняшняга часу захаваўся за капліцай вялікі надмагільны камень з рускім тэк-



***Помнік на магіле Фрэдэрыка Неймана***

стам, пад якім пахаваны евангеліст барон Эрнэст Мядэм (-1846), сын графа Аляксандра Іванавіча Мядэма, рускага пасланніка ў Персію і Бразілію. Камень устанавілі калегі памерлага - афіцэры Галіцкага егерскага палка.



***Помнік на магіле барона Эрнэста Мядэма***

Маецца таксама некалькі праваслаўных надмагілляў: Пятра Масіны (1850), Якава Масіны (1860), калежскага асэсара Канстанціна Кучын-

* Kuwalek Robert. Rzymskokatolicki cmientarz przy ul. Grazyny. // Ziemia Lidzka. № 18-19, 1996. s. 6.
** Там жа, s. 4.



***Пліта на магіле калежскага асэсара Канстанціна Кучынскага (пам. 17.09.1845) з надпісам на рускай мове.***



***Магілы Зарэцкіх***

скага (1845) з эпітафіямі на рускай мове.

Але ў цэлым пераважаюць надмагільныя пліты католікаў. На могілках пахаваны заслужаныя абываців горада і павету, а таксама заможнейшая шляхта з наваколля Ліды.

Пры капліцы размяшчалася гранітная пліта Юзафа Грабоўскага - лідскага лекара, які памёр у 1849 г. Быў ён віленскім масонам, членам патрыятычнай ложы «Старанны Ліцьвін».

Да сёняшнягя дня захаваліся тры вялікія надмагіллі сям'і Зарэцкіх: генерал-лейтэнанта інжынернага корпуса Юзафа Зарэцкага сына Войцаха (19.12.1800-21.01.1869) герба Варня, памерлага ў Пецярбурзе, яго жонкі - немкі па паходжанні - Ганны Зарэцкай фон Грэвеніц (1.07.1807-1.11.1891), іх сына Мікалая Юзафа Зарэцкага (11.11.1843-12.01.1883), яго жонкі Марыі і дачкі Ганны (-1900).

На могілках пахаваны ўладальнікі маёнткаў з усяго павету: Мялюзіна, Качанава, Косаўшчыны, Курасоўшчыны, Перапечыцы, Чэхаўцаў, Скаўронішак, Трацякоўцаў: прэзідэнт Лідскага суда Станіслаў Адамовіч (1780-1838), прэзідэнт гарадскога суда Лідскага павету Фелікс Адамовіч (1783-1876), павятовы суддзя Гаспар Адамовіч (1794-1856), павятовы маршалак Стэфан Буткевіч, яго жонка Эмілія з Адамовічаў Буткевіч (1813-1879), капітан польскага войска Ян Тукала (1803-1867); сям'я Рылаў: дворскі дарадца Ксаверы Рылаў (? -2.2.1836), яго сын - карнет гусарскага палка Нідэрландскага караля Канстанцін (1825 -3.08.1847), яго дачка Альберціна з Рылаў Садоўская (-17.5. 1867), яе муж, дзяржаўны дарадца і кавалер Рафал Садоўскі (1811-8.08. 1869) , тут жа пахавана яго першая жонка, уладальніца маёнтка Баяршчына Максімілія з Даўгялаў Садоўская (1828-13.11.1845) з абшырнай эпітафіяй і двое яе дзяцей Людвіка і Яна; Ян Садоўскі (-1905) і яго жонка з Квятоўскіх Садоўская, іх сын Ян-Рафал; былы суддзя Лідскага павету Казімір Банькоўскі (-1876), Пётр Жаба і яго дачка Памела Нарбут, Ян Калясінскі (-27.06.1874) і яго жонка Антаніна (-13.03.1863).

Асаблівыя магілы мела сям'я Крахельскіх: Юзаф Крахельскі, лідскі скарбнік, Ружа з Туравічаў Крахельская (-19.05.1837), Нарцыс Крахельскі (14.10.1829-11.12.1890). На надмагіллі Теафіліі Крахельскай (-20.02.1881) абшырная эпітафія. Тут жа Раймунд Гужэ (-1896) павятовы ўрач, Эмілія з Шостак Лаўданская (-1893) - жонка спраўніка Лідскага павету, Марцін Галаўня (-1888), бургамістр Ліды Ян Стасевіч (-1901), Ганна з Малашкевічаў Яцкевіч (пам. 1840) - жонка бургамістра, Іаанна з Ліпінскіх Зэдлер (-1871)- жонка аптэкара, сям'я Андрушкевіча - таксама лідскага бургамістра, чыгуначны бургамістр Лявон Стабінскі.



***Разрабаваная і занядбаная ўсыпальніца***

У сціплых магілах пад сціплымі надмагіллямі пахаваны навакольныя сяляне з сямей: Болтуцяў, Сегеняў, Хрулёў, Падгайных, Тоўгі-

ных, Хутных, Капачэляў, Стрыбуцяў, Буцькоў, Ёдкаў, Запаснікаў, Клышэйкаў, Латушкаў, Саладухаў, Хадыкаў, Буракоў, Пуйдакаў, Белавусаў, Чарнавусаў, Вастравухаў, Драцякоў, Семакоў і інш.



***Помнік на магіле Караля Запасніка***

Першыя надмагільныя камяні даstаўляліся з каменячосных майстэрняў Вільні. Каля 1880 г. у горадзе з'явілася уласная майстэрня Баляслава Хруля, якая існавала да 1941 г. і размяшчалася на вул. Сувальскай. Пасля смерці Баляслава майстэрняй кіравала яго жонка Анэля з Малеўскіх Хруль. Некаторыя надмагіллі з майстэрні ў мястэчку Паддубна, яка належала Воўк-Карчэўскаму*.



***Помнік тыпу "Дубок"***

У 1886 г. жыхарка горада Ласковіч пабудавала вароты з 4-х каменых слупоў з драўлянымі створкамі.

У тым жа 1886 г. Ласковіч стала заснавальніцай новага шпіталя за агароджай могілак. Функцыяваў гэты прытулак да 1939 г.



***Фрагмент старой часткі плоту***

Мураваная агароджа вакол могілак будавалася на працягу 1900-1903 гг. На табліцы каля уваходу маецца надпіс: *"Агарожана ў 1903 г. за кошт парафіан, стараннямі ксяндза дэкана Юзафа Сінкевіча, М. Пацэвіча, Ю. Падгайнага, каменем Стэфана Макрэцкага, за якіх "Здровась Марыя!"*.



***Сямейны помнік Болтуцяў***

Адзін з самых цікавых камянёў знаходзіўся да вайны на магіле Станіслава Хагемейера (-1930). У Варшаве быў выраблены помнік аднаму з самых багатых лідзян - Аляксандру Ёдку (1858 - 17.12.-1933) з выявай барэльефа памерлага.

**Вайсковы квартал каталіцкіх могілак.**

На могілках існуе асобная вайсковая частка. Выдзяленне яе з агульнай плошчы могілак адносіцца да перыяду Першай сусветнай вайны. Тут пачалі хаваць салдат-католікаў Расейскага войска. Магілы іх не захаваліся. На магілах былі салідныя драўляныя крыжы з надпісамі: *"Браніслаў Плюцiцкі з Санітарага Беластоцкага шпіталя, Фадзей Пянткоўскі з 40-й артылерыйскай брыгады, Юзаф Зіневіч з 400 Менскага палка"*.

Каля іх загінуўшыя ў 1919-1920 гг., сярод іх удзельнік самаабароны Лідскай зямлі Віктар Шкоп (1900-16.01.1919), які загінуў пад Лябёдкай, афіцэры і жаўнеры, загінуушыя ў баях за Ліду ў красавіку 1919 г. і 28 верасня 1920 г., у тым ліку Генрык Жылінскі (- 16.04.1919) - паручнік 1-га Сувальскага палка стральцоў**.

Сярод магіл 1920 г. -- надмагіллі Юзафа Гундэрмана, паручніка Севярына Шыманяка, паручніка Фелікса Асейнага, паручніка Юзафа Кямпінскага, паручніка М. Шчалкоўскага, паручніка Феліцыяна Радкевіча, вахмістра Францішка Марчыка, а таксама 16 іншых падафіцэраў і шарагоўцаў. У 1924 г. сюды былі перанесены целы 40 чалавек з Даліны Смерці. Іх магіла знаходзілася непасрэдна перад помнікам

* Kwatera wojskowa parafialnego cmientarza w Lidzie// Ziemia Lidzka. № 29, 1998.
** Там жа.



**Цэнтральны абеліск з аднoўленай скульптурай на вайсковым квартале Лідскіх парафіяльных могілак.**

лётчыкам. Была табліца: *«40 невядомых па прозвішчах палякаў, закладнікаў з Беластока, Гародні і Ваўкавыска, растралянных бальшавікамі ў жніўні-верасні 1920 г.»*. Цяпер ад магілы няма і следу.



**Магіла Часлава Чарнецкага на Лідскіх парафіяльных могілках.**

Захаваліся магілы загінуўшых лётчыкаў 5-га лётнага палка: паручніка Аляксандра Ціхоцкага, сяржантаў-пілотаў - Баляслава Паўляка, Часлава Чарнецкага і Паўла Стэнцла. Былі і магілы загінуўшых у 1922 г. лідскіх паліцыянтаў Яна Вільканца, Юліяна Каўняровіча. Там жа быў пахаваны падкамісар паліцыі Уладзімір Біюк (-1928) і Юзаф Олесь, трагічна загінуўшы ў 1935 г.

Адразу пасля вайны савецкія ўлады ўзялі курс на закрыццё каталіцкіх могілак па вул. Энгельса. 16 снежня 1960 года Выканкам Лідскага гарадскога савета дэпутатаў працоўных прыняў рашэнне № 412.

*"Исполнительный комитет Лидского городского совета депутатовтрудящихся*

*Решение № 412*
*От 16 декабря 1960 г. г. Лида*

***О закрытии существующих кладбищ и об открытии нового кладбища***

*В связи с невозможностью дальнейшего захоронения на существующих кладбищах по ул. Советской и ул. Энгельса из-за отсутствия мест для захоронения и готовностью нового кладбища по ул. Варшавской, исполком Лидского городского Совета депутатов трудящихся решает:*

*1. Закрыть существующие кладбища по ул. Советской и улице им. Энгельса с запрещением на них захоронений с 1 января 1961 г.*

*2. Разрешить захоронения на новом кладбище по ул. Варшавской с 1 января 1961 г.*

*3. Коммунальному отделу обеспечить порядок захоронения на новом кладбище согласно законоположения.*

*4. Контроль за выполнением настоящего решения возложить на коммунальный отдел.*

*Председатель исполкома*
*Лид. Гор. Сов. Депут. Труд. – И. Ушацкий.*
*Секретарь исполкома*
*Лид. Гор. Сов. Деп. Труд. – В. Утлик."*

У 70-х гадах савецкія ўлады прынялі рашэнні аб ліквідацыі каталіцкіх могілак і арганізацыі на іх тэрыторыі парка. Многія жыхары перанеслі парэшткі сваіх сваякоў на могілкі па вул. Варшаўскай.

16 сакавіка 1983 года было прынята рашэнне № 215 Лідскага гарвыканкаму.

*Исполнительный комитет Лидского городского Совета народных депутатов*

*Р Е Ш Е Н И Е*
*От 16.06.83 г. № 215 г. Лида*

***О ликвидации городских кладбищ по ул. Советской и ул. Энгельса***

*Кладбища по ул. Советской и ул. Энгельса решениями исполкома закрыты в 1960 и в 1965 годах. Последиде захоронения на кладбищах производились более 20 лет тому назад. В связи с тем, что родственниками умерших не поддерживается санитарный порядок на данных кладбищах и на основании правил закрытия и ликвидации кладбищ и заключения санитарно-эпидемиологической службы, исполнительный комител Лидского городского Совета народных депутатов*

*РЕШИЛ:*

*1. Кладбище по ул. Советской ликвидировать частично. Кладбище по ул. Энгельса ликвидировать полностью.*

*2. Службе гражданского обслуживания Лидского городского производственного объединения жылищно-коммунального хозяйства ликвидацию кладбищ по ул. Советской и ул. Энгельса произвести согласно правил закрытия и ликвидации кладбищ. До 1 июля 1983 г. дать объявление в газету "Уперад" о ликвидации данных кладбищ.*

*Председатель исполкома – В. Азаренко.*
*Секретарь исполкома Р. Донесенко."*

Працэс ліквідацыі каталіцкіх могілак, аднак, зацягнуўся. Большасць пахаванняў не было каму пераносіць на новыя могілкі, сваякоў або не засталося, або яны жылі за мяжой. Тым не менш усё ішло да таго, што могілкі будуць пушчаны пад бульдозер. Апошнім рубяжом стала магіла ўдзельніцы паўстання 1863 года Валерыі Цехановіч, якую пусціць пад бульдозер у 80-я гады без сур'ёзнага канфлікту з грамадскасцю было ўжо немагчыма. Было прынята рашэнне аб перазахаванні Валерыі Цехановіч. Быў прызначаны дзень, але за некалькі гадзін да эксгумацыі Лідскі гарвыканкам прыпыніў праект ліквідацыі могілак.



***Магіла ўдзельніцы паўстання 1863 г. Валерыі Цехановіч, якая ўратавала каталіцкія могілкі.***

У сярэдзіне 90-х гадоў была рэстаўравана капліца Святой Барбары і вайсковы квартал, устаноўлены новыя вароты. У пачатку 2000-х гадоў на могілках праведзена генеральная прыборка, высечаны кустарнік, падняты і абчышчаны некаторыя з надмагілляў, папраўлены плот з боку вул. Энгельса.

**Праваслаўныя могілкі па вуліцы Савецкай былі арганізаваны удругой палове 19-га сагоддзя, на паўночнай ускраіне горада.**

Сёння могілкі маюць простакутнюю форму вытягнутую з поўдня на поўнач. Да могілкавай царквы вядуць дзве алеі перпендыкулярныя адна да другой. За царквой вузкія паралельныя дарожкі дзеляць могілкі на тры часткі.

Праваслаўныя могілкі з заходняга боку, ад вуліцы Фабрычнай, абгарожаны высокім плотам, з усходняга аддзелена ад цеплавой электрастанцыі бетоннымі плітамі, з паўночнага боку да могілак прымыкае тэрыторыя завода электравырабаў, з заходняга боку праходзіць вуліца Савецкая.

У 1875 годзе на тэрыторыі могілак была пабудавана і асвечана Свята-Георгіеўская драўляная царква. Першалачаткова драўляную царкву вянчалі 2 шатровыя купалы. Унутраныя сцены і зводы не мелі роспісаў. Іканастас двухярусны, у першым ярусе - шэсць абразоў, у другім - чатыры. Святы прыстол асвечаны ў імя Святога Вялікапакутніка і Пераможца Георгія. Антымінс, які захоўваецца пры царкве, выдадзены Мітрапалітам Менскім і Беларускім Піцірымам.



***Свята-Георгіеўская царква. Здымак 2005 г.***

У цяперашні час завершана будаўніцтва цаглянай царквы, якая атачыла старую драўляную.

Найстарэйшае надмагілле ўстанавіць не ўдалося, многія пліты разбітыя.

У розныя часы на могілках знайходзілі свой вечны спачын, як звычайныя лідскія грамадзяне, так і знакамітых людзі нашага горада, з якімі звязана яго гісторыя. Каля сцен царквы пакояцца парэшткі Навіцкай Марыі Канстанцінаўны, у дзявоцтве Снітко, якая з'яўляецца за-



***Помнік Марыі Навіцкай***


***Помнік на магіле святара 172-га пяхотнага Лідскага палка М. М. Красніцкага. Пам. 11.11.1909 г.***

снавальніцай Лідскай жаночай навучальні, пазней ператворанай у жаночую гімназію.

На могілках знаходзяцца пахаванні салдат 172-га пяхотнага палка, які ў пачатку 20-га стагоддзя быў раскватараваны ў Лідзе.

На царкоўным пагосце 8 пахаванняў святароў: Міхаіла Гамаліцкага, Антонія Амельяновіча, Мікалая Мікалаевіча Красніцкага, Аляксандра Пятровіча Казанскага, Валерыяна Грачыхі, Іосіфа Каяловіча, Міхаіла Галенкавіча.


***Помнік на магіле святара А. Амельяновіча. Пам. 6.11.1904 г.***

На могілках у 30-я гады 20-га стагоддзя быў пахаваны Міністр унутраных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі ва ўрадзе Вацлава Ластоўскага генерал ад інфантэрыі Цыпрыян Кандратовіч. У сярэдзіне 90-х гадоў сваякі перанеслі парэшткі генерала ў Воранава.

На могілках знайшоў свой апошні прытулак знакаміты лекар Рэнарт.

Тут жа пахаваны дзеячы беларускага нацыянальна-вызвольнага руху Беларусі Юліян Саковіч і Леанід Маракоў.

**Вайсковая частка.**

На тэрыторыі праваслаўных могілак размешчаны тры манументы. Адзін - помнік воінам Савецкай Арміі, партызанам і партыйна-савецкаму актыву, загінуўшым у час вайны і пасляваенны перыяд ад рук бандытаў.

Другі - помнік на брацкай магіле, у якой пахаваны каля 40 падпольшчыкаў і партызанаў, якія былі растраляны 25 чэрвеня і 3 ліпеня 1944 г. Сярод іх М.В. Валіцкая, А.Г., Г.П. Качан, А.А. Клімко, З.Ф. і Л.Ф. Кудачовы, М.К. Наказных і іншыя. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск. 8.07.1994 г. адкрыты новы помнік, аўтарам якога з'яуляецца лідскі скульптар Вараб'ёў В. М.


***Пліта на магіле генерала Цыпрыяна Кандратовіча ў Воранаве, перавезеная з Ліды.***

Трэці - помнік на брацкай магіле 12 чырвонаармейцаў, якія былі расстраляны гітлераўцамі на тэрыторыі канцлагера ў Паўночным гарадку.

Асаблівае месца займаюць пахаванні воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі у 1944-1950 гг. Гэта магілы 74 воінаў і 1 партызана. Сярод пахаваных - воіны 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія вызвалялі горад у ліпені 1944 г., салдаты і афіцэры войск НКУС, загінуўшыя ў пасляваенныя гады. У 1967 г. устаноўлены надмагільныя пліты з імёнамі загінуўшых.

У 1960 годзе было прынята рашэнне аб закрыцці для пахаванняў праваслаўных могілак па вул. Савецкай, у сувязі з адсутнасцю тэрыторыі, а ў 1983 г. выканаўчы камітэт Лідскага гарадскога Савета народных дэпутатау прыняў рашэнне аб частковай ліквідацыі могілак на вул. Савецкай так, як родныя памерлых “не падтрымлівалі санітарны парадак”. Але дзякуючы намаганням вернікаў і прыхаджан Свята-Георгіеўскай царквы гэтае рашэнне не было выканана.

На сёння могілкі афіцыйна закрытыя. На іх зрэдку прадаўжаюцца перазахаванні парэшткаў воінаў Чырвонай Арміі, якія перыядычна знаходзяць на тэрыторыі Лідскага раёна падчас розных работаў. На гэтых магілах ставяцца традыцыйныя чырвоныя абелiскі.

***Анастасія Каладзяжная***

# ПАРТЫЗАНСКІ АТРАД ІМЯ ВАРАШЫЛАВА

Партызанскі атрад імя Варашылава - адзін з першых партызанскіх атрадаў на Гарадзеншчыне. Касцяком атрада паслужылі вайскоўцы Чырвонай Арміі, пакінутыя на акупаванай тэрыторыі ў першыя дні вайны.

Вайсковец Чырвонага Арміі **Макараў Пётр Кузьміч**, уцёкшы з нямецкага палону ад мяжы з Усходняй Прусіяй, жыў і працаваў у селяніна **Говара Ўладзіміра Пятровіча** на хутары Белы Згурок каля в. Масявічы. На бліжэйшых хутарах працавалі такія ж былыя вайскоўцы, мясцовае насельніцтва звала іх акружэнцамі. У в. Масявічы былі **Сцёпа** і **Федзя**, у в. Канюшаны - **Вася**. Нажаль, прозвішчы іх невядомыя. Мясцоваму насельніцтву яны былі вядомыя па імёнах і мянушках. Безумоўна, акружэнцы мелі зносіны паміж сабой, і ў кожнага з іх спела думку не толькі пра выратаванне ўласнага жыцця, але думалі і пра выратаванне Радзімы. Завязваліся сувязі з акружэнцамі іншых, больш аддаленых вёсак. Акупацыйны рэжым не выклікаў у іх асаблівых сімпатый. Макараў П.К., які перажыў нямецкі палон, працуе на гаспадара, але спадзяецца толькі на сябе, нават у хаце не начуе. На прапанову гаспадароў перайсці спаць у хату, адказваў: “Пільную намалочаны хлеб”.



*Макараў Пётр Кузьміч, 1939 г.*

У 1941 годзе акружэнцы ніякіх дзеянняў супраць акупантаў не прадпрымалі, толькі выношвалі ідэю супрацiву. Так, Макараў П. К. знаёміцца з **М. Радзецкім** - арганізатарам партызанскай групы, і наведвае яго ў в. Пудзіна (сястра Говара Ў. П. была замужам за сваяком М. Радецкага). Старэйшая дачка гаспадароў **Марыя** мімаволі ўцягваецца ў барацьбу - завязвае знаёмствы з паліцыянтамі для збору звестак. Для гэтай ж мэты **Фёдар Быстрыцкі** - малады і прыгожы хлопец з в. Масявічы, заляцаецца да непрыгожай дачкі солтыса **Юзіка Войтака**.



***Макарава (Говар) Марыя Ўладзіміраўна.***

І ў раёне ў цэлым у 1941 годзе адносна спакойна, хоць глеба для супраціву акупацыйнаму рэжыму рыхтуецца. Мясцовае насельніцтва дапамагала ваеннапалонным, уцякачам з горада. Так, па ўспамінах **Леаніда Шамрэя**, у першыя месяцы акупацыі яго бацька, **Шамрэй Іосіф** з в. Дубчаны, **Капля Аляксей** з в. Дудары і яшчэ 8 калгаснікаў былі арыштаваныя па даносе кулака **Шымуля Цітуса** за тое, што дапамагалі акружэнцам пераапранацца ў цывільную вопратку і хавацца. У хлявах Шамрэя з в. Дудары, **Каплуна** з в. Кульбакі былі выкапаныя ямы, зверху накрытыя дошкамі і саломай, у якіх хаваліся акружэнцы. У выпадку хваробы іх лячыў асаднік - лекар **Ардзілоўскі** з в. Малое Ольжава. Падтрымлівалі сувязь з акружэнцамі **Лобан Міхась** з



***Говар Уладзімір Пятровіч***

в. Дудары, **Бычак Ян** з в. Ольжава, **Капля Ўладзімір** з в. Кульбакі. Такіх патрыётаў сярод мясцовага насельніцтва было нямнога, але яны былі.

Становішча, у якім з'яўляліся першыя парастакі партызанскага руху на Лідчыне, было складаным. З аднаго боку - фашысцкі акупацыйны рэжым з "пугай і пернікам", з другога - уся наша тэрыторыя была пакрытая канспіратыўнай сеткай польскага супраціву, які марыў аб вольнай Польшчы ў межах да 1 верасня 1939 года.



*Шамрэй Леанід Іосіфавіч, здымак 1951 г.*



*Капля Аляксей Іосіфавіч*

У лютым-сакавіку 1942 года фашысты пачалі вывозіць у Нямеччыну маладое насельніцтва. Над акружэнцамі навісла пагроза быць вывезенымі ў Нямеччыну. У сакавіку 1942 года (яшчэ ляжаў снег) Макараў П.К. з трыма акружэнцамі, пабудаваў у хмызняку каля хутара Белы Згурок (ля в. Масявічы) будан, і будучыя партызаны "перайшлі на свой хлеб". Говар насіў ім харчаванне. Зброю даставалі з дапамогай мясцовага насельніцтва (у першыя дні вайны насельніцтва збірала кінутую зброю, боепрыпасы і хавала ў лясах). **Косця Данейка** з в. Навасады падказаў, што ў 1939 годзе польскае войска пры адступленні ў ляску за в. Навасады закапала зброю. Партызаны зброю перанеслі ў будан. Пра гэтую зброю нейкім чынам празнала група яўрэяў і зажадала завалодаць ёю. Макараў лёг спаць у будане, а **Сікорскі** і чэх **Вацлаў Найгабаўэр** (дэзертыраваў з нямецкага войска) стаялі на пасту. **Лёнька** (яўрэй з Дзятлава) поўз да будана, каб забіць Макарава П.К. і завалодаць зброяй. В. Найгабаўэр заўважыў гэта і забіў Лёньку - яўрэя.

Да траўня 1942 года партызан ужо было 10-11 чалавек. Паводле справаздач камандавання атрада аб баявой і дыверсійнай дзейнасці, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь ( Ф. 587, 588, 590, 598) гэтая невялікая група пачала здзяйсняць дыверсіі ў тыле ворага. Яшчэ ў красавіку падпалілі 2 склады з бензінам на ст. Гутна. У траўні здзейснілі налёт на гміну і пастарунак у Беліцы (здабылі ручны кулямёт, 2500 штук патронаў, 12 тыс. рублёў), налёт на бензасховішча ў в. Тарнова (падарвалі 250 бочак бензіну). 20 і 30 траўня група здзейсніла дыверсіі на чыгунцы Кобрын-Баранавічы на ст. Таўле і на ўчастку Беласток-Ваўкавыск. У чэрвені дзве дыверсіі на чыгунцы: на ўчастку Беласток-Ваўкавыск каля станцыі Грынькі разабрана чыгуначнае палатно, што прывяло да крушэння цягніка, а на ўчастку Кобрын-Баранавічы каля ст. Таўле - да крушэння цягніка з тэхнікай.

Большасць дыверсій здзяйсняецца ў значным аддаленні ад месца размяшчэння партызанскай групы. Верагодна, байцы шкадавалі мясцовае насельніцтва і адводзілі ўдары акупацыйных улад, як ад мясцовага насельніцтва, так і ад сябе. Але ваяваць у тыле ворага і быць незаўважаным цяжка, тым больш, што ў акупацыйнага рэжыму меўся добра наладжаны карны механізм. У в. Масявічы солтысам быў Юзік Войтак. За Макаравым П. К. ён даўно пачаў прыглядаць, не падабаўся яму гэты акружэнец. Ён бачыў у Макараве П. К. выдатныя баявыя здольнасці і падаслаў свайго стрыечнага брата **Сцяпана Ярашэвіча** атруціць Макарава, на шчасце, беспаспяхова.

Солтыс ведаў, што група знаходзіцца дзесьці непадалёк, але дзе - не ведаў. У адну з нядзель чэрвеня (на Сёмуху), узяўшы пачастунак партызанам, пайшоў шукаць. Знайшоў, але гутарка не завязалася. Юзік, затаіўшы крыўду, выклікаў паліцыянтаў. Праз некалькі дзён вартавыя парадку досвіткам з'явіліся ў вёску, але да гэтага часу ў партызан ужо быў надзейны тыл з мясцовых жыхароў. Дзяўчынка **Саша Быстрыцкая** з в. Масявічы прыбегла на хутар паведаміць аб прыбылых паліцыянтах. Загуляўшы давідна з дачкой солтыса Федзя Быстрыцкі поўз (каб быць незаўважаным) на хутар па роснай траве, каб паведаміць пра аблаву. Гаспадыня пабудзіла малодшых дзяцей гнаць кароў (умоўны знак партызанам), а дачку Марыю паслала з гарачымі аладкамі, нібы для пастухоў, у в. Канюшаны папярэдзіць ваеннапалоннага Васю. Партызаны даведаліся пра аблаву, але ў бой з паліцыянтамі не ўступілі,бо апошнія маглі спаліць хутар. Пасля гэтага партызаны памянялі месца дыслакацыі - сыйшлі ў Фалькавіцкі лес.

Атрад папоўніўся за лік акружэнцаў, якія пайшлі ад сялян, уцёкшых з Ліды савецкіх ваеннапалонных і мясцовага насельніцтва.

Аднойчы адбыўся, можна сказаць анекдатычны выпадак - ваеннапалонныя **М. Цімашэнка, М. Удавічэнка** і яшчэ некалькі акружэнцаў, а таксама маладзенькая дзеўчына **Людміла Кала-**

**чова**, пасля **Цімашэнка**, прыбылі ў партызанскі атрад ... на аўтамашыне. Успамінае Людміла Дзмітраўна Цімашэнка: *“Днём будучыя партызаны ў г. Лідзе селі ў грузавы аўтамабіль з намерам з’ехаць у партызаны. Выязджаючы са стаянкі, кіроўца, верагодна, перанерваваўся, машына ўрэзалася ў плот і завязла. Кіроўца нярвуецца, спрабуе выправіць становішча, але ў яго не атрымоўваецца. У гэты час па вуліцы праходзілі паліцыянты. Убачыўшы такую карціну, адзін з іх, відавочна старэйшы, закрычаў: “Што рот раззявілі? Дапамажыце выцягнуць машыну!” І ўсе пачалі нам дапамагаць. Машына шчасліва дабралася да прызначанага месца...”.*



***М. М. Удавічэнка***



***Цімашэнка (Калачова) Людміла Дзмітраўна***

19 чэрвеня 8 партызан пад кіраўніцтвам Макарава П.К. разграмілі гміну і пастарунак у Тарнове. У гэтым баі загінуў, паводле ўспамінаў Макаравай М.У., **Мікалай Паўтарак** - адзін з першых байцоў атрада. У ліпені дыверсія на ст. Свіслач - падрыў цягніка з жывой сілай (забіта 75 і паранена 40 нямецкіх салдат і афіцэраў). 2 жніўня падарвалі на гэтай ж станцыі цягнік з тэхнікай.

Улетку 1942 года ў баі недалёка ад вёскі Масявічы быў цяжка паранены Макараў П. К. Параненага камандзіра прынеслі да Говараў. Дачка гаспадара Марыя ў каморцы перавязвае параненага, малодшыя дзеці чысцяць аўтамат. І ў гэты час усюдыісны Юзік Войтак з паліцыянтамі з’яўляецца на хутар, ды так і наровіць сунуць нос у каморку. Пра гэта ўспамінае М. У. Макарава: *“Зразумеўшы, што Юзя з паліцыянтамі ў двары, кідаю параненага Макарава П. К., дамовіўшыся з партызанамі, што буду спяваць, калі паліцыянты захмялеюць, пертвараюся ў легкадумную дзяўчынку: кідаюся на шыю паліцыянтам, запрашаю іх у хату, уключаю патэфон. Неўзабаве з’явіліся сподкі, чаркі... Праз некаторы час паліцыянты з Юзям выйшлі, а адзін застаўся. А ў гэты час параненага Макарава выносяць з каморкі, каб адвесці да лекара. Паліцыянт кінуў погляд на параненага Макарава і хутка адвярнуўся, зрабіўшы выгляд, што нічога не бачыў* (пасля вайны гэты паліцыянт (літовец) наведваўся да Говараў). *Параненага Макарава адвезлі ў Фалькавічы да лекара, далечваўся ў в. Панямонцы. (4 асколкі ў лёгкіх, атрыманыя пры гэтым раненні, Макараў П.К. пранасіў усё жыццё, з імі і памёр).”*

Мясцовае насельніцтва, байцы атрада ратавалі камандзіра, а па ўспамінах Макаравай М.У., фашысты ў газетах прызначылі ганарар за галаву партызанскага камандзіра - 40 тыс. нямецкіх марак.

Усюдыісны солтыс Юзік Войтак яшчэ шмат крыві вып’е ў Говараў і ў партызан. Быў такі выпадак. Моладзь в. Масявічы паехала ў Ліду атрымліваць пашпарты. З імі паехаў і Юзік Войтак, які ў гэбітскамісарыяце з усёй моладзі вылучыў дзве ахвяры - сясцёр Марыю і **Ганну Говар**, паказаўшы на іх, як на нядобранадзейных. Дзяўчынак затрымалі. Партызаны, празнаўшы пра гэта, канфіскавалі ў солтыса дзвюх свіней, за якія і выкупілі дзяўчынак. (Пасля вайны солтыс Юзік Войтак будзе асуджаны на 10 гадоў за супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі).

Хто быў у ліку першых партызан атрада? У Нацыянальным архіве РБ спісу партызан 1942 года не выяўлена. Вось некаторыя прозвішчы з данясенняў аб баявой і дыверсійнай дзейнасці аддзелу па стане на 1 жніўня 1942 года : **Бежанкоў, Белякоў М.М., Брычка, Бутоўскі Д., Дзмітрыеў Я. Д., Дабравольскі С. П., Думаў М., Гарадскі, Гаранаў, Граза, Зарэцкі, Іваноў, Караваеў Л., Кірылаў У., Кірушын У., Каматоўскі, Качаргін А., Ласінянскі, Мазураў, Макараў П.К., Масленікаў, Меляшкоўскі, Найгабаўэр В., Паўленка, Паўлаў, Пятроў І., Пісьменны, Рыжков І., Сікорскі, Сарокін, Фатаў У., Цвяткоў С., Шалеўскі.**



***Белякоў М.М., Трафімаў, Дабравольскі С. П.***

Ваеннапалонны **Федзя**, які парабкаваў у в. Масявічы, хоць і быў у ліку першых партызан, аказаўся выпадковым, партызанскае жыццё яго не вабіла, папрасіў сваю гаспадыню Кудлу, каб тая адвезла яго ў Ліду. (Пасля вайны Федзя

апынуўся ў Польшчы, яго адшукалі органы КДБ і прывозілі да Макарава на апазнанне. Верагодна, за лядашчай душкай Фёдара было шмат грахоў).



***Рыжкоў Іван Гаўрылавіч***

Па ўспамінах М. У. Макаравай, з лета 1942 года вялікую дапамогу атраду аказваў стрыечны плямяннік У. П. Говара **Кастусь Іванавіч Шут** з в. Супроўшчына. Да вайны ён атрымаў прафесію землеўпарадчыка, фашыстам патрэбныя былі такія адмыслоўцы і ён пайшоў на іх працаваць, працаваў у гэбітскамісарыяце. Аднойчы фашысты паслалі яго абмяраць зямлю ў в. Жучкі. Партызаны затрымалі яго, потым апазналі - ён прыходзіў на хутар да Говараў і быў знаёмы з Макаравым. Шут К. І. запэўніў партызан, што будзе ім дапамагаць. Праз яго пасля партызаны атрымаюць карты, пашпарты і іншыя важныя звесткі. (Шут К. І., баючыся інтрыг КДБ, пасля вайны эміграваў у Польшчу). *"Я з бацькам ездзіла ў Ліду. У возе - схованка з картамі, звесткамі ад Косці Шута. Паліцыянты правяралі, але часцей прасілі шнапсу, бралі сала, яйкі. Часам, пакалупаюцца зверху...".*

Да верасня 1942 года партызаны атрада дзейнічалі самастойна. 9 верасня 1942 года створаны Беларускі штаб партызанскага руху (БШПР) для аператыўнага кіраўніцтва партызанскім рухам. Паводле данясенняў (фонды 587, 588, 590 Нацыянальнага архіву РБ) атрад да верасня 1942 года імянуецца як партызанскі атрад Беластоцкай вобласці. Такая расплывістая назва дазваляе меркаваць, што партызанскі рух на Гарадзеншчыне толькі зараджаецца. У народзе гэты атрад звалі "Пецькаў аддзел" - па імені камандзіра, а таксама "Лідскім", бо ён быў арганізаваны з ваеннапалонных, якія працавалі ў Лідзе, і жыхароў Лідскага раёна. Па ўспамінах партызана **Касмача І.М.**, партызаны паміж сабой, а таксама мясцовае насельніцтва так і працягвалі зваць свой атрад "Лідскім", але з верасня 1942 года паводле данясенняў у БШПР - гэта атрад імя К. Варашылава. Дарэчы, у БШПР вельмі любілі гэтае імя - мноства атрадаў і брыгад ваявалі пад гэтым імем. Камандзір атрада - Макараў Пётр Кузьміч, камісар - Белякоў Мікалай Мікітавіч, начальнік штаба - Дабравольскі Сяргей Платонавіч.

У верасні 1942 года ў Лідскім і Шчучынскім раёнах немцы сабралі вялікую колькасць хлеба і жывёлы для адпраўкі ў Нямеччыну. Атрадам было рэквізавана 127 тыс. пудоў збожжа, 63 каровы, 23 кані, 26 свіняў.

2 верасня 1942 года 6 партызан пад кіраўніцтвам Макарава П. К. разагналі атрад беларусаў, мабілізаваных у "Беларускую самаахову". Што ўяўляе сабой гэтае фармаванне?

Сустрэўшы супраціў акупацыйнаму рэжыму, фашысты паспрабавалі схіліць насельніцтва на свой бок, зрабіць бачнасць паляпшэння адносін мясцовага насельніцтва да акупацыйных уладаў. Яны пачалі фармаваць нацыянальныя адміністрацыйныя ўтварэнні, пры гэтым абапіраліся на тыя пласты насельніцтва, якія заўсёды былі ў апазіцыі да Савецкай улады. У кастрычніку 1941 года была створаная "Беларуская нацыянальная самаабарона". Галоўная мэта- дапамагчы беларусам, пацярпелым ад ваенных дзеянняў, бальшавіцкага і польскага праследу. Пры гэтай арганізацыі былі створаныя ўзброеныя аддзелы "Беларускай самаахoвы". Гэтыя фармаванні праіснавалі нядоўга, увосень 1941 года немцы страцілі да гэтай задумы цікавасць і замест самаахoвы стварылі беларускія паліцэйскія батальёны пад непасрэдным кіраўніцтвам нямецкіх афіцэраў. Былі створаныя ўкраінскія, літоўскія, грузінскія, туркестанскія і інш. фармаванні, якія выкарыстоўваліся для аховы камунікацый і барацьбы з партызанамі. У Лідзе быў украінскі карны атрад.

3 верасня 1942 года Макараў П.К. з групай партызан узяў у палон 2-х паліцыянтаў з вялікай здабычай - 22 тыс. патронаў, 1 кулямёт, 3 вінтоўкі, 100 гранат. Пазней, 14 лістапада партызаны сустрэліся з двума паліцыянтамі. Пры гэтым аднаго забілі, другога паранілі. 24 лістапада ў раёне Ліды знішчылі 2-х паліцыянтаў.

У верасні-кастрычніку 1942 года партызаны каля ст. Скрыбава падрываюць цягнік з амуніцыяй і цягнік з боепрыпасамі.

Паводле ўспамінаў М.У.Макаравай, увосень 1942 года камендант Беліцкага пастарунка Гулей адпомсціў партызанам за іх налёт на гміну і пастарунак у траўні - зрабіў пастку. Сустрэўся ў Макаравым П.К. з прапановай аб пераходзе паліцыянтаў пастарунка да партызанаў. У прызначаны дзень замест дружалюбнай сустрэчы завязаўся бой з узброенымі да зубоў паліцыянтамі. У гэтым баі загінуў **Толік** (рудавалосы). (Пасля вайны Гулей быў асуджаны за заўзятую службу гітлераўцам).

Надыходзячая зіма 1942-1943 года вымусіла партызан шукаць надзейнае сховішча. Фалькавіцкі лес - невялікі, лёгкадаступны для карнікаў. Позняй восенню 1942 года атрад перабіраецца ў Ліпічанскую Пушчу, размешчаную на зліцці дзвюх паўнаводных рэк - Нёмана і Шчары. Шырокі густы і забалочаны лес Пушчы

надзейна хаваў партызан аддзелу да вызвалення. Атрад размясціўся ў сярэдзіне Пушчы на сопцы, вакол якой было непралазнае балота. Для выхаду на заданні былі пракладзеныя грэблі з дрэва. Пабудавалі зямлянкі, кухню, лазню, склады, шпіталь.

Успамінае Булат Б. А. - камандзір Ленінскай партызанскай брыгады. *“У кастрычніку 1942 года гітлераўцы паспрабавалі стварыць апорны пункт у самым цэнтры нашай зоны. У вёску Руду Яварскую прыбыў 115 украінскі паліцэйскі батальён і некалькі дзесяткаў немцаў. Усяго ў залозе налічвалася больш за 200 салдатаў і афіцэраў. У ноч на 25 кастрычніка Арлянскі атрад і атрад імя Варашылава акружылі Руду Яварскую. За некалькі хвілін да ўзыходу сонца дала першы залп наша артылерыя: гаўбіца і дзве 45-мм гарматы. Але вораг быў напагатове і адказаў даволі арганізаваным агнём. У гэты час па плану аперацыі на лінію варожых акопаў з лесу па дарозе Вялікая Воля - Руда Яварская павінен быў выйсці наш бранявік, пад прыкрыццём якога намячалася агульная атака. Мы яго загадзя на конях (каб не заводзіць матор і не ствараць шуму) падцягнулі да ўскрайку лесу. Але калі бранявік рушыў сваім ходам, матор нечакана заглох. Прайшлі амаль паўгадзіны, пакуль удалося зноў завесці яго. А тым часам інтэнсіўнасць перастрэлкі на подступах да залогі нарастала. Залёгшыя партызанскія ланцугі з нецярпеннем чакалі сігналу атакі. Нарэшце з’явіўся бранявік. Ён уварваўся ў размяшчэнне ворага і адкрыў пушачны і кулямётны агонь па акопах супраціўніка. У залозе пачалася паніка. Кідаючы акопы, паліцыянты і немцы пачалі ўцякаць. Іх пераследавалі партызаны. Супраціўніка ад поўнага разгрому выратавала толькі незразумелае рашэнне камандзіра Арлянскага атрада, які адвёў сваіх людзей з занятага ўчастка і тым самым даў магчымасць рэшткам залогі вырвацца з кола акружэння. У гэтым баі вызначыўся Макараў П.К. Страты ворага склалі 50 забітых і 14 параненых”.* (У Прынёманскіх лясах. Успаміны партызан і падпольшчыкаў. Мн., 1975, стар. 130-131).

Партызанам неабходныя былі медыкаменты. Іх здабывалі ў Бярозаўцы ў доктара **І. Брыля** і дастаўлялі ў атрад **Т. Д. Касцякова**, якая жыла ў Бярозаўцы, і М. У. Макарава. Аднойчы Т. Д. Касцякова і М. У. Макарава з поўным камплектам лекаў пераходзілі мост цераз р. Нёман ля в. Агароднікі. Іх затрымалі паліцэйскія. Невядома, чым б усё скончылася, калі б М. У. Макарава не пазнала аднаго з паліцыянтаў, які, узяўшы дзяўчат за рукі, правёў цераз мост. Часта М. У. Макарава мяняла сала на цукар, які дастаўлялі ў атрад параненым партызанам. Людміла Дзмітраўна Цімашэнка здабывала лекі ў Лідзе ў доктара **Кальфа**. Аднойчы, прыхапіўшы медыкаменты, Л. Д. Цімашэнка ехала ў атрад на возе, на якіх ехалі і гітлераўцы. З адным з іх завязалася гутарка, гітлеравец дастаў з унутранай кішэні фатаграфію свайго сябра, які загінуў на нашай зямлі, і з шкадаваннем гаварыў, што ў сябра ў Нямеччыне ўдавой засталася маладая жонка і двое маленькіх дзяцей-сірот.



***Касцякова Тамара Дзмітраўна***

У снежні 1942 года ў аддзел уліваюцца мужныя байцы 21-га партызанска-дэсантнага аддзелу, які дзейнічаў у раёне Слоніма з 1941 года. Байцамі гэтага аддзелу пушчана пад адхон, разбіта і пашкоджана 10 цягнікоў супраціўніка, праведзена 6 падрываў чыгуначнага палатна, зладжана 4 засады на шашэйных дарогах, рэквізавана вялікая колькасць харчу.

У снежні 1942 года паводле данясенняў у БШПР на чыгунках праведзена 5 дыверсій.



***Аўчыннікаў Георг Фёдаравіч***

1 снежня група партызан у складзе **Сямлыгіна,** Цімашэнкі, **Музафарава, Трыфанава, Олара,** Качаргіна, **Аўчыннікава** пад кіраўніцтвам Бутоўскага здзейсніла ў в. Далекія падрыў чыгуначнага цягніка з афіцэрамі, якія адпраўляліся на фронт. У выніку крушэння забіта 480 і паранена 50 нямецкіх афіцэраў. Рух па чыгунцы затрыманы на 62 гадзіны.

Пра гэты выбух успамінае Уладзімір Уладзіміравіч Янчэўскі, былы дырэктар Далекскай школы, зараз пенсіянер: *“Авіябомбу партызаны прывезлі на санях пад вечар, везлі цераз усю вёску, самі партызаны ішлі пяшком. Мы, падшыванцы, мне тады было гадоў 15, суправаджалі іх. А ад крыжа яны нам сказалі: “Ні кроку!”. Бомбу залажылі направа ад пераезду ў бок Гародні, метраў за 100-200 - там паварот на Гародню. Самі партызаны сядзелі ў Шыша Паўлавіча і ў солтыса - замовілі вячэру. Вячэру не паспелі даесці. “Наш час скончыўся”, - усталі і пайшлі. Ведалі, што па раскладу цягнік, які вазіў немцаў з адпачынку на Усходні фронт, ходзіць у 10. Цягнік ішоў з чырвонымі крыжамі - вязлі салдат і афіцэраў на фронт. Вагоны добрыя, месцаў на 80... Выбух велізарнай сілы страсянуў усю вёску. У Нічыпара Мішы і ў Шыша Юркі вокны пасыпаліся. Крыкі, стогны. Распалілі кастры. Два вагоны разляцеліся*

*ў трэскі. Тыя, хто працаваў на каляях - расчышчалі, вечарам прыйшлі ўсе ў крыві, гаварылі, што некаторыя з трупаў нельга было ўзяць разарваныя папалам. Віктар Бачаноўскі ўкладваў трупы ў вагоны, па шыю быў у крыві, трупаў наклалі два вагоны.*

*Як толькі развіднелася, фашысты акружылі вёску з усіх бакоў, солтысу загадалі расчысціць вуліцу ад снегу. У кожны двор зайшлі, хлявы расчынілі, сабак усіх перастралялі, шафы, куфры - усе параскрылі, але нічога не чапалі. Сагналі нас усіх на канец вёскі, гналі каго ў чым. Пастаўлены кулямёты, немцы ляжалі за імі - рваліся секчы, іншыя іх трымалі. Звязаліся па тэлефоне з гаўляйтарам Куба, які загадаў старых і дзяцей адпусціць. Мужчын сагналі ў таварныя вагоны і павезлі ў Лідскую турму "Сыракомлю", дзе іх трымалі тыдні два."*

Праз тыдзень, 8 снежня - крушэнне цягніка з тэхнікай у раёне в. Хадзюкі.

24 снежня 7 партызан аддзелу ім. Варашылава пад кіраўніцтвам **Думава М.** і 11 партызан Дакудаўскага партызанскага атрада (у будучым атрад "Іскра") правялі падрыў чыгуначнага цягніка з вугалем ля в. Кадолбы каля ст. Гаўя. Легіянеры Арміі Краёвай сцвярджаюць, што гэты падрыў праведзены імі. Гісторыя ведае нямала фактаў, калі па адным і тым ж падрыве ішло наверх некалькі данясенняў ад розных фармаванняў.

27 снежня, паводле данясення, 5 партызан атрада пад кіраўніцтвам Белякова М. М. падарвалі цягнік на перагоне Скрыбава-Ліда каля в. Хадзюкі. У выніку крушэння забіта 450 і паранена 90 фашысцкіх салдат і афіцэраў. Ці быў гэты падрыў, цяжка сказаць. Паводле распытвання мясцовага насельніцтва, ніхто не памятае пра другі магутны падрыў цягніка з жывой сілай. Прайшло ледзь больш трох тыдняў пасля жахлівага падрыву ў в. Далекія. Яшчэ не ўсе мужчыны, арыштаваныя за яго, вярнуліся з турмы. Калі б падрыў каля Хадзюкоў быў, фашысты адразу б расстралялі іх. Тым больш, што паводле данясення нядаўна, 8 снежня, ля в. Хадзюкі падарваны цягнік з тэхнікай. А **Ядвіга Міхайлаўна Лобан**, якая жыла ў в. Дудары, сцвярджае, што моцны падрыў цягніка з асабовым складам ля в. Хадзюкі быў здзейснены 6 студзеня 1943 года легіянерамі Арміі Краёвай (пра будучы выбух з ёй падзяліўся яе кавалер - легіянер АК, ёй запомнілася дата - 6 студзеня, бо 5 студзеня 1943 года ў Лідскай турме быў рас-страляны яе бацька Лобан Міхась Пятровіч за сувязь з партызанамі (Капля А.), а 6 студзеня быў выбух). Калі выбух здзейснілі варашылаўцы - гонар і хвала ім.

29 снежня 1942 года - крушэнне цягніка на перагоне Ліда-Гаўя.

Паспяхова праведзеныя баявыя і дыверсійныя дзеянні нанеслі вялікую страту фашысцкаму войску, усё цяжэй ідзе забеспячэнне Ўсходняга фронту з-за разбурэнняў партызанамі чыгуначных шляхоў. У лістападзе-снежні 1942 года нямецкія рэгулярныя часткі блакуюць Ліпічанскую Пушчу, разлічваючы на непрыстасаванасць партызан да зімовых умоваў. Успамінае камісар атрада Белякоў Мікалай Мікітавіч: *"... атрад прыкрываў подступы да Ліпічанскай пушчы з поўначы, у раёне вёскі Карытніца, дзейнічаючы галоўным чынам з засадаў. Атрад быў някепска ўзброены. Прыкладна на 100 чалавек мы мелі 1 станковы кулямёт, 8 аўтаматаў і некалькі дзясяткаў вінтовак, маглі наносіць адчувальную шкоду фашысцкім карнікам. Так, акапаўшыся на ўскраіне вёскі Зачэпічы, куды нам давялося адысці пад напорам пераважных сілаў ворага, мы агнём ва ўпор з даволі блізкай адлегласці літаральна скасілі значную частку калоны гітлераўцаў, якая рухалася ў нашым кірунку. Амаль цалкам была знішчана і група фашыстаў, якія паспрабавалі абысці рубеж, заняты атрадам з левага флангу. Масаваным агнём яе сустрэла рота Васіля Шубадзёрава. У гэтым баі фашысты толькі забітымі страцілі 78 салдатаў і афіцэраў.*

*У далейшым, манеўруючы па Пушчы, атрад выйшаў да вёскі Руда Ліпічанская. Яна была ўжо занятая гітлераўцамі, на вуліцы стаялі аўтамашыны з салдатамі. Наш неспадзяваны агонь заспеў іх знянацку. Дзве аўтамашыны адразу ўспыхнулі. Аднак супраціўнік даволі хутка прывёў сябе ў парадак і пачаў адказваць арганізаваным агнём. У нашым размяшчэнні пачалі разрывацца варожыя міны. Каля звязу фашыстаў рушыла ў абход справа, але сустрэўшы агонь нашага станковага кулямёта, адкаціліі назад. Партызан Замоцін трапнай чаргой з ручнога кулямёта паразіў мінамётны разлік ворага. Тым не менш фашысты ўпарта лезлі наперад і ў цэнтры і з флангаў. Вызначыўся баец Вацлаў Найгабаўэр - забіў 4-х гітлераўцаў, якія паўзком спрабавалі прабрацца да нашага кулямётнага пункта, і не пакінуў поля бою нават тады, калі быў паранены. Мужна змагаліся і іншыя партызаны. Усё гэта дазволіла нам адбіць атакі супраціўніка і арганізавана адысці ў глыбіню Пушчы, а затым у ноч з 14 на 15 снежня 1942 года прарваць кола блакады... Атрад накіраваўся ў Лідскі раён, дзе правёў шэраг паспяховых аперацый на чыгуначных камунікацыях ворага. У канцы снежня 1942 года атрад зноў вярнуўся ў Ліпічанскую пушчу."* (У прынёманскіх лясах. Успаміны партызан і падпольшчыкаў. "Беларусь". Мн., 1975, стар. 311.)

Падчас гэтай аблавы ў Ліпічанскай Пушчы знішчаны амаль усе хутары з насельніцтвам. Нямецкі самалёт на працягу некалькіх дзён кідаў па адной бомбе на вёскі Сарокі, Орля, Вялікае Сяло. Знішчана шмат яўрэйскіх сем'яў, якія хаваліся ў Ліпічанскай Пушчы.

Згодна з данясеннем у БШПР, 49 партызан пад кіраўніцтвам Белякова М. М. 28 снежня 1942

года сустрэліся ў адкрытым баі з нямецкімі рэгулярнымі войскамі, накіраванымі супраць партызан у в. Руда Ліпічанская Слонімскага раёна. Забіта і паранена больш 50 фашыстаў, падбіта 3 аўтамашыны.

12 снежня 1942 года ўтварылася Ленінская партызанская брыгада. У склад брыгады ўваходзілі 3 атрады: імя Варашылава, "Барацьба" і "Перамога".

У структуру атрада ўваходзіла такое падраздзяленне, як асобы аддзел, які ўзначальвала Касцякова Тамара Дзмітраўна. За перыяд з 2 ліпеня 1942 па люты 1943 года аддзелам знішчана ў Лідскім раёне 5 чалавек нямецкіх шпіёнаў, даносчыкаў і здраднікаў: **Маслер, Шановіч Ян** і **Школка Іосіф** з в. Няцеч, **Кумпяк** з в. Навасады, **Ганевіч** з в. Ольжава. У чым яны правініліся? У нацыянальным архіве РБ са следчых спраў па абвінавачванні партызан у шпіянажы, марадзёрстве, парушэннях вайсковай дысцыпліны хоць і зняты грыф сакрэтнасці, але па стане на сакавік 2005 года яны былі недаступныя.

У студзені 1943 года праведзена 4 крушэнні чыгуначных цягнікоў. 12 і 15 студзеня -крушэнне цягнікоў з харчам ля ст. Гаўя і ў раёне Іўя. 22 студзеня - крушэнне цягнікаа з газаахоўнікамі, камбікормам і абмундзіраваннем. 31 студзеня крушэнне цягнікаа з жывой сілай на перагоне Скрыбава-Ліда (забіта 140, паранена 160 нямецкіх салдат і афіцэраў).

У лютым-сакавіку 1943 года на ўчастку Скрыбава-Ліда праведзена дзве дыверсіі: падарваны цягнік і чыгуначны мост.

26 лютага днём партызан **Фурс М. А.**, знаходзячыся на вуліцы ў г. Ліда, забіў з рэвальвера нямецкага салдата. Аб'ява акруговага камісара: растрэл 10-ці закладнікаў за забойства нямецкага салдата.

Акрамя дыверсій на чыгунцы партызаны часта "сустракаюцца" с вартавымі парадкупаліцэйскімі фармаваннямі. Так, 19 лютага 16 партызан пад камандаваннем Аверкава па дарозе ў маёнтак М. Мажэйкава сустрэліся з немцамі і паліцыянтамі. Забіты 4 немцы і 2 паліцыянты. 20 лютага забіты паліцыянт ля в. Ходзевічы Слонімскага раёна. Пазней, 11 сакавіка ў маёнтку Голдава паланілі 4-х гітлераўцаў, адзін з якіх афіцэр. Па ўспамінах І.М.Касмача: *"Палонных гітлераўцаў даставілі ў аддзел. Уначы партызан Вацлаў Найгабаўэр, які ахоў-ваў палонных, абмацаў іх і знайшоў ордэн Жалезнага Крыжа (ваенны ордэн - адна з вайсковых узнагарод Нямеччыны). Пахавалі іх у балоце за хутарам Белуша ў Ліпічанскай пушчы"*. У красавіку каля в. Громавічы забіты паліцыянт. Трохі пазней на дарозе Яварская Руда-Копці (Слонімскі раён) партызанамі забіты паліцыянт, пры гэтым захапілі вінтоўку, 3 гранаты, 100 патронаў. У траўні 10 партызан вялі бой з карнікамі ў раёне в. Няцеч, у якім забіты 2 карнікі.

Красавік 1943 года - 5 дыверсій на чыгунцы. У раёне Скрыбава 8 красавіка арганізавана крушэнне цягніка, 16 красавіка ў падрыве і абстрэле цягнікаа на ст. Курган прымалі ўдзел 77 партызан пад кіраўніцтвам камандзіра атрада Макарава П. К. Падбіты паравоз і 11 вагонаў, забіта і паранена 412 нямецкіх афіцэраў. Палову гэтага цягніка са ст. Курган забітымі і паранеными адправілася назад у Нямеччыну. Праз 2 дні, 18 красавіка 4 партызаны пад кіраўніцтвам **Пралыгіна І.А**. днём падарвалі мост праз раку Прошма на чыгунцы Ліда-Баранавічы, услед за падрывам маста адбылося крушэнне цягніка. 21 і 27 красавіка крушэнне цягнікоў з вугалем і тэхнікай на чыгунцы Скрыбава-Ліда.

Распавядаючы аб гераічных буднях байцоў атрада, нельга не згадаць імя адважнай лідскай падпольшчыцы і сувязной атрада **Марыі Кастраміной**. Па ўспамінах **Я. Каплун**, якая жыла на хутары каля в . Кульбакі, вядома, што байцы атрада былі звязаныя з Лідскімі падпольшчыкамі праз А. Каплю і іншых патрыётаў. Каплун добра памятае **Іванова Івана Іванавіча** (загінуў на хутары Шчурок у студзені 1943 г.), сцвярджае, што **Моця Наказных** нярэдка наведвала партызан на хутары каля в. Кульбакі. З гісторыі падпольнага руху ясна, што Моця Наказных і Марыя Кастраміна працавалі ў адной запрэжцы, без сумневу, М. Кастраміна была звязаная з партызанамі. Добра ведаў М. Кастраміну Мікалай Удавічэнка. У красавіку 1943 года пасля шэрагу паспяховых аперацый падпольшчыкаў Марыя Кастраміна вырашыла сыйсці ў атрад. Яна дабралася да Беліцы. Магчыма, пераадолела б і астатні шлях, але падвёў выпадак. Як раз у гэты час легіянеры Арміі Краёвай пераследавалі сям'ю Говараў за сувязь з партызанамі. 17-цігадовая Марыя, дачка Говара, хавалася ад легіянераў АК у сваякоў у в. Осава. І сваячка, нібы, з добрымі намерамі, сватае Марыю легіянеру. Праз 3 дні легіянеры АК павінны прыбыць у Осава па Марыю. Ёй удаецца ўцячы ў партызанскі атрад. А ў гэты час у раёне Беліцы з'яўляецца Марыя Кастраміна, злёгку падобная на Марыю Говар (Макараву). І легіянеры АК забіваюць М. Кастраміну, прыняўшы яе за Марыю Макараву. Зрабіўшы брудную справу, яны прыбылі да Говара на хутар і сказалі, што забілі яго дачку. Говар, ведаючы, што яго дачка ў бяспецы, імкнучыся засцерагчы сябе ад легіянераў АК, гаворыць, што так ёй і трэба, за што змагалася, на тое і напаролася. (Лукашэвічы Ян і Марыя з в. Осава, у якіх хавалася Марыя Макарава, пасля вайны былі асуджаныя на 10 гадоў за супрацоўніцтва з Арміяй Краёвай).

Дзейнасць атрада ўскладнялася недахопам выбуховых рэчываў і боепрыпасаў. Зброю, патроны і тол даставалі самі. Тол для падрыву

цягнікоў здабывалі з артылерыйскіх снарадаў, мін ад мінамётаў і авіябомб. Гэта вельмі тонкая і далікатная справа, якая патрабуе адпаведных ведаў. 21 красавіка 1943 года 5 байцоў атрада загінулі на хутары Яманты пры здабыванні толу з снарада. Падчас гэтай аперацыі цяжка паранены Макараў П. К. Па ўспамінах Л. Д. Цімашэнкі, параненага, без прытомнасці, камандзіра неабходна было пераправіць з хутара Яманты ў Ліпічанскую Пушчу цераз Нёман. Ці вытрымае тонкі красавіцкі лёд? Для праверкі адправілі па лёдзе найлягчэйшых партызан - выведніцу Цімашэнку Людмілу Дзмітраўну і **Ваўкавыскага Леаніда**. Усе партызаны, затаіўшы дыханне, чакалі, калі санкі з камандзірам дасягнуць супрацьлеглага берага. Але ўсё абыйшлося шчасліва. Толькі камандзір аддзелу Макараў П.К. назаўжды застаўся інвалідам. Пры гэтым выбуху моцныя апёкі атрымаў В. Шубадзёраў. Па ўспамінах Касмача І. М., асколкам адарвала пальцы рукі **Івану Латышаву**: *"Дастаў руку, а пальцы засталіся ў кішэні".*

Партызаны праводзілі выключна важныя аперацыі па падрывах мастоў. Толькі 18 красавіка знішчана 3 драўляныя масты цераз р. Лебяду агульнай працягласцю 105 м. У траўні знішчана 4 драўляныя масты агульнай працягласцю 80 м. на трасе Шчучын-Скрыбава і Скрыбава - Жалудок.

Партызаны выводзілі з ладу тэлефонна-тэлеграфную сувязь. У 1943 годзе былі выведзены з ладу 2220 метраў тэлефонна-тэлеграфнай сувязі.

Травень 1943 года - 4 дыверсіі на чыгунцы. 9 траўня днём замінавана чыгуначнае палатно на ўчастку Ліда-Баранавічы. Ахоўнікі, якія праводзілі абыход, падарваліся на гэтай міне. 17 траўня падрыў цягніка з харчам і часткова з жывой сілай. 23 траўня - крушэнне цягніка каля ст. Жалудок. 29 траўня - крушэнне цягніка з амуніцыяй каля ст. Ражанка.

12 чэрвеня 1943 года з Ленінскай брыгады вылучаецца новая брыгада - брыгада імя Кірава, у склад якой уваходзяць 5 атрадаў, у тым ліку і атрад імя Варашылава. Брыгада дыслакавалася ў Лідскім раёне, а атрад, хоць і ўваходзіў у Кіраўскую брыгаду, але дыслакаваўся, пераважна, у Ліпічанскай Пушчы.

Але байцам атрада не да штабных арганізацыйных мерапрыемстваў. Для іх галоўнае - баявая і дыверсійная праца. У чэрвені 1943 года - 4 дыверсіі. 13 чэрвеня каля ст. Жалудок крушэнне цягніка з прадуктамі, 15 чэрвеня ў раёне ст. Скрыбава крушэнне цягніка з жывой сілай. Пад абломкамі пабітых вагонаў засталіся забітымі і паранёнымі 350 гітлераўцаў. 20 чэрвеня на чыгунцы Ліда-Баранавічы каля в. Руда разбурана 70 м чыгуначнага палатна. 25 чэрвеня падрыў цягніка з аўтамашынамі і танкамі каля в. Багдановічы.

Улетку 1943 года нямецкае камандаванне прадпрымае ўсе меры, каб свінцом і агнём задушыць партызанскі рух. Па ўспамінах **Ляўцеева М.Д.**: *"Улетку 1943 года фашысты арганізавалі блакаду на аддзел ім. Варашылава, узялі ў кола, адрэзаўшы ўсе шляхі і выйсці. Неабходна было прарваць кола блакады. Партызаны ўначы падышлі да дарогі Дзераўная-Слонім. Подступы да яе былі заваленыя - на 50 м ляжаў суцэльны лес, пад ім замінаваныя пасткі (ваўчыныя ямы), дарога перакопана траншэямі і збудаваннямі, у якіх фашысты чакалі партызан. Немцы падпусцілі партызан бліжэй і адкрылі шквальны агонь. У цемры завязаўся бой. З крыкам "Ура!" удалося прарваць умацаванне супраціўніка і выйсці з акружэння, праўда, з вялікімі стратамі".* У гэтай аперацыі, па ўспамінах Л. Д. Цімашэнкі, вызначыўся Вацлаў Найгабаўэр (чэшскі афіцэр, мабілізаваны ў чэшскае войска, дэзертыраваў, у дасканаласці валодаў нямецкай мовай). *"У нямецкай форме ішоў ва ўвесь рост і крычаў на нямецкай мове: "Здавайцеся!". Немцы, пачуўшы чыстую нямецкую гаворку, у здзіўленні падымаліся, а ён іх пстрыкаў па адным. У гэтым баі ён быў паранены ў руку".*



***Ляўцееў Міхаіл Дзмітравіч***

Падчас праведзенай аперацыі "Герман" фашыстам не ўдалося дасягнуць пастаўленай мэты - пакончыць з партызанамі.

Пачынаючы з вясны 1943 года барацьба партызан супраць немцаў ускладнілася дзеяннямі легіянераў Арміі Краёвай. Што ўяўляла сабой Армія Краёва?

Верасень 1939 года - уз'яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй. Беларускі народ гэтую падзею ўспрыняў з радасцю - уз'ядналіся адзінакроўныя браты. У польскай грамадскасці гэтае аб'яднанне ўспрынялося з болем, нават выклікала адкрыта варожую рэакцыю. Сярод розных пластоў польскага насельніцтва рос супраціў. Шматлікія польскія вайскоўцы, якія пазбеглі палону, не склалі зброі, арганізавалі падпольныя ўзброеныя групы. Вялікая канцэнтрацыя ўзброеных груп, пакінутых ад разбітага Войска Польскага, была ў Ліпічанскай Пушчы. Велізарны лясны масіў, а галоўнае, падтрымка каталіцкага насельніцтва стваралі спрыяльныя ўмовы для існавання нелегалаў. У лістападзе 1939 года польскі ўрад у эміграцыі стварае цэнтр кіраўніцтва падпольнай барацьбой - Саюз Узброенай

Бараць бы (у лютым 1942 года будзе пераіменаваны ў Армію Краёву). Галоўная мэта гэтага Саюза - вольная Польшча ў межах да верасня 1939 года. Пасля 22 чэрвеня 1941 года СССР, Польшча і Англія апынуліся ў адным лагеры - у лагеры саюзнікаў. Але з адкрыццём другога фронту саюзнікі не спяшаюцца. І адзінай рэальнай магчымасцю для аказання хоць нейкай дапамогі Чырвонай Арміі ў Лондане бачаць правядзенне дыверсій на лініі забеспячэння немцамі Ўсходняга фронту. А гэтая лінія на 90 адсоткаў праходзіць па тэрыторыі акупаванай Польшчы. Трэба адзначыць, што стратэгія і тактыка польскага эміграцкага ўраду абапіралася на ваенную канцэпцыю Вялікабрытаніі.

Безумоўна, галоўным для польскага ўраду былі не дыверсіі, якіх так жадаў Лондан, а падрыхтоўка да ўсеагульнага паўстання для дасягнення незалежнасці Польшчы. Тым не менш легіянерамі Арміі Краёвай быў праведзены шэраг дыверсійных акцый супраць фашыстаў на беларускай зямлі. *“У чэрвені-ліпені 1942 года прайшлі дыверсійныя акцыі на чыгунцы Ліда-Маладзечна. У ліпені 1942 года на ст. Ліда ў цыстэрну з бензінам кінуты самаробны запальны зарад, у верасні подсыпаны жалезнае пілавінне ў аліву, якой змазвалі буксы паравозаў. У кастрычніку на ст. Гаўя пушчаны пад адхон цягнік, у снежні каля в. Кадолбы падарваны цягнік з вугалем”.* (Я. Сямашка. Армія Краёва на Беларусі. Мн., 1994, стар 91).

Вядома, зроблена нямала, але калі параўноўваць іх дзейнасць з дзейнасцю чырвоных партызан, то параўнанне не ў карысць Арміі Краёвай.

Рэцэдывы варожасці паміж савецкімі партызанамі і акаўцамі былі. Па ўспамінах Л. Шамрея, у студзені 1943 года ў хаце **Дамброўскага** на х. Шчурок Лідскага раёна загінулі ад рук легіянераў Арміі Краёвай Капля Аляксей з в. Дудары, **Яшка-кулямётчык** (украінец) і масквіч Іваноў Іван Іванавіч. Аб тым, што на х. Шчурок загінуў Іваноў Іван Іванавіч успамінае і Я. Каплун з в. Кульбакі. Паводле фондаў Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь, тут загінулі толькі Капля Аляксей і **Гузей Мікалай**.

*“1 сакавіка 1943 года ў выніку ўзброенага сутыкнення групы партызан брыгады імя Варашылава з акаўцамі ў раёне в. Цацкі загінуў беларускі партызан. 12 траўня 1943 года атрад імя Варашылава ў раёне в. Баяры быў атакаваны акаўцамі. У выніку загінула пяцёра партызан, хоць не пазбеглі страт і нападнікі. Некалькі пазней, 11 чэрвеня 1943 года на хутары побач з в. Баяры Смалоцкія былі нечакана атакаваныя і знішчаныя 16 партызан брыгады імя Леніна. У чэрвені 1943 года адбылося некалькі ўзброеных сутыкненняў партызан гэтай брыгады з акаўцамі”.* (У. І. Ермаловіч, С. У. Жумар. Агнём і мячом. Мн., 1994, стар. 29-30).

А. Вялікі ў артыкуле “Иудино сотрудничество” (газета “Советская Белоруссия” ад 15.09. 1994) піша: *“11 чэрвеня 1943 года група партызан атрадаў “Барацьба” і ім. Варашылава на х. Баяры Смалоцкия акружаная легіянерамі Арміі Краёвай. З 17-ці партызан удалося выратавацца толькі аднаму. На трупах забітых пакінутая цыдулка: “Так будзе са ўсімі бальшавіцкімі бандытамі”.*

Пра тое, што ў в. Цацкі загінуў партызан (**Забалотнікаў Міхаіл Іванавіч**) маюцца звесткі ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, а аб смерці 5 партызан каля в. Баяры 12 траўня 1943 года, пра што піша Ў.І. Ермаловіч, у архіве звестак не выяўлена. Няма звестак і пра загінуўшых 16-ці (17-ці) партызанах 11 чэрвеня 1943 года каля в. Баяры Смалоцкія. Атрад страціў 9 партызан, але гэта здарылася 26 чэрвеня 1943 года ля в. Пацукі.

Нацягнутыя адносіны перайшлі ў узброеныя сутычкі. Галоўная прычына - нашумелая на ўвесь свет катыньская трагедыя, і, як вынік, разрыў дыпламатычных адносін паміж СССР і польскім урадам Сікорскага. Дарэчы, у заходніх абласцях Беларусі тады не ўсе паверылі паведамленням нямецкай і пранямецкай прэсы аб трагедыі ў Катыні. Многія, у тым ліку і акаўцы, лічылі, што гэта чарговая фашысцкая правакацыя. Тым не менш, прорва паміж савецкімі партызанамі і легіянерамі Армііі Краёвай у той час значна павялічылася. Камандаванне атрада, выконваючы дырэктыву ЦК КП(б)Б аб знішчэнні буржуазных польскіх фармаванняў на тэрыторыі Заходняй Беларусі, вырашыла наладзіць легіянерам Арміі Краёвай засаду. Днём 29 чэрвеня 62 партызаны атрада выйшлі з лагера, увечар падышлі да могілкаў ля в. Пацукі. Успамінае І.М.Касмач: *“Пачаўся праліўны дождж. Каля могілкаў в. Пацукі за каменнай агароджай заселі легіянеры Арміі Краёвай. Заўважыўшы нас, адзін з іх крыкнуў: “Колька!”* Партызаны вырашылі, што з-за агароджы хтосьці з сваіх кліча Белякова М.М. - камісара атрада. Легіянеры далі магчымасць партызанам выйсці з хмызняка на адкрытую мясцовасць і там навязалі бой. Пасля бою партызаны, вяртаючыся ў размяшчэнне лагера, на беразе Нёмана не далічыліся дзевяцярых чалавек. Частка партызан пад камандаваннем І. Касмача вярнуліся на месца бою і пахавала загінуўшых ля в. Пацукі. Па ўспамінах Касмача І.М, планавалася засада не толькі сіламі нашага атрада, а і з удзелам іншых атрадаў, але пайшлі толькі варашылаўцы. Наперадзе атрада прайшла выведка. Легіянеры АК прапусцілі выведку, а па атрадзе адкрылі агонь. Згодна з данясеннем ў БШПР, у баі 29 чэрвеня загінула 27 легіянераў Арміі Краёвай. У гэтым баі цяжка паранены Рыжкоў Мікалай - з адкрытым пераломам нагі прайшоў ад в. Пацукі да размяшчэння лагера і назаўжды застаўся інвалідам. Па яго словах, будучы параненым, забіў 4-х легіянераў.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

## *Хрышчаны ў Лідзе*

***Пятро Бітэль***

# ПРАЗ ЦЕРНІ І ЗАВАЛЫ...

***Пятро Бітэль (Пётр Іванавіч) - беларускі святар, паэт і перакладчык. Нарадзіўся 19 чэрвеня 1912 года ў мястэчку Радунь Лідскага павету. Хрышчаны ў Лідскім Свята-Міхайлаўскім праваслаўным саборы. Скончыў Беларускую Віленскую настаўніцкую семінарыю (1931), Менскі педінстытут (1970). У 1931-39 настаўнічаў. У 1944 вывезены ў Германію. Вызвалены ў 1945, служыў у Чырвонай Арміі. У 1946-47 працаваў настаўнікам, у 1947 звольнены з настаўніцкай працы. Стаў праваслаўным святаром. У 1950 арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў. Зняволенне адбываў у Кемераўскай вобласці, Омску і Джэзказгане. У 1956 г. вызвалены. Да 1963 года служыў у царкве. У 1963-74 зноў настаўнічаў. Рэабілітаваны ў 1978 г.***

***Друкаваўся з 1929 г. у часопісе "Шлях моладзі" пад псеўданімам Леанід з-пад Вішнева. Аўтар паэм "Замкі і людзі" (1968), "Сказанне пра Апанаса Берасцейскага" (1984). Пераклаў на беларускую мову творы А. Міцкевіча ("Пан Тадэвуш", "Конрад Валенрод", "Гражына", "Дзяды", "Крымскія санеты"), польскамоўныя паэмы і п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча, аповесць Ю. І. Крашэўскага "Хата за вёскай", (1989), паасобныя творы М. Канапніцкай, Б. Пруса, Ю. Славацкага, Г. Сянкевіча, М. Лермантава, А. Пушкіна, І. Франко, Т. Шаўчэнкі, Б. Брэхта, Ё. В. Гётэ, Ф. Шылера і інш. Рукапіс перакладу паэмы "Пан Тадэвуш" зроблены ў лагеры на паперы з мяшкоў з-пад цэменту, захоўваецца ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры.***

***Памёр 18 кастрычніка 1991 года.***

Мае прадзеды, дзяды і бацькі – сяляне Ашмянскага павету Віленскай губерні. Маці родам з сяла Зноскі Гальшанскай воласці, бацька з вёскі Люташ Вішнеўскай воласці. Незайздросны быў іхні лёс. Прадзеды былі прыгоннымі графаў Сапегаў і Храптовічаў, дзяды жылі на бядняцкіх гаспадарках, бацькі на нейкі час адарваліся ад вёскі, аднак жыццё сваё закончылі ў ёй.

Маці, круглая сірата з 9-ці год. Жыла пры старэйшых братах пастушкай, нянькай, а падросшы, служанкай у бацькоў вядомага мастака **Фердынанда Рушчыца** і, нарэшце, у начальніка вішнеўскай пошты.

Бацька, сын прымака, наймалодшы ў вялікай сям'і, таксама рана пакінуў родную хату. Закончыўшы народнае вучылішча, пасля блуканняў па розных часовых работах, уладкаваўся паштальёнам у вішнеўскім паштовым аддзеле. Тут і пазнаёміўся са сваёй будучай спадарожніцай. У пачатку 1911 года яго перавялі на тое ж становішча ў мястэчка Радунь Гарадзенскай губерні (цяпер гэта Воранаўскі раён), там бацькі мае пабраліся, там праз год нарадзіўся я. **Хрысцілі мяне ў Лідскім праваслаўным саборы і ў метрыцы запісалі дату нараджэння 6 чэрвеня (старога стылю) 1912 года.**

Першыя мае прасвятленні памяці і цьмяныя ўспаміны – натоўпы незнаёмых людзей, цягнікі, гудкі паравозаў, нейкія вялікія будыніны. Маці трымае мяне моцна за руку, каб не згубіць у мітуслівым людскім зборышчы. Мой небагаты, яшчэ каравы лексікон папоўніўся новымі, хоць не цалкам усвядомленымі словамі: *вайна, бежанцы,*



*А Бярэзін. Партрэт П. Бітэля, аловак, 2001 г.*

*эшалон, станцыя, багаж...* Мы ўцякаем ад наступу немцаў у глыб Расіі. Запомнілася назва нашага даўжэйшага прыпынку – горад Калуга. Там знайшоў нас бацька, які эвакуяваўся са сваёй поштай пазней за нас. Прыпамінаю ягоную

форменную шапку з нейкім гербам і цёмны кіцель з бліскучымі гузікамі. На той час, пасля здачы адпаведных экзаменаў, бацька быў у чыне паштова-тэлеграфнага чыноўніка.

А пазней чаргаваліся гарады выгнання: Масква, Чарапавец, Белазерск і нарэшце Бабаева (на Паўночна-заходняй чыгунцы, дзе над уваходам у вакзальны будынак віднела вялікая шыльда "До Петрограда 329 вёрст". Спыніліся тут у пачатку 1919 года, па накіраванні савецкіх улад, і бацька пачаў працаваць намеснікам начальніка паштова-тэлеграфнай канторы. А да гэтага часу быў начальнікам паштовага аддзялення, тэлеграфістам... прыпамінаецца, як у 1917 годзе ў паштовым аддзяленні Сухач Белазерскага ўезда, дзе мы часова жылі, знялі са сцяны партрэты цара і царыцы і абраз Хрыста і павесілі партрэты Леніна і Троцкага.

Вярнуліся на радзіму, якая аказалася ў межах новаўтворанай польскай дзяржавы, у канцы 1921 года. Спыніліся ў старой дзедаўскай хаце дзе ўжо жыла сям'я аднавяскоўцаў-пагарэльцаў з пяці чалавек. Прыйшлося жыць разам у невымоўнай цеснаце і зносіць небывалую галечу. Польскія ўлады бацьку на працу па яго спецыяльнасці не прынялі, спробы ўладкавацца на якую-небудзь іншую дзяржаўную працу не далі выніку, так і засталіся мы на гаспадарцы (тры дзесяціны задзірванелай зямлі, без аніякага інвентару). З цяжкасцямі нажылі бацькі дрэнную карову і праз год – каня.

У Расіі закончыў я тры класы народнай школы, тут пайшоў у польскую, так званую "паўшэхную". Адразу было вучыцца нялёгка – я не разумеў па-польску ні слова. Але з часам асіліў мову і пачаў праяўляць поспехі. Школьны кіраўнік пераканаў майго бацьку, што мяне варта вучыць далей.

За дваццаць кіламетраў ад нас у сяле Баруны дзейнічала нядаўна адчыненая (спярша беларуская, а ў мой час ужо польская) настаўніцкая семінарыя. На ёй спыніўся наш выбар. Аднак за вучобу там трэба было плаціць, дый немалыя грошы каштавала ўтрыманне ў інтарнаце. Рызыкнулі, разлічваючы на стыпендыю, якіх, як мы даведаліся, замацоўвалася 2-3 на клас. Прыёмныя экзамены здаў на падрыхтоўчы курс, і стыпендыю трэба было зарабіць на працягу года добрымі поспехамі. Бацькі ўладкавалі мяне на кватэру да сваякоў на хутар за паўтара кіламетры ад мястэчка.

Жыў я там у жудасных умовах – маленькая ў два акенцы хаціна пасярод чыстага поля, без сяней і без падлогі; апроч мяне пяць чалавек сям'і (трое дарослых і двое дзяцей 4 і 6 гадоў) пераносілі тут холад і нястачы. У хаце пад печчу зімавалі куры, за печчу на катуху з бульбай раскладваў я на ноч свой тонкі сяннічок; займацца зададзенымі ўрокамі было немагчыма – у гаспадароў не было лямпы, вечарам гарэў куравы начнічок або лучына. Тут, як ніколі дагэтуль, я пазнаў і сцюжу, і недаяданне і нарэшце апаршывеў струпамі кароcты і быў адпраўлены дамоў на некалькі тыдняў на лячэнне. Вярнуўшыся, мусіў даганяць прапушчанае, дык з мізэрнымі адзнакамі закончыў той курс падрыхтоўчы, які па праграме прыраўноўваўся да сёмага класа звычайнай школы. З кандыдата перавялі мяне ў гурт паўнапраўных семінарыстаў, на першы курс. Трэба зазначыць, што ў першы год маёй барунскай вучобы (1925/26 навучальны год) маімі настаўнікамі былі апроч іншых **Тамаш і Марыя Багушэвічы** – сын і нясестка класіка нашай літаратуры Францішка Багушэвіча. Ён вёў урокі ручной працы і малявання, яна выкладала польскую мову і літаратуру. Дзякуючы ёй я прыахвоціўся да добрых кніжак і пачаў рабіць нясмелыя спробы ўласнага пяра, вядома, папольску.

Беларуская мова выкладалася ў нас як прадмет, аднак адносіны да яе былі даволі абыякавыя. У Барунах выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры быў настаўнік Дамарадскі, а ў Вільні – Янчуковіч.

З пачаткам новага 1926/27 навучальнага года мяне прынялі ў інтарнат, але плаціць па 40 злотых у месяц я не мог, дык атрымаў толькі кватэру, а харчавацца прыходзілася сухім пайком, як тады ў нас называлася, "з куфэрка" (прывезенай з дому скваркай і хлебам). Часам удавалася з'есці міску супу, пакінутага сябрамі ў інтарнацкай сталовай. Стыпендыю атрымаў толькі на другім курсе, і захавалася яна за мной і праз трэці курс.

Барунская семінарыя далей трэцяга курса не развілася, на апошнія два курсы накіроўвалі нас у Віленскую настаўніцкую семінарыю імя Томаша Зана.

Чацвёрты курс у Вільні прыйшлося пражыць без стыпендыі. Жыў на прыватнай кватэры, займаўся пасля ўрокаў рэпетытарствам – рыхтаваў тугалобых мяшчанскіх нашчадкаў да паступлення ў гімназію. Пяты, апошні, курс закончыў пры дапамозе стыпендыі. На выдадзеным мне ў 1931 годзе дыпломе адзначана, што на маю адукацыю польская дзяржава выдаткавала 1209 злотых, за што я павінен адпрацаваць тры гады.

Год нашага выпуску (1931) быў годам еўрапейскага крызісу, і Польшча захлыналася ад унутраных клопатаў – банкротстваў, беспрацоўя, інфляцыі і да т.п. Дзяржава эканоміла на ўсім і ў першую чаргу скарачала штаты. Уладкавацца на працу не было магчымасці, прыйшлося заставацца дома на бядняцкай бацькавай гаспадарцы. За 1931/32 і 1932/33 навучальныя гады ўдалося папрацаваць агулам толькі чатыры месяцы ў некалькіх школах Нясвіжскага павету

на замяшчэнні захварэўшых настаўнікаў.

17 верасня 1933 года я быў паклікаsuccessfully адбываць вайсковую павіннасць. Служыў у так званай школе падхаронжых (школа малодшых афіцэраў запасу) у горадзе Замброве Беластоцкага ваяводства. Дэмабілізаваўся роўна праз год у званні плютановага (старшы сяржант) падхаронжага.

Вярнуўшыся дахаты, працягваў пягнуць лямку беспацоўнага, і толькі ў лютым 1935 года падпісаў кантракт на працу да канца вучэбнага года **ў Юшавіцкай школе Нясвіжскага павету**. Летнія канікулы прайшлі без зарплаты. Накіраванне на штатную працу атрымаў 1 верасня 1935 года ў вёску **Даўгінава Турэцкай гміны** (цяпер гэта Карэліцкі раён) Стаў загадчыкам пачатковай школы.

Умовы працы былі тут не з лёгкіх. Школьны будынак – старэнькая хаціна ў канцы сяла пры дарозе над ровам эразійнага паходжання. Унутры – класны пакой, маленькая каморка для настаўніка, ці так званая канцылярыя, і цесныя сенцы з вешалкамі для дзіцячай вопраткі. Працаваў адзін, вёў чатыры класы, злучаныя па два. З рання вучыліся 3-ці і 4-ты класы, пасля кароткага перапынку – першы з другім. Усіх вучняў было 75-85. кватаравалі ў сялянскіх хатах.

Першую зіму пражылі мы ў невялікай хатцы разам з сям'ёй гаспадароў, дзе было трое дзяцей. (Гэта была сям'я сучаснага беларускага **пісьменніка Алеся Бажко**). Тут жа нарадзілася ў нас 29 верасня 1935 года другая дачка, а потым вельмі цяжка хварэла мая жонка Ніна Пятроўна. І ўсё ж чатыры гады, пражытыя ў Даўгінаве, я магу залічыць да лепшых у маім жыцці. Была маладосць, запал да працы, жаданне здзейсніць нешта незвычайнае, было шчырае сяброўства. Настаўнікі суседніх школ, маладыя, усе амаль аднолькавага ўзросту, жылі вельмі дружна, наведвалі адны адных, часта збіраліся ў якойнебудзь гасціннай сям'і, а пераважна ў Ярэмічах у настаўнікаў Зофіі і Карла Берначыкаў. Летам купаліся ў Нёмане, загаралі, займаліся спартыўнымі гульнямі, плавалі на байдарках. Зімой наладжвалі вечары, ставілі сіламі вясковай моладзі спектаклі, прытым часта беларускія п'есы і вадэвілі.

Мая школа спачатку была беларускапольская. У першым класе ўрокі праходзілі выключна на беларускай мове, пісалі лацінскім алфавітам, лемантар і першая кніга для чытання былі надрукаваны лацінкай. У наступных класах трэба было пераходзіць на польскую мову, беларуская станавілася толькі асобным прадметам. Але ў 1937-38 навучальным годдзе загадам вышэйшай школьнай улады беларуская мова цалкам адмянялася, выкладанне трэба было весці выключна на польскай мове.

За час працы ў гэтай школе я здаў абавязковы, так званы другі кваліфікацыйны экзамен, які даваў мне званне сталага (дагэтуль лічыўся тымчасовым) настаўніка. Гэта быў вельмі цяжкі і адказны экзамен, на які прыязджала ў школу спецыяльная дзяржаўная камісія і дэтальна правярала ўсю працу настаўніка. Правал гэтага экзамена азначаў непрыдатнасць педагога да даручанай яму працы і вынікам бывала звальненне з займанай пасады. Пасля гэтага экзамену я паступіў завочна на Вышэйшыя настаўніцкія трохгадовыя курсы ў Вільні на гістарычнафілалагічны аддзел. У гэты ж перыяд кожнае лета адбываў месячныя вайскова-вучэбныя зборы.



***Пятро Іванавіч і Ніна Пятроўна Бітэлі з дзецьмі 1.08.1939 г.***

У канцы жніўня 1939 года я закончыў вучобу на Вышэйшых курсах, а 1 верасня мяне мабілізавалі на вайну. Апынуўся ў Баранавічах у 76-м пяхотным палку ў званні падпаручніка (лейтэнант). Эшалон, у якім мы ехалі ў бок фронту, быў збамбардзіраваны нямецкай авіяцыяй; астаткі разбітых вайсковых частак пачалі адступаць з баямі на ўсход. Недалёка ад Берасця мы аказаліся паміж дзвюма варожымі арміямі – з захаду нямецкай, з усходу савецкай, якая перайшла мяжу 17 верасня. У нашай зборнай "рознашэрснай" частцы было каля 200 чалавек шараговага складу і каля паўсотні маладых афіцэраў запасу (гэта былі пераважна настаўнікі, інтэлігенцыя).

Камандзір гэтага зборнага палка маёр Раў аб'явіў уночы ў нейкай глухой пакінутай жыхарамі вёсцы, што ён не пярэчыць тым, якія хочуць пакінуць злучэнне і дабірацца дамоў. Маладых афіцэраў сабраў у адну з хат і загадаў пісаць для жаўнераў дэмабілізацыйныя даведкі. Пасля таго загадаў мне сабраць адыходзячых і правесці іх да шашы. Дарогу паказаў мне па штабной карце і загадаў вярнуцца на гэтае самае месца... "Мы, - сказаў ён, - будзем прабірацца ў паўднёвым кірунку, а цябе будзе тут чакаць матацыкліст, і ты нас дагоніш". Я правёў жаўнераў, як мне было загадана, па дарозе, якая цягнулася праз балота і хмызнякі кіламетраў 10, але калі вярнуўся, то не застаў абяцанага матацыкліста, а толькі наблытаныя ў розных кірунках сляды. Пасля розных прыгод я дабраўся да Берасця і стаў ваеннапалонным савецкай арміі.

У Берэсці на вакзале і побач з ім сабралася мноства былых польскіх вайскоўцаў розных спецыяльнасцяў. Усім нам абяцалі, што адправяць чыгункай дамоў. Уночы прыбыло некалькі таварных цягнікоў, у якія было нам загадана грузіцца. Набілі нас у неабсталяваныя вагоны па 80 чалавек, аб'явіўшы, што давязуць да Баранавіч, там выдадуць адпаведныя дакументы і дазволяць "удалиться по домам". Аднак не высадзілі нас ні ў Баранавічах, ні ў Стоўбцах. У Негарэлым перагналі ў вагоны савецкай чыгункі і павезлі далей. Ехалі мы ў такой цеснаце, што легчы на падлозе было немагчыма, можна было толькі або сядзець, падкурчыўшы ногі, або стаяць. Так мінулі мы Менск, Оршу, Смаленск, Маскву, Горкі і Арзамас.

Кармілі нас выключна салёнай траской і сухарамі. Рассунуць дзверы вагона, крыкнуць "Разойдись!" і ўкінуць на падлогу з вялікага таза кучу парэзанай на кавалкі рыбы і зачыняць зноў на завалу. Праз некаторы час з'явяцца зноў, размахаюць салдацкую посцілку і праз расчыненыя дзверы ўваляць адпаведную кучу сухароў. Як мы дзялілі і спажывалі гэты харч, нікога з іх не цікавіла. Нікога не кранала і тое, што мы смяртэльна пакутвалі ад смагі. На прыпынках, падлезшы да закратаванага акна і прасунуўшы 2-3 салдацкія кацялкі (больш у нашым вагоне не аказалася), мы вымольвалі ў заўважаных паблізу людзей падаць нам вады. Найчасцей людзі не адмаўлялі нам у гэтай паслузе. Але ж цягнік быў вельмі вялікі..., і ўрэшце, што значыла тая невялікая колькасць ажыўляльнай вадкасці на вагон засмяглага народу! Многія з нас пачалі хварэць на нястраўнасць, у вагоне зрабілася брудна і смуродна, з'явіліся небывалай велічыні ў незлічонай колькасці вошы...

Калі-нікалі на прыпынках загадвалі нам выходзіць з вагонаў і апраўляцца тут жа паблізу паміж рэйкаў пад строгім наглядам ўзброеных вінтоўкамі са штыкамі чырвонаармецаў і перад вачыма ўсяго народу.

Дзесьці за Арзамасам на раз'ездзе ці паўстанку Шоніха зрабілі нам уночы допыт, а наступнага дня больш паловы везеных у цягніку зшыхтавалі ў даўжэзную калону і пагналі пад канвоем у невядомым нам кірунку. І ў той жа дзень пад вечар дапоўнілі нашы вагоны прыгнанымі з нейкага, як нам казалі, манастыра, раней размешчанымі там польскімі ваеннапалоннымі і аб'явілі, што павязуць нас дамоў. Праўда, паехалі мы ў зваротным кірунку ў непазамыканых вагонах і без канвою. У вагонах стала значна свабадней... Дамоў дабраўся з вялікім і цяжкасцямі ў пачатку лістапада брудным, аброслым, вашывым дзедам, якога сям'я не адразу пазнала.

Чым кіравался нашы "телохранители" пры размеркаванні нас на дзве групы, з якіх адну вывелі з вагонаў і кудысьці пагналі, а другой дазволілі дабірацца дамоў, разгадаць цяжка.

Вярнуўшыся з гэтай прымусовай вандроўкі, я ў хуткім часе ўладкаваўся на настаўніцкую працу ў Вішнеўскую сямігодку, а пасля зімовай настаўніцкай канферэнцыі мяне перавялі ў **горад Валожын** на пасаду дырэктара школы № 2, створанай на базе дзвюх былых сямігодак (польскай і яўрэйскай) і былой сярэдняй гандлёвай школы.

Працаваць тут было вельмі складана: не ўсе настаўнікі валодалі рускай і беларускай мовамі, не вельмі разумела гэтыя мовы і большасць вучняў, а ў сувязі з дэградацыяй старэйшых класаў на два гады назад (сёмы клас стаў пятым, такі быў загад наркама асветы), стварылася шмат паралельных класаў з вялікай колькасцю перарosткаў.

Апроч таго, з пачаткам лютага 1940 года пачаліся арышты настаўнікаў нашай школы. Амаль штотыдзень знікаў бясследна нехта з прадметнікаў, і прыходзілася мяняць, ламаць расклад заняткаў. Так за люты-красавік было арыштавана 6 настаўнікаў з 29-ці, сярод якіх была і адна жанчына (Капыловіч).

Надзвычай прывольна адчувала сябе ў нашай школе прысланая з Магілёўшчыны піянерважатая, якая прабавала кіраваць нават дырэктарам. Аднойчы прыбегшы ў школу раней за ўсіх, яна ўбачыла ў дзевятым класе на падлозе вырваны з рамы з праколатымі пяром вачыма папяровы партрэт Сталіна (пратэст вучняў на рэпрэсіі супраць настаўнікаў). Як і можна было спадзявацца, яна ўзняла небывалы вэрхал і, схапіўшы злашчасны партрэт, памчалася ў аддзел НКУС. У выніку былі арыштаваны ўсе вучні гэтага класа (6 дзяўчынак і 5 хлопцаў), і да сягоннявшняга дня ніхто не ведае, што з імі сталася. Пасля гэтага выпадку кожны дзень чакаў чаргі і дырэктар, але абышлося.

У канцы красавіка прыехаў новы дырэктар школы, выпускнік Магілёўскага педінстытута, а

мяне перавялі ў райана на пасаду інспектара-метадыста.

З прыходам немцаў цывільную ўладу ў раёне захапілі палякі – рэшткі былой адміністрацыі панскай Польшчы – і пачалі выдаваць фашыстам усіх, хто займаў якую-небудзь пасаду пры савецкай уладзе. Прыйшлося больш паўгода жыць у падполлі.

У пачатку 1942 года з'явіўся новы начальнік раёна, беларус **Кастусь Касяк**. Ён хутка суцішыў не ў меру руплівых польска-нямецкіх адміністратараў, перавёў справаводства на беларускую мову, загадаў адкрываць беларускія школы, заступіўся за загнаных беларусаў. Мяне з сям'ёй вярнулі ў Валожын, далі працу ў школе.

Каб засцерагчы моладзь ад вывазу ў Германію, стараннем Касяка і некаторых жыхароў райцэнтра была створана ў Валожыне з дазволу акупацыйнах уладаў сярэдняя гандлёвая школа, у якую на першы і другі курс запісалася 120 чалавек з незакончанай сярэдняй адукацыяй. Мне было даручана выкладаць у гэтай школе беларускую мову і літаратуру ды геаграфію.

У чэрвені 1944 года мяне разам з сям'ёй вывезлі ў Германію па падазрэнні ў сувязях з партызанамі. Недалёка ад Варшавы на станцыі Пясэчна мы трапілі ў чыгуначную аварыю – на наш эшалон, які стаяў, наляцеў таварны цягнік. Выкарыстаўшы створанае такім чынам замяшанне, мы пры дапамозе польскіх чыгуначнікаў ускочылі ў пасажырскі цягнік і дабраліся да Варшавы. У нас не было ніякіх рэчаў, ніякіх дакументаў і ні капейкі грошай. Я звярнуўся на вакзале ў польскі Чырвоны Крыж, які скіраваў нас у беларускі нацыянальны камітэт, загадчыкам якога быў **Шчорс**. Землякі прынялі нас вельмі спачувальна, забяспечылі неабходнымі дакументамі, дапоўнілі наш гардэроб, далі талоны ў сталовую на абеды і праз некаторы час (у Варшаве рыхтавалася паўстанне) накіравалі ў горад Кіслін (Кашалін) у беларускую школу.

Там засталі мы 75 беларускіх дзяцей ад 7 да 14 гадоў, вывезеных з Парыцкага, Акцябрскага і Калінкавіцкага раёнаў. Іх доўга вазілі па Прусіі і Памераніі, трымалі пад голым небам і ў пустых стадолах, кармілі абы-як і абы-калі. Усе яны былі ў тых вопратках, у якіх фашысты вывезлі іх з дому, за доўгі час блуканняў ператвораных у жудасныя брудныя лахманы. Палова з іх была ў карослівых струпах, многія тэмпературылі, усе кашлялі. Пра нейкую там школу і вучобу не магло быць і гаворкі, дый кіраўнікі горада, закватараваўшы нас у былым памяшканні паліцыі, заявілі, што дарма карміць нас не збіраюцца, і таму ўсе павінны працаваць.

У першую чаргу прыйшлося здабываць для абяздоленай дзетвары вопратку, абутак, медыкаменты, што ў перадапошні год вайны было справай нялёгкай. Выручала мая, хоць на той час і не вельмі бліскучая, нямецкая мова і вялікае жаданне дапамагчы дзецям-сіротам. А калі дзетвара крыху акрыяла, прыйшлося ўладкоўваць яе на працу. Такім чынам амаль усе дзеці, за выключэннем некалькіх найменшых, пачалі зарабляць свой нявольніцкі хлеб (хатняй прыслугай, у крамах, цырульнях, хлебапякарнях і розных дробных прадпрыемствах), а, адпрацаваўшы вызначаныя 8-10 гадзін, на ноч вярталіся у лагер. Большасць прыходзіла на абед, які быў нам забяспечаны ў адной з гарадскіх сталовак. Нашым з жонкай абавязкам было сачыць за паводзінамі, здароўем і захаваннем рэжыму лагерных насельнікаў. Наша старэйшая дачка таксама працавала – была занята ў харчовай краме ўпакоўшчыцай. Ёй было тады 13 гадоў.

Дзеці вельмі сумавалі па сваіх родных і часта плакалі, асабліва дзяўчаткі. Наша выхаваўчая праца была вельмі цяжкая і складаная. Трэба было суцяшаць дзяцей, зацікавіць іх якім-небудзь заняткам ці апавяданнем, а ў нас не было ніякіх дапаможнікаў, ніводнай кніжкі, ні нават газеты на сваёй мове.

На каляды, калі немцы ладзілі сваім дзецям ёлкі, пастараліся ўсцешыць сваіх і мы. Трохі купілі, трохі раздабылі, а трохі змайстравалі цацак і таксама наладзілі свята, на якое з'явіліся "нашы апекуны" немцы. Дзяўчаткі праспявалі некалькі беларускіх народных песень, пахадзілі ў карагодзе, прачыталі некалькі вершаў, між іншым, адзін з большых хлапчукоў прачытаў верш Я. Купалы "Я ад вас далёка"...

Нашы выступленні немцам вельмі спадабаліся, хоць яны нашай мовы зусім не разумелі (з большага тлумачыў ім сэнс я).

Мы ведалі, што фронт набліжаецца, і жылі надзеяй, што хутка будзем вызвалены і вернемся дамоў. Калі пачаўся бой на падступах да горада, мне было загадана весці дзяцей на вакзал, грузіцца ў цягнік і кіравацца на захад. Сярод агульнай панікі нам удалося ўсёй грамадой схавацца ў сутарэннях вялікага пакінутага жыхарамі дома і дачакацца прыходу савецкіх салдат.

Ружовыя надзеі, якія звязвалі дзеці з прыходам "сваіх", не вельмі спраўдзіліся. Свае сваіх, нават дзяцей, за сваіх не прызнавалі і не вельмі з імі цырымоніліся. Адну з нашых дзяўчынак, чатырнаццацігадовую Алену С. заманілі ў пусты пакой, наздзекаваліся з яе і забілі, пакрыўшы лагер глыбокай жалобай.

Хлапчукі, якім горад быў ужо добра знаёмы, раздабылі ручную каламажку і з пахавальнага магазіна (хоць у горадзе ішла яшчэ страляніна) прыцягнулі прыгожую труну. Пахавалі дзяўчынку ў скверыку насупраць шматпавярховага дома.

Можна было вяртацца дамоў, толькі пы-

танне стаяла: як? На чым? Нейкі высокага рангу ваенны начальнік (пагонаў пад маскхалатам не было відаць), да якога я звярнуўся наконт дапамогі, ветліва выслухаў мяне і прыхільна аднёсся да маёй просьбы. Па яго загаду салдаты прыгналі нам чатыры параконныя падводы (адабраўшы ад бежанцаў-немцаў, якіх дагнаў фронт). На іх пагрузіліся меншыя дзеці ды той небагаты скарбд і харч, якім змаглі мы забяспечыцца ў падвалах пакінутых дамоў. Большыя дзеці і мы, дарослыя, пайшлі побач пехатой. Пасоўваліся мы ва ўсходнім кірунку, насустрач вайсковай сіле, што няспыннымі калонамі плыла з лозунгам: "Даешь Берлин!".

Нельга ўтаіць, што сустрэчныя салдатыземлякі не вельмі лічыліся з тым , што ў нашым абозе ехалі дамоў абяздоленыя дзеці. У хуткім часе адабралі ў нас адну павозку, замянілі коней на такіх, што ледзь цягнулі ногі, а нарэшце на адной стаянцы ўночы залезлі ў вазы і зрабавалі няхітрыя дзіцячыя трафеі і прыхаваныя на дарогу прадукты. Раніцай узняўся сярод дзяцей вялікі лямант, галоўнае таму, што пакрыўдзілі свае, якіх яны так доўга чакалі і так горача віталі.

Некалькі разоў за час гэтага падарожжа прыставалі да мяне не ў меру пільныя служакі то каб арыштаваць, як здрадніка, то мабілізаваць у армію, а то і, наогул, расстраляць, але дзеці за кожным разам акружалі мяне шчыльнай грамадой і з вялікім лямантам адваёўвалі. Так праз некалькі сутак дабраліся мы да польскага горада Торуня (такі давалі нам кірунак), дзе знаходзіўся лагер так званых "перемещённых лиц". Памясцілі нас у былой казарме побач з вялікай колькасцю цывільных асоб, вызваленых з нямецкага палону.

Неўзабаве пачалі далучаць да майго дзіцячага калектыву іншых бяздомных савецкіх дзяцей – шукальнікаў прыгод, вылаўленых па цягніках, што няспыннай плынню ішлі на захад. Гэта былі падлеткі, пераважна хлопцы, якія ехалі "в Берлин за трофеями". Праз пару дзён колькасць маіх падапечных падвоілася. Новапрыбылыя не прызнавалі ніякай дысцыпліны і ніякага начальства. Яны пачалі тэрарызаваць і дэмаралізаваць маіх спакойных беларускіх дзяцей. Давялося перажыць надзвычай цяжкія хвіліны – цяжка было ўтаймаваць разбэшчаных падлеткаў, многія з якіх мелі зброю і нават прабавалі пускаць яе ў ход. Я стараўся зацікавіць іх гутаркамі, гульнямі, рознымі заняткамі, але з такой колькасцю адзічэлага юнацтва цяжка было нам справіцца. Лагернае начальства патрабавала дысцыпліны. Але ніхто не аказваў нам дапамогі, а нават прыдуркаваты старшына арыштаваў мяне і пасадзіў у падвал, але хутка (праз паўдня) павінен быў мяне адпусціць, бо дзетвара бунтавалася, і ніхто не мог даць ёй рады. Такое жыццё працягвалася каля двух тыдняў, але нарэшце мяне мабілізавалі ў армію (2 траўня 1945 года), а дзяцей пагрузілі ў цягнік і пад узмоцненым канвоем павезлі на ўсход. Мая сям'я самастойна з вялікімі цяжкасцямі і перашкодамі дабралася дамоў.

Служыў я ў 206-м запасным палку шарагова спярша ў Шчэціне, а пасля ва Ўроцлаве да 1 студзеня 1946 года. На гэты раз у баях не ўдзельнічаў, але нёс вартаўнічую службу пры розных аб'ектах, а пасля служыў у так званым муззвязе – граў на скрыпцы.

Пасля дэмабілізацыі, вярнуўшыся дамоў, не адразу змог уладкавацца на працу. У раёне валадарылі цалкам новыя людзі, розныя выскачкі і прыстасаванцы, якія мяне не зналі або не хацелі заўважаць. Тых, з якімі я ў свой час трымаў кантакты, не аказалася на месцы, а то і ў жывых, і новая адміністрацыя сустрэла мяне, мякка кажучы, з недаверам і засцярогай. Пасля доўгай валакіты далі мне працу не ў раённым цэнтры, дзе я жыў і працаваў да самай вайны і пры акупацыі і дзе меў кватэру, а ў вёсцы Забрэззе; тут я выкладаў беларускую мову і літаратуру ды нямецкую мову.

Пасляваеннае жыццё было вельмі нялёгкім, і асабліва невыносным аказалася яно для маёй сям'і. Цясніліся мы з другой сям'ёй у невялічкай вясковай хаціне, зарплата мая была 800 рублёў (цана 1 пуда жыта на рынку), прадукты, якіх было заўсёды недахоп, прадаваліся па картках. У гэты час наша старэйшая дачка захварэла на туберкулёз каленнага сустава і некаторы час не магла зусім хадзіць, а затым пайшла ў школу на мыліцах. У такі неспрыяльны час нарадзіўся ў нас сын, якому не было малака (на карткі давалі толькі хлеб і ячныя крупы). І вось тады, вясной 1947 года, мяне выклікалі ў райана і аб'явілі, што звальняюць мяне з настаўніцкай працы як чалавека, якому савецкія ўлады не давяраюць, які не можа выхоўваць маладое пакаленне. І, здзекуючыся, загадалі напісаць заяву аб звальненні па ўласным жаданні. Так адным махам аказаўся я пазбаўленым зарплаты, харчовых картак і кватэры, а ў сям'і было ўжо нас 5 чалавек. Жонка з-за немаўляці працаваць не магла. Спрабаваў я кінуцца ў пошуках працы ў розныя бакі і ў розныя інстанцыі, але нідзе не хацелі мяне прыняць.

Убачыўшы такое маё безвыходнае становішча, мясцовы святар, які жыў па суседстве, параіў мне пайсці ў святары. Гэта прапанова здалася мне спачатку такой недарэчнай, што я яе катэгарычна адкінуў. Аднак пазней, змушаны жыццёвымі абставінамі, пачаў задумвацца і нарэшце паехаў у Менск да мітрапаліта Піцірыма. Гэта, аказалася, быў чалавек вялікай душы, ён зразумеў мяне. Вельмі ветліва прыняў і накіраваў на падрыхтоўчыя курсы ў Жыровіцкі манастыр, дзе я прайшоў самыя неабходныя азы тэорыі і пры дапамозе манахаў найпрацейшую практыку.

Вучоба працягвалася два месяцы, пасля чаго я атрымаў пасаду.



***Айцец Пятро Бітэль***

Трэба адзначыць, што дагэтуль я амаль зусім не вывучаў рэлігію. У нашай настаўніцкай семінарыі багаслоўе выкладаў рымска-каталіцкі ксёндз. На нашым курсе толькі я і яшчэ два мае калегі былі праваслаўнай веры, на ксяндзоўскіх уроках мы не прысутнічалі, а праваслаўны святар для нашай навучальнай установы не быў прадугледжаны. А пасля заканчэння семінарыі, калі прыйшлося афармляць дыпломы, наш класны кіраўнік аб’явіў нам, што не можа выпісаць нам дыпломаў, бо ў нас няма ацэнак па рэлігійных дысцыплінах. На пытанне, што нам рабіць, ён сказаў : “Звярніцеся да святара, які мае права выкладаць гэты прамет у сярэдняй школе. Ён вас праэкзаменуе за ўвесь курс, дасць вам даведкі, на падставе якіх і будуць аформлены вашы дыпломы”.

Гэта была праблема, якая неспадзявана для нас вырашылася вельмі проста. Сястра аднаго з нас (Міхася Гарбунова з вёскі Літва Маладзечанскага раёна) была замужам за святаром, прэфектам Дзісненскай гімназіі. Мы скамунікаваліся з ім, і ён свайму швагру і нам, ягоным сябрам, выдаў даведкі без экзамену.

Такім чынам новая мая прафесія патрабавала ад мяне шмат намаганняў. Жыццё прымусіла нагнаць тое, што не было зроблена ў адпаведны час.



***Святар а. Пятро з сям’ёй 17.04.1948 г.***

Пасля заканчэння курса і рукапалажэння ў сан іярэя (святара) я атрымаў накіраванне на пасаду настаяцеля царквы ў вёсцы **Міжэвічы Слонімскага раёна.** Здарылася гэта 30 верасня 1947 года. Царква там невялічкая, драўляная, але ўтульная і стараннна дагледжаная. Парафіяне прынялі мяне і маю сям’ю вельмі сардэчна, і хоць гэта быў цяжкі пасляваенны час, акружылі новага святара і яго сям’ю шчырай клапатлівай апекай. Хутка справілі наваселле мы ў новай хаце. Жыццё наладжвалася, я пачаў звыкацца са сваім новым становішчам і новымі абавязкамі, якія стараўся выконваць добрасумленна, паводле статуту.

У студзені 1949 года пастановай мітрапаліта я быў пераведзены ў **Докшыцы Віцебскай вобласці**. Гэта было павышэнне – і адмаўляцца ад яго было нельга.

У новай парафіі ўсё аказалася большага маштабу – і царква, і кватэра. І абсяг дзейнасці. Але сюды я прыехаў ужо нядрэнна падрыхтаваным, і праца была мне цалкам па сіле. Толькі тут я аказаўся на вачах мясцовага начальства, якое амаль з першых дзён пачало рабіць мне адразу дробныя непрыемнасці, а пасля канфіскавала царкоўны дом і выжыла мяне з нанятай кватэры. Прыйшлося перабрацца ў цесную хаціну на ўскрайку горада. Але і тут давялося пажыць не доўга. 24 лістапада 1950 года ўваліліся ў нашу хатку няпрошаныя госці,ператрэслі ўсе нашы шмуткі і паперкі і, хоць нічога крамольнага не знайшлі, вывелі мяне з хаты, загадалі ўзяць рукі назад, не азірацца і ісці, куды загадаюць.

Укінулі мяне ў цесны падвал раённай турмы, дзе пратрымалі больш за суткі, а пасля ўначы, звязаўшы рукі сухім калючым скуратомсупонню, завезлі ў грузавіку на станцыю Парафіянава, а адтуль цягніком у Полацк. Там трымалі мяне ў так званым “боксе” (шафа з акенцам пад столлю) трое сутак. Пасля чаго, зноў жа ўначы, усклаўшы на рукі жалезку, завезлі цягніком у Менск. З вакзала ў турму везлі ў закрытым фургоне (“чорным воране”). У турме абмацалі з ног да галавы (каторы ўжо раз!), а пасля турэмны “цэрбер” з сяржанцкімі пагонамі забраў у мяне папругу і вялікім нажом, лязо якога было не менш за паўметра, абрэзаў усе гузікі; расхрыстаны, трымаючы ў жмені штаны, я апынуўся ў адзіночнай камеры.

У першую ж ноч пачаліся допыты. Ад следчага я даведаўся, што я шпіён, дыверсант, нацыяналіст, што збіраў групу, мэтай якой было адарваць БССР ад Савецкага Саюза, што ў час акупацыі супрацоўнічаў з немцамі і добраахвотна разам з імі ўцякаў у Германію, што схаваўся ад адказнасці за ўсе злачынствы пад святарскую расу і гэтак далей...

Праз месяц са змрочнай адзіночкі перавялі

мяне ў круглую турму, так званую “амерыканку”, якая знаходзіцца ў двары будынка Міністэрства ўнутраных спраў і КДБ. Тут у камерах сядзела па 2-4 чалавекі, між якімі, як я пасля даведаўся, часта знаходзіўся такі, што пасяброўску выпытваў або выслухоўваў аднакамернікаў і, каб заваяваць спагаду ў свайго следчага або проста завербаваны, даносіў пачутае, куды яму загадвалі. З такімі стукачамі прыйшлося пазней сустрэцца не раз і на перасылках, і ў лагерах.

Следства вялося выключна ўначы (ад адбою да пад’ёму), а ўдзень нельга было – пад пільным вокам наглядчыка – зажмурыць вачэй. І толькі калі зняволены, ушчэнт знясілены бяссоннем, валіўся з ног, тады давалі яму адну ноч адпачынку, а пасля зноў выбівалі рознымі спосабамі патрэбныя ім паказанні. А допыты ж вяліся заўсёды ў павышаным тоне з пагрозамі, з бессаромнай лаянкай і частым рукапрыкладствам.

У такіх умовах давялося мне прабыць у менскай следчай турме больш года, і толькі ў снежні 1951 года аб’явілі (без суда), што рашэннем “особого совещания” я пакараны дзесяцігадовым зняволеннем у “исправительно-трудовых лагерях строгого режима”. На наступны пасля гэтага дзень мяне перавялі ў гарадскую турму на вуліцы Валадарскага.

Адгэтуль, пасля тыднёвай адсідкі ў агульнай перапоўненай камеры, мяне разам з вялікай групай такіх, як і я, зняволеных (вядома, уначы) загналі на вакзале ў так званы “сталыпінскі” вагон, які звонку адрозніваецца ад звычайнага пасажырскага хіба толькі кратамі на вокнах, але з’яўляецца турмой на колах. Груба ашукаецца той, хто спадзяецца больш-менш па-людску падарожнічаць у такім вогоне. Язда ў “сталыпіне” – гэта кашмар, якога не прымяняюць, напэўна, і чэрці ў пекле. У купэ на 8 сядзячых месц канваіры набіваюць да 30-ці чалавек. Прыходзіцца стаяць так сціснутым, што нельга паварушыць ні рукой, ні нагой, духата адурманьвае, абяссільвае, людзі трацяць прытомнасць, і некаму ім аказаць дапамогу. Ні крыкі, ні стогны запёртых у гэты катух спачування не выклікаюць.

Так мы даехалі да Масквы, дзе зноў жа ўначы выгналі нас з вагонаў і, набіўшы, як селядцоў, у фургон з надпісам “Хлеб”, павезлі па горадзе. Так трапіў я ў велічэзную турму, якая, паводле чуткі, знаходзілася (і існуе дагэтуль) у цэнтры горада на Чырвонай Прэсні. Заштурхнулі мяне ў вялікую камеру, у якой на двухпавярховых нарах, пад нарамі і побач на падлозе сядзела і ляжала не менш за сотню чалавек. У ноздры і горла ўдарыў кісла-едкі смурод, які спыніў мяне пры самых дзвярах. Памалу вочы прыгледзеліся да паўзмроку.

Шукаючы вачыма месца прыпынку, я пачуў паблізу голас з-пад нар з выразным літоўскім акцэнтам: “Ідзі, друг, сюда, тут ішчо адно места есць, а там фсё занята”. Я паслухаў добрай рады і апынуўся на падлозе пад нарамі каля сцяны побач з пажылым сівым чалавекам. Як пасля аказалася, гэта быў ксёндз з нейкай парафіі з-пад Панявежыса. Прозвішча яго я не запомніў.

Неўзабаве я здагадаўся, чаму месца перад тым, як мне яго запрапанавалі, пуставала: побач стаяла велічная бочка-параша.

А ксёндз, між тым, казаў: “Нічаво, можна прывыкнуць. Тут хоць ляжаш на падлозе, а там далей і стаць няма дзе”. Прыйшлося зміры цца і прывыкаць... а назаўтра зранння блатныя вырвалі ў мяне з-пад галавы клуначак – усё маё на той час багацце, распатрашылі яго і зніклі на верхніх нарах.

У гэтай сталічнай “образцовой” турме, дзе прыйшлося прабыць не менш двух тыдняў, асабліва даліся ў знакі клапы, якіх можна было згортваць жменяй... раздушаныя брудзілі адзежу і выдзялялі едкі смурод. Скаргі начальству на гэтую пошасць не давалі выніку.

Праз дзень нашу вялікую камеру выганялі на прагулку. Прагулачная пляцоўка, абведзеная высокім мурам, знаходзіцца на плоскім даху турмы, куды вядуць доўгія крутыя сходкі. Зняволеных, якія змушаны маршыраваць уздоўж сцен, ніхто не бачыць, і самі яны аглядаюць толькі мураваныя засценкі ды высокае неба.

З Масквы, пасля цяжкога падарожжа ў халодным “цялятніку”, я апынуўся разам з тысячамі іншых таварышаў па нядолі ў Кіраве. Была сярэдзіна зімы, і мы вельмі пакутавалі ў



***Пятро Бітэль (крайні злева) з лагернымі сябрамі, 15 верасня 1954 г.***

неапальваных бараках перасылкі ад невыноснай сцюжы. Тут аднойчы зганялі нас у лазню пад ледзь-ледзь цёплы душ, надзяліўшы кожнага кавалачкам велічынёй са сціральную гумку чорнага смярдзючага мыла.

З Кірава вялікім спецыяльна абсталяваным эшалонам з таварных неабаграваных вагонаў перавезлі нас у Кемераўскую вобласць у мясцовасць Ольжэрас за высокую агароджу з калючага дроту з высокімі драўлянымі вышкамі для ахоўнікаў. У гэтай зоне было больш дзесятка вялікіх аднапавярховых і некалькі двухпавярховых баракаў з закратаванымі вокнамі.

У той жа дзень падзялілі нас на брыгады, замяніўшы наша адзенне на лагерныя бушлаты, целагрэйкі і ватнікі – усё паношанае, зацяганае і часцяком дзіравае з недахопам гузікаў. На ногі далі старыя падшытыя стаптаныя вайлакі. Пасля гэтага аб'явілі кожнаму з нас асабісты нумар. Раздалі белыя латкі і загадалі панашываць іх на целагрэйцы і бушлаце на грудзях насупраць сэрца і на плячах, на ватняй шапцы над ілбом, а таксама на штанах на левай калашыне вышэй калена. Тут жа выбілі кожнаму чорнай фарбай адпаведныя літары і лічбы. Я атрымаў нумар Н-447.

У бараках былі двухпавярховыя нары, складзеныя з тонкіх сасновых жэрдак, якія ляжалі няроўна і калолі бакі ляжачага нягладка абсечанымі сукамі.

На наступны дзень пасля міскі рэдкай баланды пагналі нас на працу. Паставілі пяцёркамі, пералічылі, аблятаючы ўсю калону некалькі разоў, загадалі ўзяцца пад рукі і пасля адчытання нязменнай формулы “шаг вправо, шаг влево считается побег, конвой стреляет без предупреждения”, акружыўшы аўтаматчыкамі і сабакамі, пагналі па глыбокім снезе. Праз кіламетры 2-3 мы дабрылі да велічэзных шліхтаў бярвення, накрытага трохметровым слоем снегу. Заданне было – зняць снежнае покрыва, а пасля качаць бярвене ламамі і грузіць на пад'ехаўшыя лесавозы. Бярвенне было грубае і доўгае. Работа незнаёмае, дык не абышлося і без траўмаў, адмаражэнняў і мазалёў…

Вечарам накармілі той самай баландай з дабаўленнем лыжкі рэдкай поснай ячнай кашы.. спаць ляглі не распранаючыся (па прычыне холаду і каб не застацца без вопраткі ці абутку), адзежа сохла на нас, напаўняючы барак кіслым смуродам. На наступны дзень паўтарылася тое самае, і так працягвался да самае вясны. У брыгадзе было 38 чалавек, але брыгадзір і шасцёра прыбліжаных да яго зладзюг, так званых “законнікаў”, не працавалі. Мы, рэшта брыгады, павінны былі выконваць нормы і за сябе, і за іх. А калі здаралася, што норму асілілі з надбаўкай, дык па дадатковай лыжцы кашы даставалася і тым абібокам.

Вясной пагналі нас выцягваць бярвенне, прыгнанае па рацэ да тартака. Складвалі яго ў вялікія шліхты або качалі да тартачнага транспарцёра. Апроч таго, пілавалі ўручную шпалы для чыгункі і вузкакалейкі, грузілі піламатэрыялы на аўтамашыны і г.д.

Ад непасільнай працы я пачаў занепадаць, дык мае таварышы прыклалі старанні, каб перавесці мяне ў іншую брыгаду. Памагла пасылка з дому…

Такім чынам я трапіў у брыгаду тынкоўшчыкаў і маляроў, у якой амаль выключна працавалі немцы Паволжа. Брыгадзірам быў таксама немец, чалавек спакойны і ўраўнаважаны. Тут я сустрэў зусім нечакана двух сваіх “землякоў”. Адзін з іх быў **Шаль, паляк, колішні галоўны інжынер шклозавода “Нёман”**, а другі семнаццацігадовы хлопец з Дзятлава Лёня Мазура, з якімі я зразу пасябраваў.

У гэтай брыгадзе працаваць было лягчэй (пераважна пад дахам), не было тут блатных і менш часу даводзілася быць пад нядрэмным вокам руплівых наглядчыкаў. Будавалі мы так званы шахткамбінат для новаадкрытага радовішча каменнага вугалю. Я стаў падсобнікам тынкоўшчыкаў.

У гэтым Камышлагу давялося прабыць каля трох гадоў. У красавіку 1954 года нас перакінулі ў Омск на будаўніцтва нафтаперагоннага завода. Лагер тут быў яшчэ большы і ўмовы існавання адпаведна цяжэйшыя. Нам давялося пачынаць амаль з нуля – і будаваць баракі пад уласнае жыллё, і капаць катлаваны пад падмуркі запраектаванага завода. Работы не спыняліся і ў самыя лютыя маразы.

Ад лагера да аб'екта працы быў выгараджаны доўгі калідор з высокіх слупоў, абцягнутых калючым дротам. Па гэтым калідоры ганялі на работу калоны зняволеных, а за дратамі адначасова беглі аўтаматчыкі і сабакаводы з грознымі аўчаркамі на павадках. Зона будоўлі была абнесена моцнай агароджай з вышкамі.

У пачатку 1955 года значную частку омскіх лагернікаў перавезлі ў Джэзказган на медныя руднікі. У гэты транспарт трапіў і я. Тым часам, пасля смерці Сталіна, лагерны рэжым памалу мякчэў, і лагернае начальства, клапоцячыся аб нашым перавыхаванні, рашыла паказваць нам патрыятычныя кінафільмы. Аднойчы, калі на пачатку кінасеанса пачалі круціць кіначасопіс і паказалі Омскі нафтаперапрацоўчы завод, а каментатар сказаў, што аб'ект быў збудаваны ў вельмі кароткі тэрмін сіламі ленінскага камсамолу, у зале падняўся небывалы вэрхал. Зняволеныя пачалі тупаць нагамі, свістаць і крычаць: “Ложь! Пропаганда! Обман! Мы строили, а не комсомольцы!..” Уміг было ўключана святло, у залу ўварваліся наглядчыкі і ўсіх разагналі. На гэтым культпрасветная дзейнасць нашых апекуноў

закончылася.

У Джэзказгане прыйшося папрацаваць і ў глыбінях шахты, і (пасля цяжкога прыступу, выкліканага запаленнем нырак) на паверхні.

У чэрвені 1956 года прыбыла ў наш лагер камісія Вярхоўнага Савета СССР, якая пачала пераглядаць справы зняволеных. Быў выкліканы і я, і 5 ліпеня 1956 года атрымаў даведку, у якой значылася, што "освобожден со снятием судимости".

А праз увесь час майго зняволення сям'я мая гаравала і мусіла зносіць здзекі і абразы.

Жонку на працу не прымалі, некалькі разоў выклікалі яе адпаведныя ўлады і змушалі аформіць са мной развод і перайсці на сваё дзявочае прозвішча. Старэйшая дачка ўладкавалася на працу ў калгас рахункаводам. Але праз некаторы час была звольнена без ніякай матывіроўкі. Малодшая дачка выдатна здала экзамен у настаўніцкі інстытут, але правучылася там толькі адзін месяц, пасля чаго была выключана. Жылі яны пры маіх старэнькіх бацьках у маленькай цеснай хаціне ў вёсцы Люташ Валожынскага раёна. Жонка зарабляла трохі шытвом, вязаннем, і сям'ёй працавалі на калгасных сотках.

У гэты час насцігла іх яшчэ адна бяда. Наш сын пайшоў першы раз у школу, але, правучыўшыся некалькі тыдняў, вельмі моцна абварыўся кіпнем. Лячыць прыйшлося дома, выздараўленне цягнулася доўга – не хапала лекаў і сродкаў на іх. А ў старэйшай дачкі абвастрылася хвароба каленнага сустава, дайшло да таго, што ўжо зусім не магла хадзіць...

Вярнуўшыся дадому, я павінен быў як найхутчэй знайсці працу, але пра маю даўнейшую прафесію (настаўніка) нельга было нават марыць – на перашкодзе стаяла сапсутая біяграфія.

Пасля двухмесячных бясплённых пошукаў і надзей, я зноў падаўся да мітрапаліта, які з уласнай ініцыятывы пад час майго зняволення падтрымоўваў матэрыяльна маю сям'ю. 29 верасня ён даў мне накіраванне ў **вёску Галавачы Скідзельскага раёна**, зазанчыўшы, што накіроўвае мяне туды часова. І 3 кастрычніка 1957 года я быў пераведзены ў **Петрыкаў**.

Два першыя гады жыцця ў Петрыкаве прайшлі ціха і адносна спакойна. Дочкі ўжо былі замужам, мы заставаліся толькі з сынам, які хадзіў у гарадскую сярэднюю школу. Да сваёй працы я прывык, зжыўся з людзьмі і карыстаўся аўтарытэтам сярод насельніцтва горада і раёна, на добрым уліку быў і ў свайго духоўнага начальства. Некаторы час быў дабрачынным Жыткавіцкай царкоўна-адміністрацыйнай акругі (пазней гэта дабрачынне было загадам мітрапаліта скасавана). Атрымаў усе магчымыя, звязаныя са стажам, епархіяльныя ўзнагароды.

І вось зноў, зусім для нас нечакана, зацікавіліся мною органы КДБ. Пачаліся выклікі ў гарсавет і райкам, спачатку зрэдку днём, а пасля штораз часцей і па начах. У адрозненне ад турэмных допытаў, дзе вёў следства адзін следчы, тут маёй апрацоўкай займаліся адначасова два, а то тры і больш чалавек. Спярша гутарка ішла пра час зняволення, пра лагерныя ўмовы і пра знаёмых і незнаёмых мне былых зняволеных і незняволеных. А калі я пачаў адмаўляцца ад паказанняў, мне сказалі, што мая справа не закончана, што яна можа быць, калі я буду паводзіць сябе неадпаведна, узноўлена. Нарэшце яны адкрылі мне сваю мэту: я павінен быў адмовіцца ад сану і публічна, праз прэсу, ахаяць рэлігію. Прыйшлося выкручвацца і змагацца ўсякімі спосабамі. Мае апекуны гвалтоўна не налягалі. Пасля кожнай "апрацоўкі", якая каштавала нямала здароўя, яны, адпускаючы мяне, раілі сур'ёзна задумацца над іхняй прапановай, задумацца над лёсам сям'і...

Праз некаторы час перайшлі ад запалохванняў да абяцанак, казалі, што я магу атрымаць настаўніцкую працу ў Гомелі або ў Рэчыцы. Абяцалі кватэру і добрую зарплату. Гэта быў час, калі многія святары (вядома, не па ўласнай ініцыятыве) пакідалі сан і аб'яўлялі пра гэта ў прэсе. Гэтага ж патрабавалі ад мяне. Бралі зморам. Нарэшце ў гэту акцыю быў уключаны і ўпаўнаважаны па справах культаў па Гомельскай вобласці, які сваю справу зрабіў. Прыдраўшыся да таго, што на свята Прэабражэння служба ў царкве не была закончана, як ён загадаў, да 11 гадзін, адабраў даведку – права выконваць абавязкі царкоўнаслужыцеля ў дадзенай вобласці.

Такім чынам з Петрыкавам прыйшлося развітацца, але, ад'язджаючы, я сказаў, што ніякага майго адрачэння ў прэсе не будзе. "Тады, - сказаў упаўнаважаны Патапаў, - на атрыманне добрай працы не разлічвай".

У гэты ж час паступілі трывожныя весткі з дому і прыспешылі наш выезд. Цяжка хварэлі нашы маці – мая і цешча, якая памерла ў той жа дзень, калі мы прыехалі дамоў.

І вось мы зноў апынуліся ў старэнькай бацькавай хатцы. Сын пайшоў за 3 кіламетры ў школу, жонка пачала клапаціцца аб маіх знямоглых бацьках, а я пачаў стукаць у розныя інстанцыі ў пошуках працы. Тыя, што мне яе абяцалі, больш не з'яўляліся, яны сваё зрабілі, атрымалі прэмію за вынікі сваёй працы і засталіся сядзець у Гомелі ці Менску, цяпер ужо я ім не быў патрэбен.

Ходзячы ў ролі прасіцеля, я сустрэўся і з бюракратызмам у самай махровай форме, і з абыякавасцю, і са зларадствам. Даўнейшыя знаёмыя не заўсёды мяне пазнавалі, вакол мяне склалася шмат плётак, домыслаў і перасудаў.

Больш за паўгода прыйшлося пахадзіць у

беспрацоўных. І толькі вясной наступнага, 1963 года прынялі мяне на працу ў Вішнеўскую СШ настаўнікам нямецкай мовы і малявання. Жыллё далі ў старым мураваным будынку – сыры і халодны пакой.

І тут спачатку справы складваліся нядрэнна. Я ўліўся ў настаўніцкі калектыў, хутка заваяваў аўтарытэт, як у дарослых, так і ў моладзі. Аднак па меры таго як умацоўваліся ў школе мае пазіцыі, пачаліся супраць мяне інтрыгі з боку дырэктара. Гэты тупалобы сталінец з былых тарбахватаў, якія называлі сябе партызанамі, паводзіў сябе пыхліва і самаўпэўнена і не мог зносіць побач з сабой таго, хто ведаў за яго больш і асмельваўся быць іншай думкі, чым ён. Апроч таго, у школьныя справы нахабна ўмешвалася ягоная жонка-клікуша, якая не мела ніякага дачынення да школы. Пасля маёй крытычнай заўвагі на гэтую тэму на мяне абрынуўся іхні неабмежаваны гнеў. Пачаліся дробныя пакасці адносна мяне і маёй жонкі, а пазней наогул жыць стала немагчыма. Апроч таго, пайшлі даносы на мяне ўва ўсе магчымыя інстанцыі – у КДБ, райкам, райвыканкам і нават у Саюз пісьменнікаў, калі выйшла з друку мая першая кніжка “Замкі і людзі”.

Вынікам гэтай пісаніны было тое, што, пасля шэрагу праверак, пастаўлены быў другі дырэктар школы. Аднак той самадур не супакоіўся і далей праводзіў сваю брудную інтрыгу супраць мяне. Па яго ініцыятыве была ўведзена ў школе французская мова, каб пазбавіць мяне навучальных гадзін. Мая зарплата знізілася да 45 рублёў у месяц, бо пачалі мне залічваць мінімальны стаж (толькі ў савецкай школе) і толькі за сярэднюю педагагічную адукацыю, а не як спачатку – за няпоўную вышэйшую. Не прызнавалі ўрэшце за мной права выкладаць нямецкую мову і гэтак далей...



*А Бярэзін. Хата П. Бітэля ў Вішневе, туш, пяро, 2001 г.*

А тым часам у 1965 годзе я паступіў у Менскі педінстытут імя М. Горкага на завочны факультэт беларускай мовы і літаратуры, а пазней на Маскоўскія курсы “Ин-Яз” на аддзяленне нямецкай мовы і ў 1970 годзе прад’явіў сваім паклёпнікам зараз два дыпломы. Гэта іх збянтэжыла, але ненадоўга. Інтрыгі не спыняліся, дык змушаныя створанымі нам невыноснымі ўмовамі ў школьнай кватэры, мы купілі ў Вішневе старую хату і перасяліліся ў яе.

У 1974 годзе мне прыйшлося пайсці на пенсію, якую налічылі ў суме 53 рублёў 15 капеек.

На заканчэнне – некалькі заўваг пра маю літаратурную дзейнасць. Пісаць пачаў яшчэ будучы студэнтам настаўніцкай семінарыі. Працягваў, працуючы настаўнікам. Аднак усе тыя спробы пяра загінулі ў час вайны. У друк трапіла толькі тое-сёе ў 1939-1941 гадах.

У польскіх часопісах з’явілася некалькі маіх артыкулаў на педагагічныя тэмы, а пасля аб’яднання Беларусі ў Валожынскай раённай газеце “Іскра” друкаваліся мае вершы і нататкі на розныя тэмы.




***Кніга Пятра Бітэля “Паэмы”***

У лагеры, выпадкова сутыкнуўшыся са зборнікам твораў А. Міцкевіча, я пераклаў на беларускую мову яго паэмы “Пан Тадэвуш”, “Конрад Валенрод” і “Гражына”.

Пазнейшым часам пераклаў і шэраг іншых яго твораў. Ароч таго, перакладаў вершы рускіх, польскіх, нямецкіх, славацкіх, украінскіх, літоўскіх і іншых паэтаў. Пісаў і ўласныя творы. У 1968 годзе выйшла мая паэма “Замкі і людзі”, у 1984-м – кніга “Паэмы”, у 1989-м – пераклад аповесці Ю.І. Крашэўскага “Хата за вёскай”. Публікаваліся мае вершы і пераклады ў альманаху “Далягляды” за розныя гады і ў розных газетах і часопісах Беларусі. У 1990 годзе выйшла кніга “Дзве вайны”. Членам Саюза пісьменнікаў БССР з’яўляюся з 1985 года.

*(Скарыстаны матэрыялы з часопіса “Куфэрак Віленшчыны” №5 за 2001 г.)*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ



**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшаў 1-шы том энцыклапедыі “Вялікае Княства Літоўскае”. 688 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**



**У выдавецтве “Тэхналогія”, г. Менск, выйшла кніга Алеся Жлуткі “Міндаў кароль Літовіі, у дакумэнтах і сьведчаньнях”. 136 ст. Наклад 250 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Мастацкая літаратура”, г. Менск, выйшла кніга п’есаў Аляксея Дударава “Князь Вітаўт”. Наклад 2000 асобнікаў. 320 ст.**




**У выдавецтве “Юніпак”, г. Менск, выйшаў “Катэхізіс...” Сымона Буднага Наклад 200 асобнікаў. 312 ст.**




**У выдавецтве “Мастацкая літаратура”, г. Менск, выйшаў гістарычны раман Алеся Наварыча “Літоўскі воўк”. Наклад 2000 асобнікаў. 288 ст.**




**У выдавецтве “Лімарыус”, г. Менск выйшла кніга эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш “Каб вы ведалі”. Наклад 500 асобнікаў. 448 ст.**




**У выдавецтвецкім цэнтры БДУ, г. Менск, выйшла кніга М. М. Чарняўскага “Ілюстраваная гісторыя Беларусі. Першабытны перыяд”. Наклад 1000 асобнікаў. 144 ст.**



**Рыцары ў Лідскім замку 17 верасня 2005 г.** *Здымак Ігара Пешахонава.*